

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

27 ЛІПЕНЯ 2001г. № 30/4114 КОШТ 129 РУБ.


## ЯПОНІЯ ДАЛЁКАЯ І БЛІЗКАЯ

***Косіна ГО:***
***"У мяне склалася ўражанне, што ў вас, беларусаў, адметны густ, які вельмі адрозніваецца ад густу рускіх — любоў да спакойнай, мастацкай каларыстыкі. Рускія і яшчэ кітайцы вельмі любяць яркія, раскошныя колеры. У вас і ў кераміцы, і ў іконах важную ролю іграюць натуральныя, прыродныя колеры. Гэта адначасова адпавядае і нашаму густу".***

**3**

## БАСАНОЖ ПА СВЯТОЙ ЗЯМЛІ

***Вячаслаў ЛАПЦІК:***
***"За мяжой я зноў пераканаўся ў тым, што часта наша беларуская шчырасць вылазіць нам бокам. Ну што тут зробіш, не ўмеем мы так хлусіць і ліслівіць, як могуць іншыя, хоць памры!"***

**5**

## САМЫ НІЖНІ ТАГІЛ

***Апавяданне Леаніда МАРАКОВА***

**8—9, 14—15**

## З КНІГІ "ПАЭТАГРАФІЧНЫ РАМАН"

***Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА***

**12**

## ШЛЯХІ І ВЯРТАННІ

***Навелы з натуры Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА***

**13**

Ідуць касцы, звяняць іх косы... Фота В. ДРАЧОВА



# КОЛА ДЗЁН

**Адбылося пасяджэнне Цэнтрвыбаркама, на якім была зацверджана колькасць подпісаў, здадзеных у выбарчыя камісіі ў падтрымку верагодных кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. 100-тысячны рубеж пераадолелі 4 кандыдаты: Аляксандр Лукашэнка (396375), Сямён Домаш (161471), Сяргей Гайдукевіч (136259) і Уладзімір Ганчарык (123380). Недабралі Сяргей Калякін (96957), Міхаіл Марыніч (96295), Леанід Калугін (95699), Міхаіл Чыгір (87308), Леанід Сініцын (86034), Юрый Дашкоў (80940), Павел Казлоўскі (80683), Аляксандр Ярашук (76312), Зянон Пазняк (75818), Віктар Цярэшчанка (68307), Сяргей Скрабец (13618), Канстанцін Капановіч (786) і т. д. Аднак гэтыя лічбы ў кожнага з прэтэндэнтаў у кандыдаты па іх асабістых падліках нашмат вышэйшыя, таму яшчэ нядаўна гаварылася, што як мінімум 11 чалавек сабрала больш за 100 тысяч. Сабраць то сабралі, але ж не падалі... "Пяцёрка" нарэшце вызначылася з адзіным кандыдатам. Ім стаў Уладзімір Ганчарык. У бліжэйшыя 10 дзён выбарчыя камісіі будуць правяраць подпісы ў падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта. З 21 жніўня кандыдаты будуць мець права на два выступленні па тэлебачанні і радыё, якія не будуць перавышаць 30 хвілін. Выступленні можна будзе пачуць па працоўных днях з 18.30 да 19.30 па БТ і з 8.00 да 9.00 — па радыё. Адным словам, усіх нас чакаюць цікавыя дзянькі...**

## ПАСЯДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі на сваім чарговым пасяджэнні разгледзеў пытанні выканання даходнай часткі бюджэту за першае паўгоддзе 2001 года, а таксама аб стане запазычанасці суб'ектаў гаспадарання па падатках і іншых абавязковых плацяжах. Так за паўгоддзе ў кансалідаваны бюджэт нашай краіны паступіла 25139 млрд рублёў, што складае 99 працэнтаў ад плана. Асноўнымі прычынамі невыканання плана з'яўляецца рост колькасці стратных прадпрыемстваў (на 1 студзеня 2001 года іх удзельная вага складала 10,7 працэнта, на 1 ліпеня — 14,3 працэнта), зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, павелічэнне гатовай прадукцыі на складах і інш. Аднак 99 працэнтаў гэта не 49 і нават не 89, а значыць у бюджэце грошы ёсць, і тут галоўнае як імі карыстацца, бо можна, калі пастарацца, план выканаць, як у савецкія часы, і на 200 працэнтаў...

## НОВАЎВЯДЗЕННЕ ТЫДНЯ

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь паведаміла "Інтэрфаксу", што сёлета прыём у медыцынскія вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай краіны павялічаны на 20 працэнтаў. Гэта адбылося за кошт скарачэння колькасці месцаў для будучых педагогаў. Такі крок абумоўлены тым, што апошнім часам попыт на атрыманне спецыяльнасці медыцынскага профілю значна вырас — летась студэнты-першакурснікі чатырох медыцынскіх ВНУ, якія знаходзяцца ў Мінску, Гродне, Гомелі і Віцебску, складалі каля чатырох працэнтаў ад агульнай колькасці паступаўшых у беларускія ВНУ. Аднак шкада, што павелічэнне прыёму ў медыцынскія навучальныя ўстановы будзе зроблена за кошт скарачэння колькасці месцаў для навучання будучых педагогаў, бо няўжо нашай краіне больш непатрэбны педагогі...

## ПАЛЁГКА ТЫДНЯ

Амаль 20 працэнтаў юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія не паспелі да 1 ліпеня гэтага года прайсці дзяржаўную рэгістрацыю, уздыхнулі з палёгкай, даведаўшыся пра заяву міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый Беларусі Анатоля Скорбежа, дзе гаворыцца, што дзяржаўная рэгістрацыя будзе прадоўжана яшчэ на год. Праўда, за папярэдні час, які быў адведзены на рэгістрацыю, можна было ўсім усё зрабіць даўно, што многія і зрабілі...

## ЗАФІКСАВАННЕ ТЫДНЯ

У Рэспубліцы Беларусь зафіксавана абсалютнае змяншэнне колькасці насельніцтва. Пра гэта паведаміў "Інтэрфаксу" ў прадстаўніцтве ААН у Беларусі. Колькасць насельніцтва нашай краіны ў параўнанні з 1989 годам скарацілася на 107 тысяч чалавек, што выклікана перавышэннем колькасці памерлых над колькасцю народжаных. У гарадскіх населеных пунктах жыве каля 6 млн 900 тысяч чалавек, што складае 69 працэнтаў усяго насельніцтва, у сельскай мясцовасці — 3 млн 84 тыс. чалавек або 31 працэнт. Больш за ўсё колькасць насельніцтва зменшылася ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, на 7 і 5 працэнтаў адпаведна. Па колькасці насельніцтва Беларусь займае 5-ае месца сярод краін СНД пасля Расіі, Украіны, Узбекістана і Казахстана. Сярод еўрапейскіх дзяржаў — 15-ае месца. Не такія ўжо мы і малалікія, але...

## ВАНДАЛІЗМ ТЫДНЯ

Больш сямі гадоў назад на ўрочышчы Курапаты, дзе ў 30—40-ыя гады мінулага стагоддзя сталіністамі праводзіліся масавыя расстрэлы людзей, у памяць загінуўшых быў устаноўлены невялікі манумент. На пліце выбіты надпіс на дзвюх мовах — англійскай і беларускай: "Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі беларускаму народу дзеля памяці". І вось у ноч на 22 ліпеня нейкія вандалы, інакш іх і нельга назваць, ад часткі помніка з англійскім тэкстам адбілі кавалак, а саму гранітную пліту адкінулі ад бетоннай падстаўкі прыкладна на два метры. Няўжо ў нас так некаторыя змагаюцца з Амерыкай?..

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

Усё больш і больш наша краіна набывае сусветную вядомасць у плане выпуску цудоўных алкагольных напояў. Многія маркі беларускай гарэлкі на прэстыжных міжнародных конкурсах займелі медалі самай высокай пробы. Чарговую калекцыю ўзнагарод сабрала на 8 міжнародным конкурсе-дэгустацыі "Пецярбургскі кірмаш він і гарэлак-2001" прадукцыя Мінскага завода ігрыстых він. Па выніках конкурсу беларускае "Савецкае шампанскае" марак "брут" і "паўсаладкае" атрымала залатыя, "сухое" — сярэбраны, "паўсухое", а таксама "Траецкае ігрыстае" — бронзавыя медалі. Ігрыстыя віны "Князь Вітаўт" і "Крыштальнае" былі адзначаны спецыяльнымі дыпломамі конкурсу "За высокую якасць". Хацелася, каб папераджэ поспехаў Мінскага завода ігрыстых він былі поспехі вытворцаў іншай беларускай прадукцыі, бо шампанскае шампанскім, і тым больш, што святы ў нас не кожны дзень...

## ЛІДЭР ТЫДНЯ

Што такое акцызы — ведаюць нямногія, але, відаць, амаль усе, хто ходзіць у крамы, чулі пра іх. Дык вось гэтыя акцызы таксама час ад часу растуць. Па частцы павелічэння акцызаў лідэрам з'яўляецца група він натуральных вінаградных і пладовых, шыпучых і газіраваных. У параўнанні з чэрвенем 2001 года акцызы па гэтай групе тавараў павялічацца ў ліпені 2001 года на 12,9 працэнта, у жніўні на 29 працэнтаў, і яшчэ на 29 працэнтаў у верасні гэтага года. У абсалютным памеры стаўкі акцызаў на 1 літр названых він павялічацца з 70 да 90 рублёў. Не так ужо і страшна, калі ў рублях... Ну а працэнты...

## ШЛЮБ ТЫДНЯ

Рана ці позна многія жэняцца. У адных шлюб адбываецца па-сямейнаму ціха і застаецца падзеяй толькі для жаніха, нявесты і іх сваякоў. У другіх, а такіх няшмат, вяселле набывае нават сусветную вядомасць. Так расійская тэнісістка Ганна Курнікава выйшла замуж за хакеіста Сяргея Фёдарава. Пра гэта паведаміла англійская газета "Сан". Ну і нашы сродкі масавай інфармацыі не абмінулі ўвагай гэтую шчаслівую пару... Хацелася б верыць, што шлюб іх будзе моцным, бо калі меркаваць па статыстычных звестках, то сёння рана ці позна многія як жэняцца так і разводзяцца — і не толькі ў нашай краіне, якая не на апошнім месцы па разводах...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У Вялікай зале Дома літаратараў адбылася вечарына, прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Івана Люцыяновіча Неслухоўскага — Янкі Лучыны. Як падкрэсліў у сваіх выступленнях старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, вядомы навуковец Уладзімір Мархель, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, дырэктар нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, мы яшчэ і дагэтуль не да канца ўсведамляем значэнне для беларускай літаратуры і культуры гэтай магутнай постаці, пра якую гаварыла зямля пагарджаная, якую намагаліся ўціснуць у мундзір расійскага чыноўніка, аддана дзеячу нацыянальнай культуры, які ў самыя цёмныя і страшныя часы прыгнёту ўсяго беларускага быў адным з пачынальнікаў беларускай справы. У выкананні ансамбля "Менскі гармонік" прагучалі песні на словы Я. Янішчыц, М. Пазнякова, Андрэй Хмызаў праспяваў рамансы Аляксандра Караленкі на словы Янкі Лучыны, Вячаслаў Статкевіч парадаваў слухачоў выкананнем народных песень. Кіраўнік тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева прачытала вершы славутага паэта.

●

"Быў. Ёсць. Буду", — гэтыя словы незабыўнага Уладзіміра Караткевіча ўзгадваліся ў памяці тых, хто прыйшоў у дзень 25 ліпеня на Маскоўскія могілкі. Дзень памяці Караткевіча, хоць праходзяць гады, не аддаляе, а набліжае да нас яго цудоўны вобраз, яго магутную адраджэнскую постаць.

З кветкамі і словамі шчырай любові прыйшлі да апошняга зямнога прытулку Уладзіміра Караткевіча старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, намеснікі старшыні Навум Гальпяровіч і Віктар Праўдзін, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Васіль Жуковіч, Ала Канапелька, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп. У кожнага знайшлося ў гэты дзень сваё цёплае душэўнае слова для Уладзіміра Сямёнавіча, слова пра яго для тых, хто любіў і любіць выдатнага сына беларускай зямлі.

**Н. К.**

●

Жлобінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Жлобінскі гарадскі Савет дэпутатаў прынялі рашэнне аб прысваенні звання ганаровага грамадзяніна горада Жлобіна пісьменніку Уладзіміру Канстанцінавічу Федасеенку, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, кавалеру шматлікіх ордэнаў і медалёў, іншых урадавых узнагарод.

**М. Р.**

ПАДЗЕІ

# Будзем прызвычайвацца...

Культура — неабходнасць і раскоша адначасова. Грошы на культуру можа выдаткоўваць толькі моцная ў эканамічным сэнсе дзяржава — але моцная эканоміка, у сваю чаргу, магчымая толькі ў культурнай дзяржаве. "Непісьменны" і "жабрак" заўжды і паўсюль сінонімы. Нацыянальны мастацкі музей такая ж візітоўка нашай краіны, як нашыя заводы-гіганты. Шкада, што не ўсе гэта разумеюць. Інакш, упэўнены, і прадукцыя нашых заводаў працей знаходзіла б дарогу на замежныя рынкі. Гэта гучыць банальна, але культура — не менш важны чыннік прагрэсу, чым грошы.

Паколькі Нацыянальнаму мастацкаму музею грошай трэба значна болей, чым у сённяшніх умовах можна выдаткаваць з бюджэту, музей у асобе яго дырэктара У. І. Пракапцова сам шукае спонсараў і інвестараў. 20 ліпеня адбылася падзея, якую без перабольшання можна назваць гістарычнай. Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў і дырэктар прадстаўніцтва BRITISH AMERICAN TOBACCO TRADING COMPANI у Беларусі Эдуард Грамовіч падпісалі двухбаковую дамову аб супрацоўніцтве, якая мае мэтаю падтрымку і далейшае развіццё нашай галоўнай мастацкай скарбніцы. Дамова прадугледжвае стварэнне Апякунскай рады музея. Кампанія BRITISH AMERICAN TOBACCO стала ініцыятарам і заснавальнікам першай і адзінай на сённяшні момант у Беларусі арганізацыі такога кшталту.

Кампанія будзе дапамагаць музею ладзіць выставы, музычныя вечарыны, міжнародныя навуковыя канферэнцыі. Не забытая і выдавецкая справа. Цяпер нашаму музею будзе прасцей выдаваць даведнікі, а таксама паштоўкі з рэпрадукцыямі твораў калекцыі НММ. BRITISH AMERICAN TOBACCO будзе спрыяць музею ў набыцці рэстаўрацыйных матэрыялаў, абсталявання і іншых неабходных у музейнай справе рэчаў. Кампанія гарантуе музею адпавядаючую ягонаму статусу інфармацыйную падтрымку.

"Першая ластаўка" супрацоўніцтва — выстава "Сучасная беларуская графіка. Новыя набыткі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь" (выстава працуе з 20 ліпеня па 31 жніўня). У наступным годзе гэта супрацоўніцтва падорыць мінскім гледачам выставу работ рускіх мастакоў 18—19 стагоддзяў з фондаў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі.

24 ліпеня адбылася прэс-канферэнцыя (у памяшканні прэс-цэнтра на Кастрычніцкай) з нагоды падпісання дамовы. Уладзімір Пракапцоў і менеджэр кампаніі па знешніх сувязях Дзяніс Гурыновіч паведамілі прысутным аб бліжэйшых і далёкіх планах, адказалі на пытанні журналістаў. Сярод пытанняў былі і такія: што будзе мець ад супрацоўніцтва кампанія BRITISH AMERICAN TOBACCO, і ці не стаўся ў выніку дамовы музей прапагандыстам курэння тытуню? "Кампанія ад супрацоўніцтва мае гонар удзельнічаць у справе захавання і памнажэння культурных каштоўнасцяў Беларусі", — адказаў спадар Гурыновіч. "Мы не прадаём цыгарэты ў музейным кіёску. Дык прычым тут прапаганда курэння?" — словы дырэктара музея.

Спадар Пракапцоў лічыць, што калі музейныя справы паставіць як мае быць, дык на мастацтве, культуры ўвогуле можна зарабляць немалыя грошы, і ён спадзяецца, што калі-небудзь музей зможа вяртаць дзяржаве тыя грошы, якія зараз бярэ. Калі не цалкам, дык часткова. Прычым, не падымаючы кошту білетаў для дзяцей і пенсіянераў.

Дзяніс Гурыновіч нагадаў, што кампанія не толькі вырабляе цыгарэты, але і выдаткоўвае немалыя сродкі на вырашэнне экалагічных праблем і прапаганду здаровага ладу жыцця.

Добрая справа распачатая. Ёсць падставы спадзявацца, што Апякунская рада музея будзе пашырацца. А мы, гледачы, будзем прызвычайвацца да эмблемы BRITISH AMERICAN TOBACCO на афішах ды іншай друкаванай прадукцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

ВЫСТАВЫ

# Графіка праз стагоддзі

На сярэдзіну лета прымеркаваў Нацыянальны мастацкі музей адкрыццё дзвюх выставаў графікі, адна з якіх падрыхтавана Інстытутам міжнародных сувязей Штутгарта ў супрацоўніцтве з Нямецкім культурным цэнтрам Гётэ ў Мінску, а другая — складзена з нядаўна набытых музеем твораў беларускай графікі. Такі "графічны" акорд будзе гучаць у Нацыянальным мастацкім музеі да восені, зацікаўлены гледач спакойна параўнае здабыткі беларускай графікі апошніх год з малюнкамі і друкаванай графікай Германіі канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Выстава "Паўла Мадэрзон-Бэкер і мастакі Варпсведэ" каштоўная тым, што на Беларусі ўпершыню паказваюцца арыгінальныя творы вядомай нямецкай мастачкі і яе сяброў. Калонія мастакоў Варпсведэ каля Брэмена была адной з найбольш вядомых у Германіі, у яе склад уваходзілі маладыя творцы, якія шукалі ў паўночна-нямецкім пейзажы адыход ад традыцыйных акадэмічных нормаў. Змест міфалагічных і гістарычных палотнаў выхаванцы Мюнхенскай і Дзюсельдорфскай акадэміі Фрыц Макензен, Ота Мадэрзон, Ханс ам Эндэ апявалі прыроду, знаходзячы рамантыку ў бядняцкіх халупах. Усе мастакі калоніі Варпсведэ сталі знакамітымі пасля выставы ў мюнхенскім Шкляным палацы. Але найбольшую папулярнасць сярод іх займела менавіта Паўла Мадэрзон-Бэкер, якая зрабіла важкі ўнёсак у развіццё нямецкага мадэрна. Выстава, якую сёння можна паглядзець у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прасякнута свежасцю і непасрэднасцю ўспрымання прыроды і людзей. Усе графічныя лісты нібы зроблены на адным подыху, у кожным з іх адчуваецца нешараговая асоба, таленавіты мастак і нечаканы назіральнік. І таму выстава нямецкай графікі канца XIX ст. глядзіцца не менш цікава, чым збор графічных твораў беларускіх мастакоў канца XX ст.

**Н. Ш.**

АДГАЛОСКІ

# У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча заўсёды гасцінна расчынены дзверы

СПАДАРУ Яўгену АДАМОВІЧУ, АЎТАРУ АРТЫКУЛА "КРЫНІЦ СМАРГОНСКІХ ПЕРАЗОВЫ" ("ЛіМ", 20.07.2001).

Добрай традыцыяй стала праведзенне кірмашоў на Траецкім прадмесці ў Мінску. Супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча заўсёды рады бачыць і ўдзельнікаў, і гасцей свята, гатовы прымаць удзел у працы "Літаратурнай гасцёўні".

На жаль, з-за дрэннай арганізацыі адбываюцца розныя недарэчнасці. Так, арганізатары Траецкіх кірмашоў не ўзгадняюць свае планы з планамі працы музея, не паведамляюць канкрэтную дату і час правядзення "Літаратурнай гасцёўні". Супрацоўнікі музея заўсёды гатовы пазнаёміць наведвальнікаў з экспазіцыяй, правесці экскурсію. Але ж правядзенне мерапрыемстваў патрабуе асобных намаганняў: трэба падрыхтаваць залу, прынесці лаўкі, трэба паведаміць колькасць супрацоўнікаў (у выхадны дзень дзяжурыць толькі адзін навуковы супрацоўнік). Мы маглі б даваць і рэкламу "Літаратурнай гасцёўні" праз радыё, друк. Але ж арганізатарам патрэбна, здаецца, толькі памяшканне. А тое, што Траецкія кірмашы даюць магчымасць жыхарам іншых гарадоў і раёнаў Беларусі пазнаёміцца з музеем Максіма Багдановіча, з яго цудоўнай паэзіяй, арганізатары, нават, і не ўспамінаюць.

Выпраўляючы хібы ў правядзенні кірмашоў, мы запрашаем Вас, Яўген Адамовіч, Вас, паважаная спадарыня Людміла Касяк, а таксама іншых арганізатараў свята для сур'ёзнай размовы пра будучае "Літаратурнай гасцёўні", каб надалей не было такіх недарэчнасцяў.

Мы заўсёды рады бачыць Вас у музеі, давайце працаваць не паасобку — давайце працаваць разам.

**Супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча**

# Японія далёкая і блізкая

***На традыцыйным свяце беларускай паэзіі ў Вязынцы сярод запрошаных з Мінска гасцей быў і незвычайны госць — аташэ прадстаўніцтва Японіі ў Беларусі Косіна Го. Спадар Го з цікавасцю слухаў вершы нашых паэтаў, задаваў ім пытанні, нават спрабаваў размаўляць на беларускай мове. Пасля — таньчыў беларускую полечку з фальклорным гуртом... Выявілася, што спадар Го па адукацыі філолаг, таму яго цікавасць да нашай літаратуры і нацыянальнай культуры пэўным чынам тлумачыцца прафесійнай скіраванасцю.***

***Спадар Косіна Го на пасадзе аташэ прадстаўніцтва Японіі ў Беларусі ўжо два месяцы. Нарадзіўся ён у 1972 годзе ў горадзе Сапара, на востраве Хакайда. Менавіта там, дарэчы, жыў першы консул Расійскай імперыі ў Японіі, ураджэнец Беларусі І. Гашкевіч. Бацька спадара Го — гісторык архітэктуры, займаецца параўнаннем архітэктурных стыляў Японіі і Еўропы. Цяпер, у сувязі з новай пасадай сына,зацікавіўся і архітэктурай Беларусі. Маці, акрамя хатняй гаспадаркі, захапляецца дызайнам адзення.***
***Так што зацікаўленасць новага аташэ сусветнай літаратурай і культурай, пэўна ж, была абумоўленая і хатнім выхаваннем. Ён скончыў аддзяленне рускай мовы і літаратуры Хакайдскага універсітэта ў Сапара, зараз вучыцца там у аспірантуры.***
***Працуе над тэмай "Руская проза эпохі рамантызму".***

***Спадар Косіна ГО наведаў рэдакцыю нашага штотыднёвіка, адказаў на пытанні рэдактара аддзела крытыкі Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ.***

**— Го-сан, як вы трапілі на працу ў Беларусь? Гэта выпадак ці адбылося па вашым жаданні?**

— Гэта адбылося па маім жаданні. Пачалося, вядома з выпадку. У Японіі ёсць арганізацыі, якія запрашаюць на адпачынак у нашую краіну дзяцей з Беларусі. Такіх арганізацый няшмат, але яны ёсць. І тры-чатыры гады таму група гасцей з Беларусі прыехала на маю родную зямлю. Я дапамагаў ім у якасці перакладчыка. Дзякуючы іх запрашэнню, я і наведаў Беларусь першы раз. Прабыў тут тры месяцы. Гэтага тэрміну аказалася мала , бо я захацеў вывучаць беларускую мову і літаратуру . Я па спецыяльнасці філолаг, вывучаў ва універсітэце рускую літаратуру. Мне спадабалася ваша краіна і людзі. У Японіі я шукаў такую працу, якая дазволіла б мне працаваць у Мінску. Даведаўся, што ў пасольстве патрабуецца чалавек, які валодае рускай мовай. Вытрымаў конкурс і заняў гэтую пасаду.

**— Вы ў нас нядаўна, але наколькі вы ўжо паспелі авалодаць беларускай мовай і што даведаліся пра беларускую літаратуру?**

— Магу чытаць са слоўнікам. Граматыку ў прынцыпе ведаю, хаця часам памыляюся. Зараз чытаю кнігу вершаў Максіма Багдановіча — у мяне ёсць яго трохтомнік. Хачу для пачатку пазнаёміцца з беларускай паэзіяй і прозай, прысвечанай тэме Чарнобыля. Збіраю такія матэрыялы, таму што лічу, што для Японіі гэта актуальна. У нас ёсць шмат літаратуры на тэму Хірасімы, і можна параўноўваць.

**— А ці ёсць у Японіі выданні, аналагічныя нашаму штотыднёвіку?**

— Думаю, такіх газет, якія пішуць толькі пра літаратуру і мастацтва, няма. Калі ёсць, дык толькі для аматараў, невялікай колькасцю экзэмпляраў. Вядома, сучасная японская літаратура існуе, хаця не так "арганізавана", як у вас.

**— Напэўна, у Японіі таксама існуе падзел на літаратуру для масаў і "высокую" літаратуру ? На што існуе тая "высокая" літаратура? Ці фінансуе дзяржава нейкія літаратурныя праекты?**

— Не, дзяржава не фінансуе выданне кніжак. Існуе некалькі сістэмаў, якія дапамагаюць захоўваць культуру. Але ў прынцыпе ў нас лічыцца, што пісьменнікі павінны самі зарабляць грошы.

**— А такія сусветна вядомыя майстры, як Кэндзабура Оэ, Коба Абэ? Якім попытам карыстаюцца іх кніжкі?**

— Кэндзабура Оэ дастаткова папулярны ў Японіі, у кожнай кніжнай краме прадаюцца яго кнігі кішэннага фармату. Ён можа спакойна жыць на заробленыя грошы. Але такіх літаратараў мала.

**— Я чытала, што на пачатку стагоддзя ў Японіі існавалі літаратарскія цэхі. На чале такога цэху быў майстар, вядомы пісьменнік, у яго былі вучні. Такому пісьменніцкаму цэху належалі свае выдавецтвы, свае часопісы, і трапіць туды "з боку" было немагчыма. А як арганізаваныя пісьменнікі ў Японіі цяпер?**

— Літаратурных "цэхаў", вядома, больш няма. Зразумела, ёсць пісьменніцкія згуртаванні, але яны не такія ўплывовыя, як раней. Такой арганізацыі, як ваш Саюз пісьменнікаў, у нас няма. Дзейнічае Пэн-клуб, яшчэ некалькі падобных. Але яны не адыгрываюць у жыцці грамадства такой важнай ролі, як у вас. Мяне найбольш здзівіў у вашай краіне якраз Саюз пісьменнікаў. Калі пісьменніцу Вольгу Іпатаву абралі старшынёй Саюза пісьменікаў, пра гэта напісалі ўсе цэнтральныя газеты з вялікімі накладамі. У нас такое цяжка ўявіць.

**— У нашым уяўленні Японія — краіна, дзе захоўваюцца старажытныя традыцыі. Ці існуюць хаця б у стылізаванай форме знакамітыя японскія паэтычныя турніры, на якіх нараджаліся "счэпленыя строфы" — рэнгэй, адкуль бяруць свой пачатак хайку і танка?**

— Мне здаецца, што ў паэтаў цяпер вельмі цяжкі час. Таму што празаікаў у нас у Японіі ўсё-ткі чытаюць, а вершы ўжо не так папулярныя. У школе вывучаюць традыцыйную японскую паэзію, хайку, танка. Ёсць людзі, якія іх складаюць. Але гэта лічыцца не так выгадна. Большасць паэтаў не могуць жыць за кошт сваёй паэзіі.

**— Ці можна сказаць, што японская літаратура еўрапеізуецца?**

— Наша культура прымае розныя традыцыі — еўрапейскую, кітайскую, японскую, але ўсё гэта пераўтвараецца ў нешта своеасаблівае. Вядома, ёсць такая з'ява, як еўрапеізацыя, хутчэй — амерыканізацыя культуры. Але традыцыя захоўваецца. Ёсць таленавітыя, папулярныя японскія пісьменнікі, іх кнігі выдаюцца. Але мне здаецца, пасля Другой сусветнай вайны замест традыцыйнай літаратуры настаў час кіно, пасля — час комікса. Вядома, некаторыя такую культуру лічаць несур'ёзнай, дзіцячай. Коміксы ў нас вельмі распаўсюджаныя. І прадназначаныя яны не толькі для дзяцей. У выглядзе коміксаў выдаюцца фантастыка, гістарычныя раманы, сатыра, нават авангардныя рэчы. Думаю, сёння самыя таленавітыя творчыя людзі працуюць у жанры коміксаў, а не ў традыцыйнай літаратуры ці кінамастацтве.

**— Дарэчы, пра авангард... Знакавай фігурай японскай культуры для нас з'яўляецца і Йока Она, жонка Джона Ленана. Гэтая жанчына — феномен для японскай культуры ці звычайная з'ява? Як ставіцца да авангарда, нетрадыцыйнага мастацтва грамадства?**

— Такіх, як Йока Она, у нас няшмат. Цікава, а як вы ставіцеся да гэтай асобы?

**— Ну, я б сказала, двaіста...**

— Вось і ў Японіі таксама.

**— Быў час, калі Японія запазычвала ад кітайскай культуры — алфавіт, літаратурныя і мастацкія традыцыі. І нейкі час мовай літаратуры і навукі ў Японіі лічылася кітайская мова. Пасля японцы гэта пераадолелі і стварылі ўласную самабытную культуру. Сёння для нас таксама вельмі актуальна адстояць самабытнасць і вартаснасць сваёй мовы і літаратуры ў дачыненні да рускай...**

— Да нядаўняга часу веданне кітайскай мовы сапраўды было абавязковым у Японіі для заняцця некаторых пасадаў. Дзяржаўны чыноўнік мусіў умець сачыніць верш па-кітайску. Гэтая традыцыя знікла зусім нядаўна. Да апошняй сусветнай вайны яна яшчэ існавала. Японская мова і кітайская мова адыгрывалі розныя ролі ў нашай культуры. Калісьці вершы і прозу на кітайскай мове ў Японіі сачынялі толькі мужчыны. А жанчыны — толькі па-японску.

**—Чаму?**

— Так лічылася правільным.

**— Напэўна, для жанчыны кітайская мова лічылася занадта высакароднай?**

— Магчыма, так. Але гэта было вельмі даўно, тысячу гадоў таму. Тады існавала шмат пісьменніц, якія сачынялі па-японску. Японскім мужчынам, на жаль, забаранялася пісаць на нацыянальнай мове.

**— Няўжо можна сказаць, што японскую літаратуру заснавалі жанчыны?**

— Ну, з вялікім дапушчэннем... Напрыклад, у той час жыў адзін таленавіты паэт, Кіноцураюкі . Ён вельмі хацеў пісаць свае сачыненні па-японску. Таму пачаў пісаць ад імя жанчыны.

**— Вы занялі сваю сённяшнюю пасаду ўсяго два месяцы таму. Але, напэўна, нейкія ўражанні ў вас ужо скаліся —- ад нашай краіны, нашых людзей, у тым ліку творчых...**

— Мяне ўразіла, што ў вашым грамадстве пісьменнік адыгрывае такую важную ролю. Я паспеў пабываць на Лагойшчыне, наведаў месца, дзе нарадзіўся паэт Ніл Гілевіч. Пабываў на свяце паэзіі ў Вязынцы, на радзіме Янкі Купалы. Я вельмі ўдзячны, што трапіў на такое свята. Даўно чуў пра Вязынку і хацеў яе наведаць. Планую за час працы на Беларусі — а гэта мінімум два гады, — наведаць яшчэ шмат якія мясціны, і, безумоўна, вывучыць беларускую мову.

**— Якія планы ў японскага**



**прадстаўніцтва на Беларусі ў плане культурнага абмену?**

— Зараз адбылася выстава японскай керамікі. Плануем зрабіць канцэрты традыцыйнай японскай музыкі. Чарнобыльская тэма ў вашым мастацтве і літаратуры павінна цікавіць усіх японцаў. Думаю, гэта не зусім добра, але калі ў японцаў папытацца, што за краіна Беларусь, яны пакуль успомняць толькі пра Чарнобыль. У нас пераклалі кнігу Святланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва", і яшчэ дзве яе кнігі — "Цынкавыя хлопчыкі" і "Апошнія сведкі". Перакладзеныя яшчэ творы Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Таму аматары літаратуры ў Японіі могуць ведаць Беларусь праз тэму Другой сусветнай вайны і Чарнобыля. Ёсць у вас цікавы пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Я заўсёды пытаюся ў людзей — якія ў вас самыя цікавыя пісьменнікі? На Беларусі большасць адказвае — гэта Караткевіч. Я прачытаў урывак з твора гэтага пісьменніка. Вельмі складана перакласці. Каб пазнаёміць японцаў з творамі Караткевіча, трэба найперш пазнаёміць іх цалкам з беларускай культурай, гісторыяй. Некаторыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зробленыя. У 1998 годзе ў Токіо выйшаў "Частотны слоўнік беларускай мовы", складзены вядомым японскім славістам Рюносукэ Курода.

**— Беларусаў называюць кансерватыўнай нацыяй, якая не любіць пераменаў. Японцаў, здаецца, таксама... Калі гаварыць пра беларусаў і пра японцаў як пра дзве нацыі, якія жывуць у сучасным свеце, — што між імі рознага , што агульнага?**

— У мяне склалася ўражанне, што ў вас, беларусаў, адметны густ, які вельмі адрозніваецца ад густу рускіх — любоў да спакойнай, мастацкай каларыстыкі. Рускія і яшчэ кітайцы вельмі любяць яркія, раскошныя колеры. У вас і ў кераміцы, і ў іконах важную ролю іграюць натуральныя, прыродныя колеры. Гэта адначасова адпавядае і нашаму густу. Японцы таксама любяць такія няштучныя, прыродныя колеры. І гэтым мы адрозніваемся ад кітайскай культуры.

**— Як вам падабаецца Мінск?**

— Вялікія вуліцы, многа зялёных дрэваў, спакойна. У нас у Японіі ў гарадах шмат насельніцтва. Вельмі цесна. Людзі паўсюль ездзяць на роварах. Шкада, што ў Мінску захаваліся не ўсе архітэктурныя помнікі. Я чуў, што ў час вайны шмат іх было зруйнавана, і не ўсе адноўленыя. Але я думаю, у вас ёсць яшчэ магчымасць аднавіць свой горад. Вядома, японская культура вельмі адрозніваецца ад вашай. Але ёсць і ўзаемная зацікаўленасць. Мне здаецца, у нашай літаратуры сёння самае цікавае — коміксы. Не тамагочы і Пакемоны, вядома. Я хацеў бы пазнаёміць беларусаў з сучаснай японскай культурай менавіта з дапамогай коміксаў. Многія японскія коміксы перавeдзеныя на англійскую, французскую, італьянскую, іншыя мовы. Ёсць пераклады на рускую мову, хаця і не вельмі шмат. Вы можаце шмат даведацца пра наша жыццё праз коміксы. У коміксах цяпер сінтэзуецца і японская мастакоўская традыцыя. Яны выходзяць накладамі па меншай меры мільён асобнікаў.

**— А які наклад у кніг Кэндзабура Оэ?**

— Канкрэтна пра наклады Кіндзабура Оэ я не ведаю, але ўвогуле для такой літаратуры наклад у дзесяць тысяч — гэта ўжо вельмі добра.

**— Думаю, многія з праблем японскай літаратуры уласцівыя і для нашай, ці ў хуткім часе зробяцца для яе актуальнымі. Дзякую за гутарку. Спадзяемся, што вы не апошні раз у гасцях у нашай газеты.**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА*

## Пад Багрымаў перазвон

Падчас абласнога фальклорна-этнаграфічнага фэсту "Талакуха на Бярэсці", што праходзіў на турыстычнай базе Лясное возера, паблізу Баранавіч, спаборнічалі кавалі — кожны мусіў хутка выкаваць падкову. У аднаго з майстроў яна, яшчэ цёплая, і прапала. Але старшыня журы, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута вырашыў, што гэта якраз і ёсць вышэйшай адзнакай для каваля.

Напярэдадні фэсту амаль год у раёнах вобласці праходзілі агляды фальклорных калектываў, у якіх удзельнічала каля дзвюх з паловай тысяч энтузіястаў. 600 з іх — рознага ўзросту і прафесій — удзельнічалі ў фінале на Лясным возеры. Самай маленькай артысткай была сямігадовая Воля Сацюк, самай шаноўнай — 85-гадовая Ганна Галаўчук.

Свята-спаборніцтва кавалёў "Багрымаў перазвон" — названа ў гонар слыннага паэта-каваля Паўлюка Багрыма, які жыў у Крошыне Баранавіцкага павета.

Своеасаблівым падвядзеннем вынікаў фэсту стаў "круглы стол" на тэму "Фальклор" і сучасная культура", які вёў начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама — старшыня аргкамітэта Рыгор Бысюк.

**М. Д.**

*ВІЦЕБШЧЫНА*

## "Славянскі базар" адзначае юбілей

Дзесяты Міжнародны мастацкі фестываль "Славянскі базар у Віцебску" адзначае свой першы юбілей. На гэты раз аргкамітэт не пайшоў па шляху шырокай мастацкасці, а сканцэнтраваў свае сілы на правядзенні праграм больш якаснай вартасці. Іх, дарэчы, як і заўсёды, каля 120-ці. На фестываль працуюць 16 пляцовак. У Віцебск з'ехаліся каля 5 тысяч удзельнікаў і гасцей фестывалю з 36 краін свету.

У першыя дні прайшоў міжнародны фестываль дзіцячай творчасці і фальклорнае свята "Горад майстроў". На прэс-канферэнцыі, прысвечанай адкрыццю "Славянскага базару" міністр культуры РБ Леанід Гуляка падрабязна спыніўся на механізме фінансавання гэтага свята. Намеснік міністра культуры РФ Віктар Ягорычаў адзначыў, то Расія зараз перажывае сапраўдны фестывальны бум, але фестывалю такога высокага кшталту не мае. І сапраўды, на 35-ай штогадовай асамблеі Міжнароднай Федэрацыі фестывальных арганізацый (FIDOF) у французскіх Канах "Славянскі базар у Віцебску" афіцыйна названы фестывалем 2000 года за дасягненні мэтаў FIDOF "умацоўваць мір і сяброўства праз музыку і мастацтва".

Да юбілею быў падрыхтаваны тэатралізаваны канцэрт з удзелам лаўрэатаў і пераможцаў усіх папярэдніх конкурсаў маладых выканаўцаў эстраднай песні. Дарэчы, за 10 год у віцебскім конкурсе прынялі ўдзел 173 спевакі. Па-рознаму склаўся іх творчы лёс, але ўсе яны прызнаюць, што журы нашае — самае аб'ектыўнае ў свеце.

У рамках фестывалю ўпершыню прайшоў Дзень сяброўства трох братніх народаў Украіны, Беларусі і Расіі. Невыпадкова, мастацкі кіраўнік гала-канцэрта Міхаіл Фінберг адзначыў на сустрэчы з журналістамі: "Кожная нацыянальная культура павінна быць інтэрнацыянальнай".

**С. ГУК**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА*

## Светлагорскія краявіды

Неўзабаве Светлагорск будзе адзначаць сваё саракагоддзе. Да святкавання гэтага юбілею гарвыканкамам, абласным упраўленнем культуры і абласной арганізацыяй Саюза мастакоў распрацаваны грунтоўны план мерапрыемстваў па прапагандзе гісторыка-культурнай спадчыны светлагорскага краю. Сярод іх — мяркуецца ў жніўні правесці рэспубліканскі выязны пленэр жывапісцаў "Светлагорскія краявіды".

Для ўдзелу ў ім запрошаны вядомыя мастакі краіны, у тым ліку — выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў. Ужо на пачатку пленэру ўдзельнікі зробяць выставу сваіх работ, затым будуць працаваць у самых маляўнічых кутках Светлагоршчыны і па традыцыі наладзяць экспазіцыю новых палотнаў, частку з якіх перададуць у дар гораду.

## Стэла ля Навабеліцы

Навабеліца — паўднёвыя вароты Гомеля. Некалі праз яе ехаў у высылку Аляксандр Пушкін. Зараз адміністрацыя Гомельскага раёна вырашыла паставіць на ўскрайку Навабеліцы стэлу ў гонар яе заснавання, пазначанага 1775 годам.

Манумент у тэхніцы мазаікі выканаў сябра Саюза беларускіх мастакоў Пятро Фей разам з памагатымі Міколам Лапіцкім і Уладзімірам Сільчанкам.

**А. ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА*

## Паэзія ад "Саламеі"

"Саламея" — гэта, як пазначана на вокладцы,выданне для самастойных жанчын. Толькі што ў Гродне выйшаў яе дзесяты нумар за травень-чэрвень. Ён адметны перш за ўсё тым, што сярод шматлікіх жаноцкіх "дат і рубрык" на гэты раз з'явіўся нечаканы адрас — анталогія жаночай паэзіі.

Яе складальнік, паэт і навуковец Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Юрась Пацюпа на ўласнае пытанне — ці ёсць жаночая паэзія? — сам жа дае адказ: раз ёсць жанчыны, што пішуць вершы, значыць ёсць і жаночая паэзія.

На пачатку анталогіі змешчаны творы беларускіх паэтак XIX стагоддзя і нашаніўскай пары — Адэлі з Устроні, Цёткі, Канстанцыі Буйлы, Марыі Косіч, Зоські Верас, Юстыны, Уладзіславы Станкевічанкі (Купалавай жонкі), Ванды Лявіцкай ды іншых.

**Р. Г.**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА*

## Абменныя гастролі

Сёння завяршаюцца гастролі ў Мінску Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, якія пасля 20-гадовага перапынку праходзілі на купалаўскай сцэне. Яны распачаліся ў чэрвені, якраз пасля таго, як купалаўскі тэатр завяршыў свае гастролі ў Магілёве. На прысуд мінскага гледача калектыў прывёз найперш камедыю А. Астроўскага "Шалёныя грошы" ў пастаноўцы Уладзіміра Шчэрбаня, які, дарэчы, распачынаў працу ў Магілёўскім тэатры, а цяпер з'яўляецца рэжысёрам Купалаўскага.

Гастрольная афіша магіляўчан была прадстаўлена спектаклямі "Калі б я ведала, што ты прыйдзеш..." паводле меладрамы Б. Слэйда (рэжысёр — А. Гузій), "Сканчэнне свету" па драме Максіма Горкага (рэжысёр — С. Папашчанкаў), "Сніўся мне сад..." паводле А. Чэхава ў пастаноўцы А. Жугжды. Дапоўнілі афішу дзве прэм'еры: спектакль "У адкрытым моры" па п'есе С. Мрожака (рэжысёр — У. Пятровіч) і фарс "Моцнае пачуццё" паводле твораў І. Ільфа, Я. Пятрова, А. Чэхава, М. Зошчанкі, У. Маякоўскага ў пастаноўцы Ю. Лізянкевіча.

Акрамя абменных гастроляў, калектывы магіляўчан і купалаўцаў падпісалі дамову аб супрацоўніцтве: у бліжэйшы час мінскія рэжысёры Уладзімір Савіцкі і Аляксандр Гарцуеў распачнуць новую пастаноўку на магілёўскіх падмостках з удзелам тамтэйшых артыстаў.

**Н. К.**

## Прэзентацыя "Лясной панны"

**У музеі Максіма Багдановіча адбылася прэзентацыя кнігі Іны Снарскай "Лясная панна". На яе прыйшлі і выступілі пісьменнікі ўдзельнікі III з'езда беларусаў свету Анатоль Кірвель і Станіслаў Валодзька, а таксама кампазітар з Магілёва Мікола Яцкоў. Гасцей цёпла віталі супрацоўнікі музея на чале з дырэктарам Ірынай Думанскай. Экскурсавод Святлана Кіслова пазнаёміла прысутных з экспазіцыяй музея, а паэт-бард Эдуард Акулін са сваімі новымі песнямі. На прэзентацыі выступіў старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча Валеры Барташ. Імпрэзу вяла Тацяна Шэляговіч.**

**Н. К.**

## Яшчэ не вечар



**Самадзейны музычны гурт "Яшчэ не вечар" — душа беларускай суполкі ў Львове. "Мы за духоўнае адраджэнне самадзейнай творчасці!" — кажуць артысты-аматары Аляксандра Воліна, Юры Кулік, Алеся Глух, Галіна Чарнецкая, Дзіяна Львоўская, Тамара Дацьб. Не толькі кажуць, але й дзейнічаюць. А дакладней, выступаюць з беларускімі песнямі, шануючы багатыя самабытныя беларускія традыцыі. Робяць гэта з бляскам, выдумкай, гумарам. Рэжысёр тэатралізаваных прадстаўленняў гурта — Галіна Кулік, менеджэр — Ала Вялікарэцкая.**

*На здымку: львоўскі самадзейны гурт "Яшчэ не вечар".*

## Школьнікі пішуць гісторыю

**У краіне, дзе гісторыя перапісваецца кожны раз са зменаю ўлады, наўрад ці можна спадзявацца на моладзь, якая будзе ведаць гісторыю сваіх продкаў... Інакш мяркуюць сябры мінскага грамадскага аб'яднання "Дыярыюш", што на працягу паўгода праводзілі конкурс даследчыцкіх прац сярод школьнікаў "Мой радавод: лёс сям'і ў XX ст".**

**Конкурс быў наладжаны ў рамках агульнаеўрапейскай праграмы па вывучэнні школьнікамі так званай блізкай гісторыі. Менавіта роспыты сваіх родных і блізкіх, знаёмства з сямейнымі фотаальбомамі, дакументамі дапамагаюць моладзі практычна зразумець гісторыю сваёй краіны. Сярод больш як 380-ці прадстаўленых на конкурс работ хіба што з дзесятак былі напісаны ў выглядзе "рапартаў" пра баявыя і працоўныя подзвігі бацькоў у розных пяцігодках. Бальшыня з іх — гэта спроба адказаць на вострыя пытанні беларускай гісторыі.**

**Мяркуецца на пачатку восені выдаць лепшыя конкурсныя работы асобным зборнікам, які стане яшчэ адным альтэрнатыўным падручнікам па найноўшай гісторыі Бацькаўшчыны.**

**АГА**

## "Беларуская думка", № 6

**У раздзеле "Літаратура і жыццё" змешчаны вершы Я. Міклашэўскага і навелы А. Юдзіцкага. 150-годдзю з дня нараджэння Я. Лучыны прысвечаны артыкул А. Вішнеўскага "Выходзіў змагацца за ранне", што прапануецца ў раздзеле "Асоба". У. Вялічка і А. Марціновіч ("Слуцкі край, вядома, не рай, але жывуць тут годна") запрашаюць на Случчыну, расказваючы пра яе сённяшні дзень. Э. Іоффэ ("Галоўны горад Еўропы") знаёміць з горадам Беразіно. "Крэмній і золата — асноўныя матэрыялы для мікрасхем, — зазначае ў артыкуле "Крэмній і золата" Г. Булыка. — А яшчэ гэта метафара. Крэмній — сіла беларускай зямлі, а золата — інтэлект нашых людзей. Менавіта на іх надзея. На золата і на крэмній". А адкрываецца нумар фотарэпартажам В. Жывіцы і М. Амельчанкі "Лета краснае, ты са мной".**

# "Не кінуце каменем у неба памяці..."

***Паэтэса Ніна ЗАГОРСКАЯ вызначаецца своеасаблівым паэтычным светабачаннем. Да таго ж, яна актыўна займаецца падтрымкай маладых талентаў — выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры.***

**— Ніна Сямёнаўна, у вас ёсць нізка вершаў, якая называецца вельмі сімвалічна "Птушкі памяці". Адкуль такая назва?**

— Усю сваю творчасць я магу назваць "Птушкі памяці": менавіта таму і "Птушкі памяці", што там на маёй малой радзіме — востраў паэзіі, дзе нарадзіўся і пайшоў у свет Адам Міцкевіч (хутар Завоссе, 5 кіламетраў), Паўлюк Багрым (Крашын на Шчары), Валянцін Таўлай з Баранавіч. Адрасы нашай любові, непарыўная сувязь з малой радзімай — у нашых творах. Ёсць у мяне і паэма, і шмат вершаў, прысвечаных маёй маці, той вёсцы, дзе я нарадзілася. Іх я не магу аддзяліць ад сваёй творчасці, сваёй паэзіі.

*Не кінуце каменем у неба памяці,*
*У неба прыязнасці, у неба даверу,*
*У неба любові, у неба надзеі —*
*Не кінуце каменем.*

Гэта павінен усведамляць заўсёды кожны чалавек. Асабліва вострa спазнаеш настальгію па родным, знаходзячыся ўдалечыні. Аднак, канешне, нельга сказаць, што паэт павінен быць прыхільнікам толькі нейкай адной, вызначанай для сябе раз і назаўсёды тэмы. Так быць не можа. Напрыклад, у маёй творчасці прысутнічае не толькі тэма роднай зямлі. Ёсць і іншыя матывы. У прыватнасці, я калісьці адпачывала на Чорным моры, і ў мяне там была такая светлая лірычная паласа, і нарадзіліся радкі пра каханне — прыклад таго, што паэзія — рэч непрадказальная, і цяжка вызначыць яе скіраванасць у тэматычным плане:

*Размінаюцца мацерыкі, зоркі*
*Размінаюцца ў Сусвеце.*
*Пройдзем —*
*і не падамо рукі, —*
*Найраднейшыя калісьці ў цэлым свеце.*

Вось такі верш напісаўся тады, невядома чаму менавіта ў той час. Паэзія — рэч загадкавая, яна кіруецца сваімі законамі і... сама кіруе паэтам.

**— Ваша паэтычная манера надзвычай цёплая, шчырая, адкрытая. Дарэчы, і адзін ваш паэтычны зборнік называецца "Мне добра з вамі"...**

— Адразу хачу прызнацца, што назва не мая, яе мне падказала вельмі харошая паэтка Анэля Тулупава. Яна раздавала назвы ўсім. Напрыклад, Пімену Панчанку падарыла назву "Дзе начуе жаваранак".

**— Раскажыце, з чаго пачыналася ваша творчасць?**

— Калі я яшчэ вучылася ва універсітэце, два маіх аднакурснікі высмеялі маю паэму пра рэвалюцыю. Зараз гэта гучыць неяк смешна, а тады для мяне гэта было ледзь не трагедыяй. Таму я сёння, калі выкладаю студэнтам, стараюся, калі крытыкую, крытыкаваць не вельмі рэзка. Калі ў чалавека ёсць нейкі божы дар, нейкае зерне сонца, святла, трэба імкнуцца, каб ён не змоўк. Я ў сваёй творчасці кіруюся прынцыпам: калі ты нешта адкрыў — замацуй і аддай.

У мяне пераважаюць невялікія паэтычныя замалёўкі, і, увогуле, я лічу. што ў невялікім, але ёмістым па думцы, пачуцці вершы можна сказаць вельмі многае. Быў час, калі я жыла ў Брэсце і працавала на тэлебачанні. Доўгі час пісала вершы, але нікому не паказвала. Так усё гэта і сышло б пакрысе, калі б не паэзія Максіма Танка. Ад яе неяк разняволілася мая душа. І ў гэтую кнігу ўвайшлі вершы, якія я пачала пісаць менавіта пасля знаёмства з танкаўскай паэзіяй. Тое раптоўнае натхненне было настолькі моцным, што я пісала ўсюды, на любых паперчынах, у любы час. Душа прагла толькі паэзіі, толькі паэтычнай творчасці. І ўсё, што пісала само жыццё, калі гаварыць вобразна, і ўвайшло ў кнігу "Мне добра з вамі".

**— У вашай творчасці вельмі многа вершаў, прысвечаных маці, успамінам пра яе.**

— Так. Мы прыходзім у гэты свет, каб пакінуць у жыцці след чалавечнасці, дабрыні, святла, і мама для мяне была заўсёды ў гэтым плане прыкладам таго, як трэба любіць людзей, жыццё. Маці — гэта "мацярынскі мацярык" у кожнага чалавека. Маці мая, колькі помню, была суровая знешне, але яе цяпло заўсёды адчувалася:

*Сурова гадавалася.*
*Любові не выстаўляла мама напаказ.*
*Ніколі прынародна не цалавала нас.*
*Не песціла, не біла —*
*Любіла.*

**— Ніна Сямёнаўна, хацелася б звярнуцца не толькі да паэтычнай творчасці, але і да вашай перакладчыцкай дзейнасці. Так, у рэпертуарным зборніку для Тэатра юнага гледача змешчаны пераклад п'есы "Райніс і Аспазія". Чым прывабіў вас менавіта гэты твор, што вы выбралі яго для перакладу?**

— Перш за ўсё гэта сапраўдная паэзія, тут можна нават параўнаць: Ян Райніс і Янка Купала. Я шмат перакладала, прычым з розных моў, але ўкраінская і латышская мне больш за ўсё даспадобы. Калі звяртацца да гэтай канкрэтнай п'есы, то мяне ўразіў подзвіг Аспазіі, латышскай паэтэсы, якая ахвяравала сваёй творчасцю дзеля таго, каб даць дарогу магутнаму таленту — Яну Райнісу.

**— У вас, акрамя перакладу гэтай драмы, ёсць і пераклады з украінскай — Лесі Украінкі. Якія яе творы вы перакладалі і чаму?**

— "Крымскія радкі" — найперш. Таксама ў свой час я пераклала паэму Лесі Украінкі, якая была напісана ёю ў Мінску, у 1901 годзе. Леся Украінка жыла два з паловай месяцы тут, на яе руках, можна сказаць, памёр яе каханы, і за адну ноч каля ложка смяротнага хворага дарагога чалавека яна стварыла гэтую драму. Гэтая самахвярнасць і такая скандэнсаванасць любові і мяне вельмі ўразіла і стала той прычынай, з-за якой я пераклала менавіта гэтую паэму Лесі Украінкі. Дарэчы, на юбілеі Лесі Украінкі ў Кіеве мне давялося прачытаць яе творы па-беларуску. Пасля мяне на вуліцы сустрэў адзін украінскі вучоны і запытаў: "Гэта вы выступалі?" Я адказала, што я, а ён, падзякаваўшы за выступленне, падарыў мне аж два кіеўскія тарты.

Па маім перакладзе п'есы Лесі Украінкі сёння створаны спектакль. Яго разам са студэнтамі ставіць рэжысёр Рыгор Баравік, таксама быў пастаўлены ён і ў маладзёжным тэатры на філфаку ў БДУ. Беларуская зямля, беларускае свята, што ўвайшло ў гэты твор Лесі Украінкі, адчуваецца тут, гэтым ён нам і блізкі.

**Гутарыла**
**Маргарыта ПРОХАР**

# Кніжка пра вёску

***Прыватнае мінскае выдавецтва "Пейто" ў серыі "Ведай свой край" выпусціла кнігу Віктара ГРЫБКО "Іванск. Краязнаўчы нарыс". У Чашніцкім музеі прайшла яе прэзентацыя. Вёска Іванск, што непадалёк ад Чашнік, вядома ў гісторыі Беларусі найперш славутай бітвай.***

***Віктар Грыбко настаўнічае ў Іванскай сярэдняй школе, выкладае англійскую мову і гісторыю Беларусі, ён кіраўнік краязнаўча-турыстычнага гуртка і адзін са стваральнікаў школьнага музея.***

**— Віктар Вільгельмавіч, раскажыце, калі ласка, пра змест вашай кніжкі.**

— У аснову яе пакладзены краязнаўчы матэрыял, які дае магчымасць прасачыць гісторыю Іванска ад старажытных часін да нашых дзён. Пачынаецца прыродна-геаграфічнымі апісаннямі, далей вядзецца расказ пра помнікі археалогіі на тэрыторыі Іванскага сельсавета. Першапачатковыя звесткі пра Іванск датуюцца XI стагоддзем. Тут і знакамітая Ульская бітва, і звесткі з гісторыі старажытнага манастыра, меркаванні, дзе ён размяшчаўся. Тут і кароткая гісторыя слыннага шляхецкага роду Валадковічаў, нашчадак якога, Тадэвуш Валадковіч, жыў тут з 1774 года, а потым — яго сыны. Адзін з прадстаўнікоў гэтага роду быў нават мітрапалітам Кіеўскім... Тут і калгаснае будаўніцтва, і Вялікая Айчынная вайна, і гісторыя школы.

**— Вы тутэйшы?**

— Не, я прыехаў сюды з Рэчыцы, куды нас з жонкаю накіравалі пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута.

**— Чаму ж так зацікавіліся чужою зямлёю?**

— Зусім яна не чужая. Іванская зямля прыняла нас гасцінна, я тут стаў сваім. Да таго ж, краязнаўства — маё хобі. Любоўю да роднай Беларусі я абавязаны майму інстытуцкаму выкладчыку Мікалаю Гнеўку.

**— Як доўга збіралі матэрыял і пісалі сваю кніжку?**

— Матэрыял пачаў збіраць з 1995 года. У гэты час у нашай школе быў створаны гісторыка-краязнаўчы музей...

**— Ведаю, што вы былі фактычна яго стваральнікам...**

— Не толькі я, але ж і дзеці з краязнаўча-турыстычнага гуртка, з якімі хадзілі ў паходы, падарожжы. Такім чынам назбіралася багата гісторыка-краязнаўчага матэрыялу. А сваю кніжку напісаў дзесьці за паўгода. У Мінску пазнаёміўся з дырэктарам выдавецтва "Пейто" Віктарам Хурсікам. З'явілася магчымасць выдаць яе.

**— Скажыце, хто яшчэ дапамог напісаць і выдаць такую багатую зместам краязнаўчую кнігу?**

— Мой сябар, кандыдат гістарычных навук Генадзь Сагановіч, аўтар шасці кніг па гісторыі, які дапамог знайсці на польскай мове рэдкую літаратуру з гісторыі роду Валадковічаў. Таксама старшыня мясцовага калгаса "Беларусь" Віктар Клёс. Гаспадарка дапамагла фінансава пры выданні кніжкі. Падтрымаў і старшыня Іванскага сельсавета, падказаў, дзе адшукаць патрэбныя звесткі. Я ўдзячны таксама сваёй жонцы Маі, якая была маім першым рэцэнзентам. Ну і, вядома ж, дзеці, многія з іх ужо закончылі школу, але працягваюць мне дапамагаць. З імі мы хадзілі, распытвалі старажылаў краю, вязняў канцлагера "Асвенцім"...

**— Кніжка ёсць. Праца закончана?**

— Чаму ж? Хацелася б дапоўніць яе. Напрыклад, уключыць раздзел "Паходжанне тапанімічных назваў вёсак", сабраць мясцовыя легенды і паданні. Ёсць, дарэчы, такая кніжка "Легенды і ўспаміны іванскія" працы польскага гісторыка М. Якавецкага, ды знаходзіцца яна аж у Лондане, у бібліятэцы. Хацелася б знайсці фундатараў і выдаць новую кніжку на больш высокім эстэтычным і паліграфічным узроўні, з мноствам фотаздымкаў.

**— Што ж, поспехаў вам. А чытачам, аматарам гісторыі скажу, што кніжка настаўніка-краязнаўцы з Віцебшчыны выйшла невялікім накладам, усяго 200 асобнікаў. Таму, магчыма, адразу ж стане бібліяграфічнай рэдкасцю.**

**Гутарыў**
**Уладзімір МІХНО**

***Цяпер я разумею, чаму ва ўсе часы паломнікі так імкнуліся патрапіць на Святую зямлю. Натуральна, кожны хоча пабываць у мясцінах, непасрэдна звязаных з імем Ісуса Хрыста: Віфлееме і Назарэце, у Храме Гроба Гасподняга і на Галгофе. Але, акрамя гэтага, людзей вабіць сюды невялікая частка сушы, якую лашчаць воды аж трох мораў: Міжземнага, Чырвонага і Мёртвага.***

# Басаноож па Святой зямлі

## САМАЕ МЁРТВАЕ МОРА

Мы ехалі па спякотнай Іудзейскай пустыні, дарога кругляла паміж высокіх гор, спускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, нарэшце паказалася вялізная чаша вады. Гэта і было тое славутае Мёртвае мора, пра якое з захапленнем расказвае кожны, каму хоць адзін раз пашчасціла пабываць у Ізраілі.

Унізе вада, а вакол бяскрайняга марскога блакіту — высокія шэрыя горы, усе з пяску і солі. Белыя палосы той самай солі спаласавалі ўсю паверхню, а колер вады светла-зялёны. Падобнага колеру нідзе яшчэ не сустракаў. Ні на паўднёвых морах былога СССР, ні на Рыжскім узмор'і. Разлёгшыся прыблізна на 400 метраў ніжэй узроўню акіяна, Мёртвае мора з'яўляецца самым нізкім вадаёмам на зямлі.

Якімі б спякотнымі і мёртвымі пустынямі ні славіўся Ізраіль, але больш дзікай і голай прыроды, чым вакол гэтага мора, не знойдзеш. Ды што тут можа расці, калі зямля вакол яго на восемдзесят працэнтаў запоўнена солллю! На заходнім беразе, на фоне белых саланчакоў уздымаюцца крутыя скалы з чырвонага пясчаніку. Глянеш на ўсход — над залатой паверхняй вады ўздымаюцца біблейскія горы Маавы і Эдома.

Паміраючы ад сакавіцкай 32-градуснай гарачыні, я выскачыў з машыны і паспяшаўся да пляжа. Вада здалася мне мяккай і лёгкай, без ніводнай хвалькі на паверхні. Але праз хвіліну ўсвядоміў, якая яна густая.

Толькі цяпер заўважаю, што купальшчыкі надта асцярожныя. Большасць з іх не плаваюць, а ціха ляжаць у вадзе на спіне. Так спакойна і вяла, акурат на лужку ля нашай рэчкі. Я таксама асцярожна прайшоў метраў дзесяць ад берага і апусціўся ў ваду. Перавярнуўся на спіну: любата! Вада цябе знізу падпірае так лёгка, нібы трымае звычайны паплавок, не дазваляючы хоць на секунду пайсці на дно. Ляжыш на паверхні, не варушачы ні рукой, ні нагой.

Але ёсць адна праблема: няпроста зноў стаць на ногі. Густая вада цела падкошвае і валіць, і адчуваеш сябе ў стане нейкай бязважкасці. Як у космасе. Але баяцца не трэба. Нават таму, хто зусім не ўмее плаваць. Галоўнае тут не страціць раўнавагі. Якая праблема: ляжы на вадзе, ласуйся цукеркай ці смачцы цыгарку ды паплёўвай у бакі.

Вада тут у дзесяць разоў больш салёная, чым у акіяне. На працягу стагоддзяў хрысціянскія паломнікі, якія прыязджалі сюды, жахаліся безжыццёвасці гэтага мора. Адсюль нарадзілася і яго назва — Мёртвае. Яно як нельга лепш адлюстроўвае характар гэтага самага салёнага на планеце вадаёма: у ім цалкам адсутнічае жыццё.

Мясцовыя курорты запоўнены еўрапейцамі, якія ганяюцца за сонцам, адпачынкам і лячэннем. Тут вам заўсёды нагадаюць, што ў старажытнасці славутая Клеапатра пасылала за мясцовай гразёю сваіх рабоў аж з Егіпта. Цяпер тутэйшыя гразі — даходная частка экспарту. А той вуглякіслы калій, які ўтрымліваецца ў горкіх водах і што выкарыстоўваецца як каштоўнае ўгнаенне, таксама экспартуецца ў многія краіны.

Калі табе ў рот трапляе нават кропля вады — горкі прысмак трымаецца ўвесь дзень. Вядомы амерыканскі акцёр С. Сталоне не паверыў, што вада можа быць такой небяспечнай, і калі трапіў сюды на здымкі фільма, вырашыў не толькі нырнуць, але і расплюшчыць пад вадой вочы. З дзікім гвалтам прыгажун-асілак вылецеў на бераг, а пасля 12 дзён ляжаў у мясцовай бальніцы, дзе яму прамывалі вочы і чысцілі вушы.

## ЯК МЯНЕ "ПАЦАЛАВАЛА" АКУЛА

Чырвонае мора абмывае самыя паўднёвыя берагі Ізраіля. Тут і размясціўся курортны пасёлак Эйлат, у якім мне давялося спыніцца. Тутэйшыя пляжы круглы год прываблівацюць да сябе турыстаў.

Нават летам пры тэмпературы 40 градусаў вада ў Чырвоным моры прыемная і прахалодная. Але ў сярэдзіне зімы, калі тэмпература паветра +8 градусаў, вада значна цяплейшая.

У канцы сакавіка я тут таксама плаваў з задавальненнем. Бо для мяне, чалавека з далёкай Беларусі, які да таго ж вырас на беразе вялікага возера Нарач, +17 градусаў вады дастаткова.

Ехаць за тысячы кэмэ з зімы на бераг Чырвонага мора і не кульнуцца ў яго?!

Позна ўначы на лёгкім цеплаходзе мы паплылі па Чырвоным моры. Якраз туды, на граніцу, на мяжы Ізраіля, Егіпта і Іарданіі. Мне гаварылі, што тут усе землі вечарам гараць агнямі... Але я не мог уявіць, каб уся зямля так палымнела ў святле! Стаяў на палубе, вакол мяне плёскаліся чорныя хвалі, а там, далей, прыціхла зямля. Яе ўсю паглынула электрычнае святло, і адгэтуль выдавала, што праз кожныя дзесяць метраў там умацавана магутная лямпачка не меней, чым у 250 ват!

Землі трох краіх літаральна залівала святло і не хапала толькі стральбы ды магутных феерверкаў, каб сцвярджаць, што народы адзначаюць нейкае вялікае свята. І такую вальготу дазваляюць кожную ноч.

І тут успомнілася мне мая далёкая бацькоўская зямля, маленькая вёсачка Сіманы на беразе возера Нарач, дзе кожную ноч мігае адна лямпачка на слупе, якую калгасныя электрыкі абяцаюць пад'ехаць ды выкруціць: неабходна эканоміць электраэнергію, такая праграма дзяржавы! Позна ўначы заскуголіць перапалоханы сабака ці зарыкае карова — стары гаспадар у хаце горка ўздыхне, загляне ў чорную шыбу, пасля нервова пашлэпаецца да дзвярэй... Але на дварышча не выходзіць, бо страшна. Цемра — хоць вока выкалі...

Днём я таксама з палубы цеплахода любаваўся прыбярэжнымі краявідамі: высокія горы высвечвалі ў промнях сонца і строга цягнуліся туды, пад самыя нябёсы. Па крутых сходках апускаўся на самы ніжні ярус цеплахода і праз зашклёнае дно ўзіраўся ў марскія воды. Колькі рыбы! Самай рознай, вялікай і дробнай, тоўстай і тонкай...

У горадзе Эйлаце, што на беразе Чырвонага мора, штодзень кормяць дэльфінаў. Адплываюць з берага два спецыяльныя чаўны з харчам, а дэльфіны звыкла іх чытаюць і пачынаюць завучана гуляць па паверхні. Выскачаць з вады, плюхнуцца, паляжаць некалькі секунд, хвастамі ляснуць ды зноў на дно.

У Эйлаце для турыстаў выбудавалі вялізны акенарыум з аб'ёмам у 250 тысяч літраў. За 3,5 гадзіны вада, якая пастаянна паступае з мора, поўнасцю абнаўляецца. Тут восем розных залаў. У адной плаваюць малюсенькія марскія рыбы, у другой — большых памераў. Убачыўшы за шклом нейкую прыгажуню, падобную на нашага ментуза, я дастаў свой "Кодак". Бліснула ўспышка, і рыбіна метры два даўжынёй вынырнула і тыцнулася завостранай пашчай якраз насупраць маёй галавы. Бачна, цэліла мне прама ў лоб. Пасля зрабіла рэзкі разварот і знікла.

Тут толькі прачытаў шыльду на англійскай мове, якая вісела збоку: ...зала акул!

На Чырвоным моры знаходзіцца падводная абсерваторыя "Каралавы свет" — уваход у падводнае царства. Каб патрапіць сюды, патрэбна прайсці па доўгім марскім мосце. Пасля па вінтавой лесвіцы спускаешся на дно "Наўцілуса" на глыбіню шасці метраў, і вось ты ў круглай зале з вялікімі вокнамі ў сценах. За імі яркія каралавыя рыфы і вялікая колькасць самых розных рыб. Усімі колерамі вясёлкі пераліваюцца каралы дзіўных форм...

Такі адзіны ў свеце сучасны "Наўцілус" на моры важыць сто тон і зроблены ў Еўропе. Не адзін месяц аквалангісты будавалі пад яго вокнамі прыгожае марское дно. І ў выніку атрымалася нешта неверагоднае.

## БУСЛЫ НАД МОРАМ

Тысячы людзей імкнуцца сюды на Міжземнае мора, да гарачых пяскоў заходняй часткі краіны. І я пабываў на пляжах Тэль-Авіва і Хайфы, Акі і Нетаны.

Алмазы — другая па сваім значэнні, пасля цытрусавых, галіна экспарту. Горад Нетанья, які размешчаны прама на беразе Міжземнага мора, з'яўляецца цэнтрам вялізнай алмазнай індустрыі. Гэты бізнес, пачаты эмігрантамі пасля вайны, так развіўся, што з пачатку 70-х гадоў краіна ўтрымлівае тытул самага буйнога ў свеце экспарцёра алмазаў.

Сюды рэгулярна завозяць неапрацаваныя камяні з Афрыкі і Азіі. Вялізная ювелірная фірма, якая штогод прадае камяні на суму ў 20 мільёнаў долараў, трымае свой аўтарытэт.

Умеюць тут людзі зарабляць грошы сярод дзікай спякоты і непрыдатных земляў. На завазных камянях набіраюць 20 мільёнаў чыстага навару, а толькі на экспарце садавіны і гародніны штогод зарабляюць 500 тысяч долараў. І гэта пры тым, што шэсцьдзесят працэнтаў земель займаюць пустыні! Падарыла б ім прырода нашы землі з такім высокім балам глебы — як закаласіліся б тут нівы!

Мелі б яны нашы сады, з якіх можна пастаянна атрымоўваць смачныя сокі і віны, то абавязкова не ўпусцілі б такі шанц. Тут не могуць пахваліцца і лясамі з каштоўнай драўнінай, як у нас, рознымі ягадамі і грыбамі, лекавымі травамі.

Каб даў ім Бог часцінку земляў, падобных на беларускія, то і атрымоўвалі б яны ў разы 3-4 больш, чым маюць, а гэта ўжо ў год каля двух мільярдаў долараў! І не трэба ні нафты, ні золата, па якіх сёння ў Беларусі многія так горка плачуць...

За мяжой я зноў пераканаўся ў тым, што часта наша беларуская шчырасць вылазіць нам бокам. Ну што тут зробіш, не ўмеем мы так хлусіць і лісліваць, як могуць іншыя, хоць памры!

Адбылося ўсё ў курортным Эйлаце. У горадзе на беразе Чырвонага мора, дзе на 45 тысяч жыхароў маецца 65 высотных атэляў. Кожны — нешта дзіўнае, свой "музейны" экспанат, які можна ўсім паказваць і хваліць бясконца. Што ні будынак — то ўзор новай архітэктуры.

Дык вось на другі дзень майго прабывання ў гэтым горадзе, у час абеду за шведскім сталом, у рэстаране за маім столікам пачала бурчэць былая масквічка Софа, якая ўжо шэсць гадоў жыве ў Ізраілі. Яна зласліва даводзіла сваёй сястры Еве, запрошанай сюды ў госці, што моцна іх крыўдзяць некаторыя "нервовыя і злыя арабы". Таму усе маладзенькія яўрэйскія хлопчыкі і дзяўчынкі служаць у арміі і цягаюць пастаянна цяжкія карабіны. І так ужо крыўдліва пачала гаварыць пра сваю нацыянальную бяду, што ўставіў і я сваіх пяць пальцаў. Ды яшчэ з адценнем савецкай прапаганды:

— Якая тут праблема? Трэба вам шукаць выйсце.

— Мы так робім не першы год, — насцярожылася Софа. — Цяжка.

— Вам усё цяжка, нават не можаце на пляжы акуратна выцерці ногі...

Не ведаю, які дурань пацягнуў мяне за язык. Проста ўспомніў, што заўсёды на тутэйшым пляжы пасля купання доўга выціраю ногі і толькі пасля кладуся на пластмасавы ляжак. Як жа інакш? Пасля мяне сюды ляжа хтосьці іншы. Астатнія пляжнікі, відаць, людзі мясцовыя, за падобным не сочаць: кідаюцца на лежакі ў мокрых туфлях, а з падэшваў кавалкамі абсыпаецца вільготны марскі пясок.

— Пры чым тут пляж? Я расказваю пра вайну...

Софа ўжо глядзела на мяне незадаволена. Яе сястра з Масквы сапла і маўчала.

— Аддайце вы бедным арабам Галанскія высоты і не застанецца ніякіх праблем. Пачняце жыць ціха і шыкоўна...

Эмігрантку як хто абліў варам.

— Вось вам нашы Галаны! Вось вам нашы Галаны!..

Рука былой расіянкі рванулася праз стол і пад маім носам замільгацелі фігі.

Спектакль з крыкам заставіў рэстаранную публіку адарвацца ад сваіх шведскіх сталоў. Мажліва, многія думалі, што я, як прынцыповы еўрапеец, не дарую такой абразы, размахнуся ды бэмцну фужэрам з персікавым сокам па яе руцэ, нешта нецэнзурнае ляпну ў адказ.

Але я ўзяў сябе ў рукі. Разумеў, што я тут госць, не вялікі прарок альбо настаўнік, і не годна мне лезці ў іхнія Галаны. А злая Сафі, калі мы ўжо накупаліся і раз'язджаліся з цёплага Эйлата, вінавата заглядала ў мае вочы і ўсё пытала: "Вы ўжо прабачце, калі не так... Мала што я магла сказаць за сталом"...

Схадзіў я на экскурсію на завод у Эйлаце, дзе выраблялецца сіне-зялёны малахіт. Тутэйшаму каменю надаюць неабходную форму і ўмела паліруюць. Канешне, я хацеў мець сувенір з эйлацкага выкапня, ды праўда...

Вось зрабілі б яны з малахіту нашага бусла на доўгіх нагах ці кругленькую сінічку з маленькай дзюбкай — набыў бы сувеніры адразу. На далёкай зямлі заўсёды маркоцішся, успамінаючы радзіму. Якраз у сакавіку над Міжземным морам вярталіся птушкі ў Еўропу і Азію з афрыканскіх краін. У небе штодзень кружылі тысячы пералётных птахаў. Зоркім спецыялістам удавалася там разгледзець ястрабаў-перапялятнікаў і скоп, арлоў-карлікаў і малых падворлікаў, арлоў-змеяедаў і пеліканаў...

Але найбольш мяне вабіла неба над морам тады, калі пралякалі вялізнейшыя чароды буслоў. Такіх мілых і гожых, і, канешне, маіх родных, беларускіх. Не адзін раз я доўга стаяў на пляжы, задраўшы галаву ўверх, і праводзіў "наскіх" буслоў позіркам у высокім небе. "Шчаслівай вам дарогі, прыгажуны! Ляціце туды, на нашу Радзіму... І сустрэнемся, мілыя там, на роднай Беларусі!"

**Вячаслаў ЛАПЦІК**



*Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.*



ЧАСАПІС

## “Нашчадкам слова застаецца”

Нашчадкам СЛОВА застаецца

“Журналісты пішуць практычна пра ўсё і аб усіх. І менш усяго — пра сябе, пра сяброў-газетчыкаў, пра газетную справу”, — з гэтымі меркаваннямі начальніка ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама Г. Тамашэвіча нельга не пагадзіцца. Разам з тым трэба парадавацца, што ў любым правіле ёсць выключэнне, а што гэта і сапраўды так даказаў ніхто іншы, а сам Г. Тамашэвіч, які з'яўляецца ўкладальнікам кнігі “Нашчадкам слова застаецца”, выпушчанай тым жа самым Упраўленнем па друку Брэсцкага аблвыканкама. Прадмову да яе “З людзьмі і да людзей” напісаў сам Г. Тамашэвіч. Ён слушна зазначае, што “зроблена, бадай, першая ў Беларусі спроба стварыць абагульняючы партрэт рэгіянальнага друку, яго пошукаў, развіцця, вырашэння праблем”. Складаецца ж кніга з чатырох раздзелаў, найбольш прадстаўнічы з якіх “З газетай па жыцці”. Аўтарамі яго з'яўляюцца тыя, хто мае непасрэднае дачыненне да абласнога і мясцовага друку на Брэстчыне, а ў выніку ствараецца як бы “абагульняючы партрэт” выданняў, што выходзяць у гэтым рэгіёне Бацькаўшчыны. Прынамсі, П. Суцько (“Свяці-ззяй, мая “Заря!” расказвае пра старэйшую абласную газету Брэстчыны, галоўным рэдактарам якой з'яўляецца “Народная трыбуна” такім сталым узростам пахваліцца не можа. Але адметнасць яе ў іншым ды такая, што застаецца толькі павучыцца: “Парадаксальна, але факт: некаторыя з тых, хто з ранку да вечара крычыць аб нібыта існуючай пагрозе страты Беларуссю дзяржаўнасці, аб занядбанні беларускай мовы, памяншэнні колькасці выданняў на ёй, калі засноўваюць уласную газету, імкнуцца выпускаць яе па-руску. І пры гэтым нібыта не хочуць заўважаць, што побач выходзяць новыя дзяржаўныя беларускамоўныя выданні. Як, для прыкладу, “Народная трыбуна” ў Брэсце. Адзіная на роднай мове ў прыгранічным горадзе”. Чым жыве сёння “Народная трыбуна”, што зроблена, а і што мяркуецца зрабіць у справе беларускасці — падрабязна і аргументавана расказвае галоўны рэдактар “НТ” Р. Пратасевіч. Цікавыя і змястоўныя развагі К. Мохара “Родны дом — рэдакцыя”, А. Сяргея “Усё, што мне наканавана”, М. Антаноўскага “Свята душы”, якія прадстаўляюць ганцавіцкую, драгічынскую і пружанскую раённыя газеты. Ды і іншым газетам Брэстчыны ёсць чым пахваліцца: калектывы ў іх працуюць дружныя, з добрым веданнем сваёй справы.

А ўвогуле, у тамашняга друку багатыя традыцыі. Шмат каму са знакамітых сёння людзей давялося ў свой час пачынаць свой творчы шлях з яго і некаторыя з іх на пачатку кнігі гавораць колькі слоў удзячнасці. Сярод іх — галоўны рэдактар часопіса “Беларуская думка” У. Вялічка, першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь У. Глушакоў, старшыня Беларускага саюза журналістаў Л. Екель і іншыя, а адкрываецца кніга словам члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі У. Гніламёдава “На перавале стагоддзя”. Няменш прыязныя словы гучаць і ў раздзеле “Вершаваныя прысвячэнні”. У шэрагу іх — вітанне В. Гардзея газеце “Ляхавіцкі веснік” з нагоды яе 50-годдзя:

*Там, у юнацтве адназначным,*
*Пры першых спробах стаць паэтам*
*Я ўсёй душою быў удзячны*
*Табе, раённая газета.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Быў “Будаўнік”, а сёння — “Веснік”,*
*Аднак галоўнае не гэта:*
*Настрой заўжды ты дорыш весні,*
*Мая раённая газета.*

Раздзелы “Летапісцы Берасцейскага краю” і “Палескія друкары” таксама нясуць багата інфармацыі пра тое, як развіваўся друк на Брэстчыне ў розныя перыяды, чым жыве ён сёння. Асабліва насычаны фактамі артыкул Г. Тамашэвіча “Мудрая спадчына”, у якім згадваюцца многія, хто ў свой час праславіў свой край. Сённяшнія журналісты — прадаўжальнікі іх добрых спраў. Кніга ж “Нашчадкам слова застаецца” — свайго роду іх візітоўка.

**Міхась ГЕНЬКА**

УГОДКІ

# Ёсць гусінае возера...

### ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Паўла ПРУДНІКАВА

Не памятаю дакладна час знаёмства з Паўлам Іванавічам. А знаёмства завочнае адбылося ў 1968 годзе, калі мне,студэнту-выпускніку факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у рукі трапілася невялікая кніга яго паэзіі “Час майго нараджэння”, што незадоўга перад гэтым выйшла ў выдавецтве “Беларусь”. Не сказаць, каб прозвішча П. Пруднікаў шмат гаварыла. Толькі пазней даведаўся, які пакручасты лёс у Паўла Іванавіча, як шмат перажыта і зведана. І, канечне ж, нарэшце, было і асабістае знаёмства, калі ў 1972 годзе пачаў працаваць у “ЛіМе”. Праўда, паміж гэтымі знаёмствамі — праз кнігу і ў сапраўднасці — была мажлівасць успомніць Пруднікава за некалькі тысяч кіламетраў ад Беларусі. Тады я праходзіў вайсковую службу афіцэрам у Забайкальскай ваеннай акрузе, непадалёку ад горада Улан-Удэ, сталіцы тагачаснай Бурацкай аўтаномнай рэспублікі. Неяк накіравалі мяне ў камандзіроўку ў пасёлак Гусінае возера — бліжэй да граніцы з Манголіяй. Там у нейкіх яго майстэрнях мы рамантавалі ваенную тэхніку. Міжволі ажылі ў памяці радкі верша П. Пруднікава, што так і называецца — “Гусінае возера”:

*Ёсць на ўсходзе сіняе*
*Возера Гусінае,*
*Возера Гусінае —*
*Песня лебядзіная.*

*Гусі там і лебедзі*
*З ранку і да вечара*
*Карагодзяць з песнямі,*
*Песнямі адвечнымі.*

Аднак Паўлу Іванавічу на час яго знаходжання ў Гусіным возеры было не да песень. Як і тады, калі да знямогі працаваў у іншых населеных пунктах той жа Бурацii. Ледзь паспеўшы скончыць Ленінградскі педагагічны інстытут імя Бубнава, ён быў 11 жніўня 1937 года рэпрэсіраваны і пасля чатырох месяцаў зняволення ў сумнавядомай турме “Кресты” апынуўся на тэрыторыі ЮЖЛАГа. Будаваў чыгунку Улан-Удэ—Наушкі. Як прызнаваўся, “насыпаў палатно, укладваў шпаламі і рэйкамі станцыйныя пуці, будаваў само памяшканне станцыі...”

Гэтыя згадкі з'явіліся тады, калі, нарэшце, уздыхнуў спакойна, бо ў грамадстве пачаліся працэсы дэмакратызацыі, можна было гаварыць, не баючыся за вынікі, праўду, якой не адзін дзесятак гадоў асцерагаўся. Як і асцерагаліся іншыя, каго напаткаў гэткі ж лёс. Іх можна не толькі зразумець, а і трэба зразумець. Неаднаразова маглі пераканацца, наколькі мройныя мары аб свабодзе. П. Пруднікаў — не выключэнне.

Яго вызвалілі толькі ў 1945 годзе. Працаваў токарам вагоннага дэпо Нарыльскай чыгункі, загадваў бібліятэкай Нарыльскага горна-металургічнага тэхнікума, настаўнічаў на Смаленшчыне. Калі ж вярнуўся на Беларусь, выкладаў мову і літаратуру ў Ашмянскім педвучылішчы, настаўнічаў у Слабодскай сярэдняй школе Браслаўскага раёна. І ўвесь час па



сутнасці знаходзіўся, як кажуць, на вастрыі ляза. Абавязкова знаходзіліся звышпільныя, каго цікавіла яго мінулае. Ды і з пераездам у Мінск не мог адчуваць сябе спакойна. Палахліўцам ніколі не быў, але трывожна станавілася на душы, калі бачыў, што свабодна разгульваюць тыя, хто калечыў ягоны лёс і лёсы

КРЫТЫКА

# Размова з фінінспектарам пра правінцыю, альбо Рэцэнзія ў стылі рэтра

Некалі была ў літаратуразнаўцаў такая праблема — ім, як працаўнікам ідэалагічнага фронту, даводзілася пачынаць свае артыкулы з вядомых цытатаў.

Выключна з уласнай ініцыятывы нагадаю чытачам пра словы А. Лукашэнкі, сказаныя ім на сустрэчы з дзеячамі культуры і мастацтва ў лютым гэтага года: “Павінен сказаць, што наша гуманітарная навука сёння не на вышыні. Адмовіўшыся ад эстэтычных канцэпцый савецкіх часоў, літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства пайшлі не наперад — да глыбокага вывучэння новых з'яў, а назад — да звычайнай канстатацыі фактаў, кампліментарнасці, суб'ектывізму і прымітыўных ацэнак”.

Не магу не пагадзіцца. Становішча з літаратуразнаўствам, і, асабліва з літаратурнай крытыкай, не можа не засмучаць. Творчая моладзь не хоча асвойваць жанры, якія патрабуюць хаця б больш-менш інтэлектуальных высілкаў. Тым больш, што і аплата такой працы мізэрная, смешная нават у параўнанні з капеечнымі ганарарамі паэтаў і празаікаў. Слухаючы заклікі пісаць болей, я згадваю момант падрыхтоўкі папер для падатковай інспекцыі, калі высветлілася, што тыя пяць публікацый, праз якія я ўласна і павінна дэкларавацьприбыткі, прынеслі мне за год не больш не менш — два даляры дваццаць цэнтаў. Як бачыце — выгадней шуфлем гной кідаць, чым займацца вывучэннем новых з'яў у мастацтве.

Гэтае параўнанне не здасца дзіўным таму, хто мае справу з творчасцю маладых — рэкі крыві, гною і спермы ліюцца з друкаваных старонак і пляцовак культурных устаноў... Паспрабуйце спыніць гэты паток крытычным словам і высветліцца, што ў нас няма выданняў, якія б узялі на сябе смеласць не толькі адрэцэнзаваць такія творы, але і проста канстатаваць гэтую праблему. Выключэннем з'яўляецца хіба што “Наша ніва”, літаратурны аглядальнік якой аднойчы заўважыў, маючы на ўвазе кнігу Сяргея Патаранскага “Sex”, што надпісы ў грамадскіх прыбіральнях здаюцца часам больш літаратурнымі, чым такога кшталту літаратура.

Што застаецца рабіць у такіх умовах крытыку? Пісаць не за грошы, а па любові... Не выяўляць заганы, а рабіць кампліменты тым, хто не паддаўся спакусе ўяўнай папулярнасці і прадаўжае ствараць літаратуру, здатную ўразіць не толькі дзяўчынак-пэтэвушніц, але і калег-пісьменнікаў. І ўсё болей пераконваюся ў тым, што чым далей знаходзіцца творца ад сталічнай пісьменніцкай тусоўкі, тым менеи у яго пыхі, жадання вымкнуцца любым шляхам, імкнення перайначыць любы мастацкі жанр у модны перформанс. Чым далей ад цэнтра — тым лягчэй вырашаць уласна-мастацкія задачы. Ці не паказальна ўжо тое, што два лепшыя нашы пісьменнікі — В. Быкаў і А. Разанаў, якія ўвасабляюць сумленне нацыі, знаходзяцца зараз так далёка ад нашых межаў?

У мэтах духоўнай тэрапіі лепш за ўсё чытаць правінцыялаў — палачан В. Мудрова, А. Аркуша, Л. Сом, гарадзенцаў С. Астраўца, Ю. Гуменюка, Ю. Пацюпу, Э. Мазько, беларусаў Беласточчыны А. і Я. Максімюкоў, М. Лукшу, а таксама асеўшых па дробных гарадках Беларусі І. Сідарука, Л. Вашко, Г. Гару. Творы гэтых аўтараў сустрэліся пад густоўна аформленай вокладкай новага часопіса “Правінцыя”, які, на жаль, практычна немагчыма набыць у сталіцы.

Аляксандр Максімюк, галоўны рэдактар часопіса, у газеце “Наша Ніва” вызначыў мастацкую нішу наступным чынам: “Часопіс далучае беластоцкую моўна-культурную выспу да агульнабеларускага абсягу. “Правінцыя” гуртуе аўтараў, якія знайшлі сваё месца ў літаратуры ў рэгіёнах, на сваіх выспах, з якіх яны не збіраюцца з'язджаць... Уся прыгажосць нашага жыцця ў тым, што мы лёс свой звязваем з правінцыяй”.

“Правінцыя” — назва, удалая ва ўсіх адносінах. Яна не толькі паказвае на геалітаратурнае становішча аўтараў, прадставіўшых тут свае творы, але і загадзя памякчае іх магчымую крытыку — маўляў, што з іх, правінцыялаў, возьмеш... Назва ставіць і без таго моцных літаратараў у выйгрышную пазіцыю і таму здаецца нават какетлівай, тым больш што і знешне часопіс дасць дыхту любому сталічнаму выданню.

Што ж датычыць назвы трох частак, з якіх складаецца часопіс, то, асабіста мне, яны падаліся трохі прэтэнцыёзнымі і неабавязковымі. “Словы пра словы”, “словы”, “словы за словы” раскрываюцца досыць традыцыйна — як публіцыстыка, паэзія-проза і пераклады. Усе тры раздзелы атрымаліся аднолькава цікавыя. Парушаючы традыцыі, пачнем з апошняга.

Багуміл Грабал, Галіна Пасвятоўская, Дылан Томас, Патрык Мадыяно... Калі мужчынская частка імёнаў больш-менш знаёмая беларускаму чытачу, то імя Г. Пасвятоўскай наўрад ці сустракалася раней. А дарма, бо яе вершы (у дэбютным перакладзе Х. Граматовіч, жыхаркі ЗША) ўражваюць не меней, чым трагічнасць ейнага лёсу. Найбольш моцным здалася нізка “Усе мае смерці”, якая без пафасу можа быць названа гімнам жыццю. Размовы пра смерць, асабліва ў жаночай паэзіі, заўсёды здаваліся мне цяжкой тэмай — не многія з нас пamiралі на аперацыйных сталах і жылі з адчуваннем адмеранасці часу. Аднак Пасвятоўская змагла пераадолець абставіны ўласнага жыцця і не зацыкліцца на іх выключнасці. Прастата, з якой яна гаворыць пра складаныя рэчы, напэўна і ёсць геніяльнасць. Гэтую нізку варта чытаць цалкам, але не ўтрымаюся і працытую:

***Заўсёды калі мне хочацца жыць я крычу***
***калі жыццё пакідае мяне***
***я прыхінаюся да яго***
***гавару — жыццё***
***яшчэ ня йдзі***
***ягоная цёплая рука ў маёй***
***мае вусны пры ягоным вуху***
***шапчу***

***жыццё***
***— як быццам жыццё было маім каханкам***
***які хоча мяне пакінуць —***
***я вешаюся на ягонай шыі***
***крычу***

***я памру калі ты мяне пакінеш***

Не ўсе вершы гэтай нізкі перакладзены аднолькава ўдала. Некаторыя з іх выглядаюць проста жахліва (“навошта я памыла грудзі // і кожны валасок асобна // часалася ў вузкім люстры // пустуюць мае рукі // і пасцель”), але папрокі тут, відавочна, трэба адрасаваць больш вопытным рэдактарам-мужчынам. Добра, на мой погляд, атрымаліся ў Х. Граматовіч пераклады з Дылана Томаса, які ў спецыяльным прадстаўленні патрэбы не мае. Як заўсёды сапраўдны прафесіяналізм прадэманстраваў Ян Максімюк, які на гэты раз перастварыў “Танцавальныя гадзіны для старэйшых і спрактыкаваных” Б. Грабала і “Вілу Журба” П. Падыяно.

Якраз на тле перакладаў замежнай прозы становіцца заўважным, што ў беларускай літаратуры паступова выкрышталізоўваюцца новыя традыцыі пісьма. В. Мудроў, С. Астравец, Л. Вашко, І. Сідарук — нягледзячы на адрознасць іх індывідуальных манер, відавочна ўспрымаюцца адным літаратурным пакаленнем. Дарэчы, у тым жа інтэрв'ю Максімюка сустракаецца і такое вызначэнне: “Правінцыя” — праект пакалення беластоцкіх беларусаў, сталенне якога адбывалася ў 90-я гады”. Гэты імідж — часопіс пакалення — дастаткова новы для нашых выданняў. Сама ж акрэсленасць, геаграфічная і часавая, сведчыць пра тое, што літаратурны працэс, які апошні час здаваўся крытыкам даволі хаатычным і разасобленым, паступова нармалізуецца, набывае свядомы характар.

На жаль, “беластоцкі” троп праследжваецца ў часопісе даволі слаба. Прычына таму, тут я пагаджуся з Я. Максімюком (“Словы ў голым полі. Аб новых каардынатах бела-

---

*Правінцыя. Літаратурна-мастацкі часопіс. № 1—2. Беласток, 2000.*

іншых сумленных людзей. Не па сабе станавілася, бо сёй-той, хто ў ссылцы не вельмі бедаваў, імкнуўся данесці пра тыя страшныя гады сваю праўду, а паводле гэтай праўды атрымлівалася, што ён, П. Пруднікаў, як быццам жыў і не так, як трэба было жыць.


*Творчы вечар 1989 г.*

Сумленнасць, прынцыповасць Паўла Іванавіча многім не падабалася. І тады, калі ён рэзаў праўду-матку ў вочы на розных сходах, пасяджэннях у Саюзе пісьменнікаў. І калі, з'яўляючыся некаторы час старшынёй рэвізійнай камісіі, не зважаючы на аўтарытэты, гатоў быў вывесці тых, хто ў нечым правініўся, на чыстую ваду. Сам ведаю, якім прынцыповым быў тады Павел Пруднікаў, бо таксама ўваходзіў у тую камісію. А працавала яна якраз у гады, калі з'явілася мажлівасць дзяліць сярод літаратараў... аўтамабілі. На якія толькі хітрыкі некаторыя, пры тым сёння самыя "дэмакратычныя", не ішлі... Ды Бог з імі. А сумленнасць, прынцыповасць П. Пруднікава былі роўня сумленнасці і прынцыповасці Станіслава Пятровіча Шушкевіча. Таму яны і сябравалі. Шушкевіч і пазнаёміў мяне з Паўлам Іванавічам.

...Кніга "Час майго нараджэння" стала для яго першай уласнааўтарскай, бо "Песні грузчыкаў", што выйшла яшчэ ў 1932 годзе была калектыўнай. У яе ўвайшлі творы Пруднікава пад псеўданімам Паўлюк Буравей і Я. Субача.

Тым самым вярталася з забыцця імя, забытае літаратурай і адбываўся прыход у яе па сутнасці новага паэта. П. Пруднікаў, які меў свайго чытача ў 30-я гады, мусіў быў знайсці чытача новага. Не сказаць, каб гэта давалася лёгка. Адчувалася доўгая адарванасць ад творчасці, адсутнасць мастакоўскага вопыту, які пры пэўных задатках таленту прыходзіць падчас кантактаў аўтара з аўдыторыяй, — і непасрэдна пры выступленнях, праз кнігі.

І сам Павел Іванавіч разумеў падобны свой стан, таму ў вершы "Маладым паэтам" пісаў:

***Пачуцці яшчэ не астылі,***
***Да працы напружнай гатоў,***
***А ўжо юнакі ахрысцілі***
***"Паэтам трыццатых гадоў".***
***Сказалі, што я "застарэлы",***
***Што ў вершах маіх "сівізна":***
***— Пачуцці, браток, дагарэлі***
***І мовы збяднела казна.***
***І змест тваіх вершаў, і форма —***
***Здабытак трыццатых гадоў, —***
***Юнацкі галёкае форум***
***З "вышынь" паэтычных радоў.***

Гэтым жа вершам і даказваў свае права на песню, на літаратурнае жыццё, а не толькі на другое творчае нараджэнне:

***Паэты, сябры, не старэюць,***
***Бо з імі заўжды маладосць.***
***х песні бясконца нас грэюць.***
***Паэт —***
***гаспадар, а не госць.***
***Гляджу ўдалячынь праз гады я,***
***Там будучынь, песня мая.***
***Я з вамі, сябры маладыя,***
***Не ўчорашні —***
***сённяшні я!***

Сваю мастакоўскую маладосць ён даказаў не на словах, а на справе, выдаўшы кнігі паэзіі "Прысады" (1979). "Мая магістраль" (1981), "Заасцёр'е" (1986), "Познія ягады" (1990)... Выйшаў зборнік вершаў для дзяцей "Заранка" (1987). У 1988 годзе з'явілася кніга ўспамінаў пра сяброў па пяры "Далёкае, але не блізкае". Прыхільна быў сустрэты чытачом і томічак выбранага "Крыніцы" (1991), прадмову да якога пашчасціла напісаць мне.

Здавалася, Паўлу Іванавічу не будзе зносу. Шмат перажыўшы, ён загартаваўся, доўгі час на здароўе не скардзіўся. Памятаю, як па-маладзецку трымаўся, калі яго 80-годдзе шырока адзначалася на блізкай яму клімавіцкай зямлі. Наведаўся і ў сваю родную вёску Стары Дзедзін, што на самай мяжы з Расіяй. Паказваў, дзе рака маленства Асцёр, згадваў іншыя мясціны, дарагія і памятныя з дзяцінства. Пазнаваў і не пазнаваў колішніх сяброў. Калі пазнаваў — радаваўся.

Не пазнаваў — засмучаўся, бо разумеў, як шмат пражыта. А некаторых і не сустрэў, пайшлі з жыцця. Але па вяртанні дамоў зноў быў вясёлым, жыццярадасным. І па-ранейшаму жыў творчымі планамі. Расказваў, што бярэцца за прозу, хоча расказаць аб перажытым.

Задуманае паспеў здзейсніць. Аўтабіяграфічная аповесць "Яжовыя рукавіцы" прыйшла да чытача. Дачакаўся і чарговай кнігі паэзіі, якую назваў "Пароша". Чакаў і празаічную — "Апала". Не дачакаўся...

Жыццё і напаследак падрыхтавала яму цяжкія выпрабаванні. Але, і страціўшы зрок, не здаваўся. Наколькі мог, заставаўся аптымістам. Ды жыццялюбства яму ніколі не было займаць. А прысутнасць у жыцці Паўла Іванавіча заўсёды прыносіла радасць тым, хто знаходзіўся побач і хто меў магчымасць хоць зрэдку наведвацца. Я таксама шчасліва, што лёс падарыў мне сустрэчы з Пруднікавым. Думалася, што, не зважаючы ні на што, усё ж дажыве да свайго 90-годдзя. Не дажыў крыху больш года.

***Ёсць на ўсходзе сіняе***
***Возера Гусінае,***
***Возера Гусінае —***
***Песня лебядзіная.***

Ёсць такое возера і ў беларускай паэзіі. Ёсць дзякуючы Паўлу Іванавічу Пруднікаву.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
*Фота Ул. КРУКА.*

рускай літаратуры", — малалікасць беларускамоўных пісьменнікаў, якія жывуць паза межамі нашай краіны: "Для ўзгадавання нечага якасна новага трэба, відаць, каб грамадства было большае за пэўную "крытычную масу", ніжэй якой яно перастае функцыянаваць як нармальны нацыянальны арганізм і працягвае існаванне адно як рарытэт у батанічным садзе або як цікавінка ў этнаграфічным запаведніку".

Аднак, тут варта зрабіць адну заўвагу, якая датычыць "беластоцкіх" тэкстаў, прадстаўленых у дадзеным часопісе. Мажліва, адной з прычынаў іх пэўнай мастацкай невыразнасці стала залішняя арыентаванасць на творчасць іх беларускіх калег, стасункі з якімі, дарэчы, і спарадзілі ідэю зрабіць часопіс, каб утварыць агульнае культурнае поле. У эсэ М. Ваўранюка, прысвечаным гісторыі стварэння "Правінцыі", неаднаразова маніфестуецца думка, што "ў беларускай літаратуры шанцы на поспех мае толькі той, хто трымаецца з боку галоўнага яе рэчышча". Сярод маргіналаў апынуліся М. Багдановіч, В. Быкаў, А. Разанаў. З маладзейшых, з якімі і сталі атаясамліваць сябе беластокцы, — А. Глобус, І. Бабкоў, Л. Сільнова. А. Аркуш, Ю. Гумянюк. Узнікае пытанне: "Калі названыя пісьменнікі — маргіналы, то хто ж ў нашай літаратуры мэйнстрым?"

Мяне засмуціла тая лёгкасць, з якой у матэрыялах М. Ваўранюка і Я. Максімюка навешваюцца шыльдачкі — "гэты ў вас, беларусаў, галоўны, а гэты — не, гэты — таленавіты, а гэты — не, гэты — будзе цікавы для Еўропы, а гэты — так, для мястэчковага ўжытку", бо для беларусаў сёння галоўным болем з'яўляюцца не літаратурныя рэйтынгі, а адсутнасць масавага чытача. Праблема не ў тым, на каго арыентавацца нам беларусам, — тут прыгадваецца сумна-вядомае "Как нам обустроить Россию?" А. Салжаніцына — праблема ў тым, што мастацкі вопыт тых жа А. Разанава і А. Глобуса не пайшоў на карысць беластокцам, ён застаўся не толькі не пераўздзеным, але нават не засвоеным. На шчасце, гэтыя пісьменнікі не падлягаюць "транспарціроўцы" — занадта выразныя, індывідуальныя абрысы маюць іх тэксты. Шкада, што А. Максімюк прадставіў у сваім часопісе твор абсалютна "праглобусаўскі", які нават назваю сваёю "адсылае" да першакрыніцы. З сумам трэба канстатаваць, што яго "Тэарэтык" пакуль не дацягвае да беларускіх дамавікоў. Увогуле ж, спробы ацаніць вартасці беларускай літаратуры з далечыні польскай правінцыі, нагадваюць секс па тэлефоне — пэўны вынік можа і будзе, але "фул-кантакт" — немагчымы.

Дарэчы, менавіта тэлефон стаў для мяне пасля выхаду часопіса новым візуальным вобразам правінцыі. Раней гэта быў дождж, з вядомага "ў правінцыі і дождж — забаўка". "Званок з абкома" мяне звыклае жыццё Матроны Апалонік гераіні апавядання В. Мудрова "Калодзеж". Менавіта ўсталяванне тэлефоннага апарата становіцца прычынай смерці чукчы Марычкі і беларуса Яўхіма Міканоравіча Бурдылагі, героя апавядання І. Сідарука "Не дажыць..." Тэлефонны нумар ператвараецца ў каардынаты, па якіх ладзіць сваю несентыментальную вандроўку ў мінулае Л. Вашко, аўтар апавядання "7-15". Тэлефон нагадвае чытачам не толькі аб усё яшчэ існуючай адарванасці правінцыі ад "вялікага жыцця", але і аб не знікшым да гэтага часу "тэлефонным праве", якое распаўсюджваецца і на сталічнае жыццё-быццё.

Добрае ўражанне пакідае "правінцыйная" паэзія, прадстаўленая такімі імёнамі, як Гала Гара, Алесь Аркуш, Анатоль Брусевіч, Юры Гумянюк, Міра Лукша, Эдзік Мазько. Як для мяне, дык Гумянюк увасабляе хутчэй вобраз сталіцы, з усімі сапутнымі бляскам і заганамі. Гэты малады паэт ужо падараваў нам некалькі афарызмаў, якія згадваюцца ледзь не штораз, калі гаворка ідзе пра айлічна сучасная беларуская паэзіі — "Хварэе паэзія ў тлустай бутэльцы..." ці "Дабранач, рэвалюцыя, гуд бай!" На гэты раз хітом могуць стаць наступныя яго радкі:

***Дні сплываюць іржавай смярдзючай вадой***
***ў лябірынты бясконцых каналізацый.***

Ці, не менш запамінальныя:

***Так хацелася слова ад сябра пачуць,***
***але разам з віном хлопец выплюхнуў здраду.***

Трэба адзначыць творчы рост двух другіх гарадзенцаў — Э. Мазько і А. Брусевіча. Вершаваную нізку апошняга аўтара адкрывае маніфест дэкадансу, і хаця, скажам шчыра, да дэкадансу верш прысуседзіўся выпадкова, мне блізка яго адозва:

***Падаць таксама трэба прыгожа —***
***Як падаюць цені, як падаюць промні,***
***Як падае ў неба касцельная готыка,***
***Як позірк спадае ў бяздонне.***
***Падаць трэба прыгожа...***

Сапраўдным адкрыццём у беларускай жаночай паэзіі павінна стаць у бліжэйшы час імя Галы Гары. Да гэтага часу вершы яе, па сутнасці, нідзе, акрамя блізкіх да "Правінцыі", "Калоссяў", здаецца, не друкаваліся. А дарэмна, бо гэтая "Афелія правінцыі" (так называецца яе самы выбітны, на мой пагляд, верш) вартая ўвагі не толькі крытыкаў, але і рэдактараў сталічных выданняў, якія апошнім часам скардзяцца на недахоп маладых "нераскручаных" аўтараў. Да таго ж, варта адзначыць, што Гара — аўтар не аднаго-двух вершыкаў, які блісне і сыдзе ў нябыт, а ладная паэтычнага зборніка, які вось-вось пабачыць свет у выдавецтве "Полацкае ляда".

"Правінцыя", у лепшых еўрапейскіх традыцыях, дае спасылкі на крыніцы скарыстаных матэрыялаў. Прыемнай асаблівасцю сталі і звесткі пра аўтараў, перакладчыкаў, а таксама іх фотаздымкі. Адзіная інфармацыя, якую я не змагла адшукаць, быў наклад часопіса. Аднак адсутнасць нумароў у шапіках дзяржгандлю здымае актуальнасць гэтага пытання. Для тых, хто ўмее карыстацца не толькі тэлефонам, паведамляю інтэрнэтаўскі адрас: http: // pravincyja. republika. pl. Астатнім, як у былыя часы, варта пашукаць "Правінцыю" па знаёмых ці ў чытальных залах вялікіх бібліятэк.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

ЧАСОПІСЫ

# Духоўнае балота

Васіль Быкаў... Ягоная творчасць заўсёды на вышыні. А на сённяшні дзень, я б сказаў, вышыні недасягальнай. Бо талент В. Быкава павярнуўся новымі гранямі. Ён, пісьменнік, цудоўны псіхолаг, філосаф і аналітык жыцця. Але сёння ён найперш — сатырык, які нястомна аналізуе гісторыю свайго народа, яго нацыянальны характар і псіхалогію, шукаючы ва ўсім гэтым негатыў. Скіраваны ў сферу духоўнага...

Аповесць В. Быкава "Б а л о т а", апублікаваная ў красавіцкім нумары часопіса "Полымя", сваім ідэйным пафасам мае не толькі антываенную і антыталітарную скіраванасць, а ў значнай ступені — сатырычную. Менавіта сатыра абумоўлівае "агульнае" гучанне твора, яго філасофскую, аналітычную зададзенасць, якая, арганізуючы з "простым" быкаўскім сюжэтам адзінае цэлае, дазваляе надзвычай абвострана бачыць негатыў жыцця і грамадства.

Ужо ў прозвішчах галоўных персанажаў адчуваецца "адпаведнае" стаўленне да іх самога аўтара, які быццам і смяецца з іх, і горка плача, добра разумеючы, што тэатр абсурду, дзе яны вымушаны "працаваць", вымагае таго.

Групу з трох чалавек выкідваюць з самалёта не там, дзе трэба. Яшчэ больш заблытвае і без таго няпростую сітуацыю камандзір Гусакоў, які "сумеў" зарыентавацца ноччу ў незнаёмай мясцовасці, у выніку чаго завёў усіх у супрацьлеглы бок. Праўда, тое было зусім заканамерным. У групу ўваходзілі людзі далёкія ад рэальных вайсковых будняў: штабіст Гусакоў, кухар Агрызкаў. Вырваецца з іх фельчар Тумаш, ужо добра спазнаўшы, што ёсць вайна. Але і яго знаходжанне ў групе абсурдна: па стане здароўя (з-за ранення) ён павінен быць даўно дэмабілізаваны, аднак нехта палічыў яго яшчэ карысным, таму і накіраваў з астатнімі да партызанаў, каб даставіць ім лекі. Гусакоў жа, афармляючы ў "канторы" наградныя лісты, сам захацеў узнагароды і папрасіўся на заданне. Агрызкаў — асоба загадкавая, яму даручана адказная справа пракантраляваць выкананне місіі. Закідваць у такім складзе групу ў тыл ворагу — парадокс несусветны. Аднак кожны, разумеючы ідыятызм становішча, імкнецца трымацца дастойна. Гусакоў робіць выгляд вялікага стратэга. Агрызкаў праяўляе незалежны нораў. Тумаш, знясілены ад непрывычкі цяжкай ношай, нястомна цягне яе да канца. Дапамагае ім у дарозе хлапчук Косця, які бярэцца (без асаблівай ахвоты) завесці іх у патрэбнае месца.

Аўтар праз улюбёны прыём часавых праекцый вяртае нас у недалёкае мінулае сваіх персанажаў, раскрываючы іх духоўную сутнасць. З гэтых "зваротаў" мы даведваемся пра спецыфіку працы Гусакова, які сваімі прыпіскамі ствараў сапраўдныя шэдэўры наградных лістоў, чым вельмі дапамагаў атрымаць медаль ці ордэн. Прычым атрымлівалі іх падчас і незаслужана: за "дробязь" — ордэн Леніна, за "геройства" — медаль "За адвагу". Крытэрый быў адзін — не паставіць падначаленага вышэй за камандзіра. Дагадзіць усім. Вось і прыходзілася Гусакову "апраўдваць" узнагароды, сёе-тое дапісваць, праяўляючы свой бескарыслівы "клопат". У партызанскі атрад Гусакоў ішоў са скрыняй узнагарод.

Агрызкаў усё жыццё марыў стаць лётчыкам, але не праходзіў па здароўі. Прыйшлося задаволіцца кулінарным тэхнікумам, а пасля — працай у доме генерала, дзе закруціў "шуры-муры" з яго палюбоўніцай, за што і быў адпраўлены на заданне.

Тумаш выцягваў з поля бою раненых, бачыў кроў і смерць, сам ледзь не загінуў, апёк цела і цярпер — разам з усімі...

Косця — з таго пакалення, чыё дзяцінства прыпала на ваенныя гады, г. зв. страчанае пакаленне.

Галерэя вобразаў — дзіўная і... смешная, хаця ўсё адбываецца на поўным сур'ёзе.

Усе яны прабіраюцца да партызанаў, цярпліва невыносны цяжар паходу. У рэшце рэшт трапляюць у балота. Ледзьве выходзяць з яго на сухі хваёвы грудок. Прыйшлі...

Але тут паўстае пытанне выбару, што рабіць з хлапчуком. Адпускаць — нельга, весці з сабой —таксама, бо "не палажана". Дылема вырашаецца надзвычай проста: няма чалавека — няма праблем. Прычым Гусакоў на забойства не адважваецца, як не адважваецца і Агрызкаў, яны баяцца "запэцкацца". Таму ўсё "спіхваюць" на фельчара, чалавека, які дагэтуль лячыў, а цяпер... вымушаны забіваць. Аднак і яму нялёгка застрэліць хлопца, які пачаў здагадвацца пра свой незайздросны лёс. Тумаш не бярэ грэх на душу. Косця ўцякае.

І тут адбылося зусім нечаканае: на іх напалі... партызаны. Пачалася страляніна. Гусакова з Тумашам забілі. Свае "ўлажылі-такі" сваіх, бо "іш дакуль падбіраліся. Думалі, не ўбачым..." І таму, не разабраўшыся, пастралялі. Партызанская пільнасць, давядзеная да абсурду...

Апошняя сцэна запамінальная:

"Гусакоў не варушыўся. Наўкола на траве бялелі навенькія партызанскія медалі з расшкуматанага чаргой яго рэчмяшка. Старшына (Агрызкаў) памалу падняўся і сеў на пяску, сціскаючы рукой плячо. Праз пальцы на рукаве горача лілася кроў, і было нясцерпна паныла...

Чорт ведае, што яны нарабілі!.."

Назва аповесці сімвалічная. Духоўнае балота, у якім апынуліся персанажы і ўсё грамадства ў цэлым, зацягвае ў сваё халоднае бяздонне, караючы за амаральнасць і антычалавечнасць, абсурднасць таталітарнай ідэалогіі. І выбраўца "сапсаванаму" сістэмай народу адтуль нялёгка. Ні тады, ні цяпер.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**
*г. Брэст*

## "Адзвінелі жытоў каласы"




Гэта назва адной кнігі паэзіі Мікалая Віняцкага, што пабачыла свет дзякуючы "Беларускаму кнігазбору". Як і папярэднія зборнікі гэтага аўтара ("Пад крылом лебядзіным..." (1996), "Каб не пагасла зорачка надзей..." (1998) і "Загойвай боль, сінь яснавокай зоркі" (1999), яна выйшла дзякуючы фундатарам, прозвішчы якіх М. Віняцкі называе. І гэта добра, што знаходзяцца людзі, гатовыя падтрымаць паэтычнае слова, а М. Віняцкі якраз з паэтаў, вартых такой падтрымкі. Лімаўскі чытач ужо ведае, што ён па-сваім асноўным занятку належыць да так званых "фізікаў" — па прафесіі тапограф, мае навуковую ступень кандыдата тэхнічных навук. Як сведчыць у прадмове "Дужасць крыла" лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Казімір Камейша, М. Віняцкім пройдзена ледзь не кожная пядзь зямлі беларускай і еўрапейскай часткі былога Савецкага Саюза, складзена не адна тапаграфічная карта". Цяпер М. Віняцкі працуе галоўным рэдактарам картографа-геадэзічнага аб'яднання "Белгеадэзія". Паэзія ж жыве ў ягонай душы яшчэ са школьнага ўзросту, а ва ўзросце сталым набывала па сутнасці другое дыханне. Таму творы і прываблiваюць да сябе. Традыцыйныя па форме, яны напоўнены той шчырасцю, за якой паўстаюць давер, адкрытасць, уменне радавацца жыццю. У вершах М. Віняцкага настраёвасць, якая спадарожнічае чалавеку, калі ён у звыклым бачыць паэтычнае і захапляецца гэтым. Не выключэнне і твор, што даў назву новай кнізе:

*Адзвінелі жытоў каласы*
*Пад прыгаслым святлом зараніцаў...*
*Ад успышак агністых зараніцаў*
*Задымелі ў барах верасы...*

Адразу адчуваеш змены, што адбываюцца ў прыродзе, калі лета рыхтуецца паступова ўступіць месца восені, а яна ідзе пакуль нясмела, а далей за ёй, канечне, будзе зіма і тым самым прадоўжыцца вечны кругаварот прыроды, у якім як быццам усё звычайна, але сэрца кожным разам жыве прадчуваннем чагосьці новага:

*Капяжы слёзным ранкам расы...*
*І не вабіць журчанне крыніцы:*
*Што са звонам яна не бруіцца —*
*Сціхлі птахаў лясных галасы...*

*Ад былое нязменнай красы,*
*У якой патаналі бярозы,*
*Вее сумам, нівы з марных крозаў...*

*Дрэвам зычу мінуць паласы,*
*Самай чорнай, што глуміць іх лёсы*
*У часіны суровых марозаў...*

Па-свойму піша М. Віняцкі пра каханне. І пра тое, што вытрымала выпрабаванні часам. І пра каханне, якое здатна нарадзіцца ў сталым узросце і адарыць чалавека сваім цяплом. А яшчэ ў кнізе не абмінаюцца суровыя рэаліі нашага часу, звязаныя з наступствамі чарнобыльскай катастрофы. І тут у М. Віняцкага да таго жудаснага, што адбылося, сваё стаўленне, бо многае ён пабачыў на ўласныя вочы, калі складаў паслячарнобыльскія карты. Таму і знаходзіцца лірычны герой у трывожным роздуме, які не адпускае яго ад сябе:

*Мой горкі сум развеяны па полі,*
*Іржышчам восень скрушная брыдзе...*
*Накаркалі вароны нам нядолю*
*У весні прамяніста-звонкі дзень.*

*Плывуць па небе цёмныя аблокі,*
*Кліч роспачны, расстайны жураўлёў...*
*Асірацелі слотныя аблогі,*
*Як не лічы ў аратых мазалёў...*

Мікалай Віняцкі належыць да паэтаў, якія ў сваёй творчасці паспяхова абжываюць класічныя жанры. Прынамсі, ён з'яўляецца аўтарам многіх вянкоў санетаў, напісаў і вянок вянкоў санетаў. Пошукі ў згаданым кірунку далі плён і ў новай кнізе. Упершыню ў літаратуры М. Віняцкім напісаны вянкі: актаваў, тэрцынаў, катрэнаў, трыялетаў. Гэта таксама сведчанне таго, што М. Віняцкі — творца, які любіць паэзію па-сапраўднаму, а талент яго раскрываецца ўсё новымі гранямі. Думаецца, што кніга "Адзвінелі жытоў каласы" прынясе радасць тым чытачам, якія па-сапраўднаму любяць паэзію.

**Міхась ГЕНЬКА**

ВІНШУЕМ!

# Аліне ЛЕГАСТАЕВАЙ — 60

***Родам Аліна Антонаўна з вёскі Верацеі Пастаўскага раёна. Атрымаўшы атэстат сталасці, праз два гады паступіла ў Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут, пасля заканчэння якога жыла і працавала ў Вільні. Пасля на пяць гадоў паехала на Далёкі Усход, захопленая рамантыкай будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі. На радзіму вярнулася ў 1992 годзе. На гэты час і прыпадае сапраўднае захапленне А. Легастаевай паэзіяй. Маючы шэраг прафесій — кінамеханік, настаўнік, выхавацель дзіцячага садка, інжынер-эканаміст, яна нарэшце зразумела, што паэтычнае слова, прамоўленае шчыра і адкрыта, выклікае ні з чым не параўнальнае задавальненне. Першыя вершы А. Легастаевай з'явіліся ў друку ў 1997 годзе. Цяпер на яе творчым рахунку шматлікія публікацыі ў перыёдыцы, кнігі "Яшчэ да Евы я жыла" і "На вертикали сердца".***

***Віншуем Аліну Антонаўну з юбілеем! Жадаем і надалей бадзёрасці, аптымізму, маладосці душы і новых твораў!***

Аліна ЛЕГАСТАЕВА



## І шлях адкрываецца Млечны...

●

*Наяве і ў сне аклікае*
*балтыйскае неба —*
*Зноў сябры запрашаюць,*
*дасылаюць лісты.*
*І маё ўратаванне:*
*дарога і сэрца патрэба*
*Хоць яшчэ раз прайсціся*
*па знаёмых сцяжынках Літвы.*

*Зазірнуць, як раней,*
*у люстэркі Тракайскіх азёраў,*
*Дакрануцца сівой даўніны.*
*Сярод дзюнаў пявучых*
*ды пляжаў янтарнага ўзмор'я*
*На гаючым пяску адшукаць*
*маладосці сляды.*

*У каменных карунках завулачкаў Вільні*
*Праблукаць можа тысячу год,*
*Каб бурлівыя хвалі стагоддзя заціхлі*
*І ўтрапёнае сэрца маё адпачло ад нягод.*

*Яно там засталося паловай адною,*
*Разарвалася, як і жыццё, папалам.*
*І шчыміць у грудзях ад пякучага болю:*
*Прачынаюся — тут,*
*засынаю — я там.*

*Беларусь і Літва. Дзве паловы у сэрцы.*
*Дзве зямлі дарагія ў жыццёвай сяўбе.*
*З вамі не развітаюся нават па смерці*
*І не здраджу нікому — ні вам, ні сабе.*

*І таму маё сэрца не ведае межаў,*
*Ці то бог, ці то лёс яго так сатварыў.*
*Я спяшаюся з Вільні да Белае Вежы,*
*Я з Лагойска ірвуся да Замковай гары.*

●

*Неба ўпала у рэчку —*
*Скончыўся дзень без падзей,*
*І запаліла, як свечкі,*
*Белыя кветкі лілей.*

*Ў небе успыхнулі травы*
*Неўмiручым агнём.*
*Вечара позірк яскравы*
*Заўтрашнім мроіўся днём.*

*І адбылася падзея —*
*Першапачатак высноў.*
*Ў сэрцы ўваскрэсла надзея,*
*Што мы сустрэнемся зноў.*

●

*Аблокі ляжаць, як снягі,*
*На плошчы ліловага неба.*
*Там дзесьці і нашы шляхі,*
*Куды нам вяртацца не трэба.*

*Там ноччу самотнай і днём —*
*Як нам прызнавацца ні цяжка —*
*Каханне тваё і маё*
*Блукае няўцешнай манашкай.*

*Ўпіваюцца вочы у змрок,*
*Да вечнасці туляцца плечы, —*
*Колкі, балючы папрок,*
*Як змей, варухнуўся у сэрцы.*

*Аднойчы мінае ўсё —*
*Бязлітасны вечар засведчыць.*
*Даруй нам, любоў, забыццё*
*Па-боску і па-чалавечы.*

*Нябачнае цяжка любіць,*
*Тым больш у нябачнае верыць.*
*Пяро няўрымсна рыпіць*
*Па глянцу бясчуйнай паперы.*

*І вечара багна цвіце,*
*І шлях адкрываецца Млечны,*
*І так захацелася мне*
*Следам праз верасень бегчы.*

●

*Яшчэ гарэў цыкорый*
*Нябёс агністай сінню.*
*Яшчэ палалі зоры*
*Над верасмёвай плынню.*

*І у жыццёвай прозе*
*Стуманенага рання*
*Яшчэ чакала восень*
*Паэзіі кахання.*

*А снежань ладзіў кросны,*
*І вецер ледзянеў.*
*І глух у сэрцы ўзнёслым*
*Апошняй песні спеў.*

●

*Як воблакі румяныя,*
*Кунацяцца сады.*
*У іх ад соку п'яныя,*
*Гайдаюцца плады.*

*А восень грэшнай Дзіваю*
*Мільгне і тут, і там.*
*То справа, а то злева*
*Падманіць яблыкам.*

*І чым яна не Ева?*
*І чым ты не Адам?*
*Яна лявей — ты ўлева,*
*Яна правей — ты там.*

●

*Аднойчы ты заплачаш,*
*Так, як ніколі.*
*І кожны дзень аплаціш*
*Куды як болей.*
*І паніжэе столь*
*У смутку рання,*
*І пашырэе стол*
*У час снядання.*
*І будзе хлеб гарчыць,*
*Дыміцца чай атрутай,*
*І цішыня з начы*
*Уздыхне пакутай.*
*Так сэрца забаліць —*
*Да невымоўя,*
*Як быццам мы былі*
*Адною кроўю.*
*Ты прывыкаць пачнеш*
*Да адзіноты,*
*І сустракаць яе*
*Пасля работы.*
*Будзе ляцець зямля,*
*Вятры гудзець варожа.*
*А мо заплачу я?*
*О, не дай Божа.*

г. Лагойск

ПРОЗА

I

Ёсць такі горад на Паўднёвым Урале, Ніжні Тагіл называецца. Ціхі, трэба сказаць, гарадок, спакойны. Асабліва ўдзень. Але пра гэта — пазней.

Цёмна-шэрае з адценнем хакі зімовае неба Ніжняга Тагіла апоўдні падфарбоўвалася аранжава-блакітным ядавітым дымам, што поўз, як з цюбікаў, з комінаў шматлікіх заводаў, і тады яно нагадвала карціну, адзін позірк на якую выклікаў невясёлую думку-здагадку: на небе нас чакае не толькі рай — знайшлося там месцейка і для пекла. Заводы ўсе былі пільна патрэбныя краіне і, як зазвычай, строга сакрэтныя, такія, да прыкладу, як танкавы, і іншыя, чыёй спецыялізацыі не памятаю, а хлусіць, ледзь ступіўшы на парог, не хочацца.

Аднoечы ў Ніжні Тагіл зазірнулі два шукальнікі прыгод, больш дакладна — удачы. Каб не вадзіць чытача за нос, скажам: удача для іх увасаблялася ў купюрах рознай вартасці, гэта значыць грашовыя знакі. Тады, у пачатку дзевяностых, вядома ж, савецкія, але яшчэ не драўляныя.

Прыехалі шукальнікі цягніком. Сціпла гэтак прыехалі, без шуму. Ды, калі папраўдзе, шумець ім і не выпадала, бо здабыванне названага дэфіцытнага тавару не прымае мітусні і не мае патрэбы ў самарэкламе.

Дык вось гэтыя самыя шукальнікі-здабытчыкі выйшлі на прывакзальную плошчу. Адкуль ні вазьміся — таксі падрульвае, і кіроўца, вясёлы такі, проста сам Швейк-салдацік бравы, задаволены, па ўсім, сабою і жыццём сваім нябедным, усміхаецца і гаворыць ("Клоун ды й толькі", — зазначыў я):

— Сядайце, паночкі даражэнькія, камандзіровачныя ці бізнесоўцы, нават не ведаю, як вашага брата цяпер велічаць. Калі ласка, загадвайце, куды вас даставіць. У нас тут такі расклад: налева пойдзеш — у інтэрнат патрапіш, у заводскі, гэта калі вы камандзіровачныя, направа — у гасцініцу сярэдняй рукі, дзе селяцца чаўнакі; прама паедзем — гэта ўжо са мною, у сэнсе, тады і я спатрэблюся, — у люкс-гатэль прыедзем. Што, паночкі даражэнькія, выбіраем? ("Клоун і вершаплёт, цікавы суб'ект", — зрабіў я сабе яшчэ адну закладачку.)

— Нішто сабе ў вас гарадок, незвычайны, — азіраючыся па баках (яно й праўда, чаму гэта таксіст з усёй гурбы пасажыраў акурат нас выбраў?), сказаў загадкава мой сябрук Жэня Бендзераў. І, звяртаючыся да мяне, запытаў: — Ну што, стары, не будзем эканоміць на здароўі?

— Не будзем, — падтрымаў я аматара камфорту і павярнуўся да кіроўцы: — Давай, дарагі, паказвай свае палаты белакаменныя.

Таксіст-артыст, бы па камандзе, расхінуў набіты залатымі, яшчэ эсэсэраўскімі зубамі рот і, заззяўшы, як лямпачка Ільіча, задаволена выдыхнуў:

— Ваня паноў-беларусаў як бачыш дамчыць. Усё будзе, як заўсёды у сэнсе о'кэй! — хуценька дадаў ён, міргаючы вочкамі.

"Цікава, — не пераставаў здзіўляцца. — Выскаляецца ўвесь час, як блазан, а наконт "откуда дровишки" з ходу дапяў. Проста-такі знаток дыялектаў, мясцовы паліглот".

Люкс-гатэль паўстаў у выглядзе шэрага панельнага будынка, на якім паміж першым і другім паверхамі прарэджанымі літарамі гарэла-свяцілася шыльда. Калісьці, напэўна, на ёй можна было прачытаць назву ўстановы. Светлавая рэклама гатэля і рэстарана была няспраўная, відаць, ад такога даўняга часу, што яе не тое што адрамантаваць — выключыць не маглі ці забыліся. Затое люкс-нумары з двума студэнцкімі жалезнымі ложкамі, піянерскай фанернай тумбачкай, халодным душам, радыёкропкай, але без тэлефона і тэлевізара, у наяўнасці былі.

Пасялілі нас надзіва хутка, па-еўрапейску, як быццам чакалі даўно. Звярнула на сябе ўвагу і тое, што ў лепшым, як запэўніваў нас чарговы, ужо гасцінічны, клоун, люкс-гатэлі горада не заўважалася іншых, акрамя нас, прыезджых. Не было і мясцовых начнога лёту "матыліц". "Зрэшты, яшчэ не вечар", — прыйшлі мы да высновы, зірнуўшы на дапатопны (калі меркаваць па чарнаце лаку) гадзіннік, што вісеў у фае.

Неўзабаве мы асвойталіся ў нумары, а яшчэ хвілін праз сорак я крычаў на Жэньку, які зачыніўся ў туалеце-душы:

— Ты там заснуў ці што? Хлопцу з дарогі таксама апаласнуцца не шкодзіць, вагонны бруд змыць.

Прыняўшы ледзяны душ, мы быццам нанава нарадзіліся, і я дазволіў сабе заікнуцца наконт дзяўчатак.

— Спачатку падмацуемся, — запярэчыў Жэнька. У яго былі свае правілы адносна гэтага. — Здароўе перш за ўсё. Запомні, донжуан: арганізму патрэбны вітаміны, затым грошы і толькі потым крэслы (жыццёвыя выгоды, значыць) ці дзяўчаты — гэта ўжо на выбар.

Леанід МАРАКОЎ

# Самы Ніжні Тагіл



“Табе, можа, і гэткая паслядоўнасць сыдзе, — падумаў я, — а хлопцу дзяўчаты перш-наперш. І ўвогуле, якія табе вітаміны без адпаведных капіталаў? Ды і адносна жыццёвых выгод без іх не разгонішся...”

Жэнька выставіў на стол усе прыпасы, што засталіся пасля трохдзённага падарожжа: бляшанку шпротаў (мэйд ін амаль за мяжою, гэта значыць у Прыбалтыцы), дзве камунарскія (чулі пра мінскую фабрыку “Камунарка”?) труфеліны, чвэртку хлеба і два памечаныя пролежнямі яблыкі. Яблычкі, заўважу, былі не звычайныя, а залатыя, бо купляліся ў цягніку ў спекулянта, а заадно і распаўсюджвальніка друку — той у дадатак яшчэ й газетамі падзарабляў. (Хацеў я сказаць пару ласкавых слоў таму крыхабору, але сябра мяне апярэдзіў: “Ты лепш бы не дзвесце працэнтаў накідваў, а, скажам, пятнаццаць, — даў Жэнька бясплатны ўрок самавуку дробнага бізнесу, — тады б не швэндаўся па вагонах днямі з адным вядзерцам. У інстытут табе трэба паступаць. Там розныя разумныя законы вывучаюць, напрыклад, аб пераходзе колькасці ў якасць”.)

Прыкінуўшы спажыўную вартасць вышэйпамянёных прадуктаў, мы зразумелі, што да раніцы на такім мізэры не пратрымаемся, і вырашылі наведаць мясцовы люкс-рэстаран. Там, глядзіш, і дзяўчаткі — лепш позна, чым ніколі, — надарацца. (Заўважу для эканомных і нявопытных, што фінансава больш выгадна апошняе.)

Дзеля дзяўчатак мы апранулі ўсё лепшае з таго, што ўзялі з сабою на “прагулку па Дунаі” (Жэнькава прыдумка). А ўзялі мы з сабой, паслухаўшыся парады аднаго тутэйшага жыхара, які выступіў у ролі кансультанта, шмат чаго. І гэтаму шмат чаму многія пазайздросцілі б нават і сёння. Не, не так. Больш правільна будзе сказаць: асабліва сёння. Ну, ды гэта між іншым, — пара апісаць уборпрыкід малойчыкаў залётных.

На Жэньку былі чорныя скураныя, ці, як ён з понтам удакладняў — лайкавыя, штаны ад “Karden”, італьянская байка з цёмна-вішнёвага атласу, замшавы шэры жакет і іспанскія чаравікі колеру дзіцячай нечаканасці (тым годам надзвычай моднага).

Я апрануўся больш сціпла: шакаладны касцюм англійскай фірмы “BHS”, светлая кашуля ў буйную клетку, чаравікі мала каму вядомай тады (во цёмныя былі!) “Salamander”.

Тандэмчык выйшаў неблагі: бландзін з брунетам у апратках на любы густ. Скажам так: хлопцы да бою гатовы! Але ў свядомасці чамусьці круцілася не надта вясёлая рыфмачка: надзелі, што мелі, і ўсё ж праляцелі. Такі вось вершык прыклеіўся. Думаеце, падказка зверху? На жаль, нічагуткі мы не ведалі.

Спусціліся ў рэстаран красунчыкі (вось і не вазьму ў двукоссе!) недзе а палове восьмай, але незаняты столік быў толькі адзін, ды й той у куточку (“Адсюль цяжкавата будзе дзяўчатак выглядваць”, — адзначыў я адразу) і з таблічкай “Заказаны”. Запыніўшыся ў цэнтры залы, мы яшчэ раз агледзеліся, крутнулі па-крутому галовамі: ніводнага прасвету. На няма і суду няма, і Жэня прапанаваў:

— Што ж, атаварымся на кухні і — у нумар. Перакусім і баю-бай. Ляжам раней. На досвітку ўставаць: разведка боем. Магазінаў тут, здаецца, няшмат, але таварчык, мяркую, будзе ў тэму. Сам ведаеш, як яно водзіцца: таго, што ў іх на складах гніе, у нас днём з агнём не знойдзеш. А тутэйшых дзяўчатак яшчэ паспееш шампанскім пачаставаць. Ды й ці п’юць тутэйшыя “Абраў-дзюрсо”? Тваё мінскія звычкі тут, як мне здаецца, пажадана забыць. Сітуацыя ў гэтым Кітаі нейкая... Не ведаю нават, як сказаць... нервовая, ці што. Чуе маё сэрца, што яшчэ не вечар.

І ўгадаў. Па дарозе на кухню нас запыніў якісьці бойкі хлопец і, усміхаючыся (ну зусім не Ніжні Тагіл, а — ура стаматолагам! — Галівуд), спытаў:

— Панове, а што ж вы за свой столік не сядаеце?

— За свой столік? — адначасова вырвалася ў нас у абодвух. — А-а, так-так, — працягваў ужо адзін Жэнька. — Дзяжурная па паверсе вам пазваніла, напэўна?

— Само сабою, Вольга Васільеўна нам усё перадала. Так і сказала: “Новенькім хлопцам забраніруйце столік і, каб ніхто не замінаў, дзе-небудзь у куточку...” (“Выходзь на новенькага”, — пранеслася ў мяне ў галаве, — не дарэмна, напэўна).

— Цікавая ініцыятыва з боку дзяжурнай па паверсе, вопытная, аднак, дзяжурная, — шапнуў Жэнька мне ў вуха.

Бойкі хлопец прыняў са століка таблічку, і мы селі на забраніраваныя месцы.

Афіцыянтцы нас даручылі маладой, сімпатычнай, і Жэнька, убачыўшы яе, адрэагаваў з ходу:

— Як запасны варыянт — нішто сабе, сыдзе.

“Запасны варыянт” аказаўся дзяўчынай вельмі рухавай, шустрай і кемлівай — яна відочна прэтэндавала на тое, каб перайсці ў асноўны.

Падаўшы чарговую страву, Люда-Людачка затрымлівалася ля нашага століка, выслухоўвала Жэнькавы досціпы наконт мясцовых жартаўнікоў-таксістаў, абшарпаных люкс-нумароў (“Так, не Парыж”, — пагаджалася яна) і іншых тутэйшых адметнасцяў. Неўзабаве Жэнька з “самай прыгожай на Урале” (во пайшоў кампліменты шпурляць, а гаварыў — “вітаміны”) быў ужо на “ты” і, як пасля высветлілася, пастараўся недарэмна.

За гадзіну мы расквіталіся са “сталічнай” салатай натуральнай у такіх установах якасці (гэта значыць — не адразу, як з’ясі, бяжы ў туалет), з падобным на халадзец з ног пярэстаркі-свінні (у дзяцінстве я аднойчы такім аб’еўся) курыным заліўным і разбавілі ўсё гэта “Белым буслом”, які, наўздзіў, прынеслі неадкаркаваным.

У хуткім часе наведвальнікі (і мы, на жаль, таксама) пачалі п’янець, але, акрамя ўсё больш частага мату, нас асабліва нішто не занепакоіла. І дарма.

“Бусел” затуманіў вочы, і мы забыліся “прабіць” публіку. А між тым набліжаўся момант, які я не забуду ніколі, хоць бы таму ўжо, што ён адразу паставіў пад сумненне эпітэт “ціхі” ў дачыненні да нашага месцазнаходжання.

Група музыкаў (таксама эстэтаў: усё “не гони лошадей” ды “не гони...”) пайшла перадыхнуць, і амаль адразу ж сярод запанаваўшай цішыні пачуўся дзікі лямант:

— Сёння я вам зладжу, б.., вечар! Сёння вы ў мяне пакуляецеся! Я — Мінаай! Забыліся? Устаць, сукі!

Жэнька падавіўся фрагментам таго, што ў меню значылася як гуляш, і, кхэкаючы, схапіў шклянку з ліманадам — запіць.

Крык узвіўся ў мяне за спінаю і нагадаў, што там, ззаду, знаходзіцца сцэна: магчыма, пачаўся нейкі авангардысцкі спектакль. Але інтуіцыя падказала: не, дружа, гэта не спектакль, гэта — жыццё. Жыццё, якое пачынаецца ў “ціхім” горадзе разам з надыходам цемнаты. Цёмнае такое жыццё, змрочнае. Тайга, адным словам.

— Ай-я-яй! Ахранеў народ! Міная забылі?! А Мінай сёння рэзаць будзе ахранелых! Ох, будзе! — І маларослы, моцна збіты неандэрталец гадоў трыццаці, са шмат разоў парэзаным тварам, які спалучыў у сабе неспалучальныя ленінскі лоб і мангольскія вочкі (“Відавочны шызафрэнік, — мільганула ў мяне ў галаве, — прытым закончаны”), усхапіўся з крэсла і ўскочыў на стол. Апошняе, павярнуўшыся, я ўжо не толькі чуў, але і бачыў.

Недарэзаны прыжмурыў і без таго амаль нябачныя вочкі, і яны нібы зніклі. Сабачая морда ператварылася ў пацучыную і, не адкрыўшы, а скрывіўшы рот, адпрацаваным фальцэтам завішчэла:

— Б... буду — не забуду!

Схапіўшы бутэльку шампанскага, недарэзаны з размаху агрэў суседа па галаве.

— Я — Мінай! — неслася ўслед стрыжанаму пад нуль хлопцу, які потырч кульнуўся з крэсла. — Ты ўсёк, вырадак, на каго зекры лупіш? Усіх прырэжу! — не мог ніяк супакоіцца недарэзаны, накручваючы сябе ўсё больш і больш. Спружыністы, трэба сказаць, быў, жвавы.

Па шчацэ хлопца, які зваліўся з крэсла, цякла кроў, і, паторгаўшыся крыху на падлозе, ён заціх. “Хутчэй за ўсё страціў прытомнасць, — адзначыў я. — Калі зараз жа не аказаць яму дапамогу, можа загнуцца”.

Аднак выгляд крыві толькі ўзбадзёрыў Міная.

— А ты, падла, чаго вылупіўся? — гыркнуў ён на мужчыну-бугая за суседнім столікам. — З’еш і ты, вырадак! — і ўсадзіў мужыку ў грудзі невядома адкуль узніклы нож. — На! Атрымай! Атрымай! — вішчэў Мінай, раз-пораз вырываючы нож і наносячы новыя ўдары. — Хто яшчэ захацеў? — павярнуўся нарэшце да залы.

Зараз, прыгадваючы той момант, разумееш, што Мінай быў сапраўдным бандытам, даперабудовачным, не раўня цяперашнім: за проста так мог зарэзаць. Цяперашнія самі табе “штуку” дадуць, каб нож ад іх далей прыбралі. Які там нож, калі ты катаешся ў новенькай бээмвусе і не хочаш змяніць яе на мянтоўскі ўазік!

Кроў з нажа пырснула на дзяўчатак за суседнім столікам і, асіліўшы гіпноз, яны нарэшце закрычалі (праўда, як нам падалося, не на поўную сілу).

Мінай быў хлопец спрытны, але ўхіліцца ад бутэлькі, якая ляцела ў яго ззаду, не змог: ён проста яе не бачыў. Бутэлька была запушчана кімсьці дасведчаным у кіданні. Пацэліла дакладна ў патыліцу і не як-небудзь наўскось, а самым донцам. Мінай паваліўся на суседні, злева ад нашага, стол, за якім раўлі дзяўчаткі, і, перакаціўшыся, распластаўся ля нашых ног.

“Выдаткі вытворчасці”, — падсумаваў я сам сабе.

Але Мінай не быў бы Мінаем, калі б вось гэтак проста ўзяў ды сканаў. Нож у ягонай руцэ заварушыўся, і, ачуняўшы, неандэрталец кінуўся міма нас у той бок, адкуль пafляцела бутэлька. Па ўсім, ведаў, хто мог на гэта рашыцца. І праўда, хто?

Замітусілася-забегала і астатняя “высокая” публіка. Услед за Мінаем рынуліся два-тры яго хаўруснікі, гэткія ж манголападобныя галавасцікі (не такі ўжо й рэдкі гібрыд, аказваецца). З другога канца залы за імі спяшаліся чалавек пяць асоб “каўказскай нацыянальнасці”. У руках у іх былі ланцугі.

— Пазнаю, нарэшце-такі, наш рэстаранчык, — спакойна выстаўляла на стол сімпатычная Люда заказаную Жэнем рыбу. — Класны спектакль убачыце. Зрэшты, — дадала яна, — ён ідзе тут штодня.

Рэстаран быў вялікі, а столікаў не так і шмат — месца для гладыятарскіх забавак хапала. І неўзабаве па зале з крыкамі насіліся ўсе, акрамя нас і гасцей за суседнім (справа ад нашага) столікам — чатырох дзяўчатак і зграбнага хлопца ў “адзідасе”, пад якім ля пояса ўгадвалася нешта больш сур’ёзнае, чым усе гэтыя нажы, ланцугі ды кастэты. Па-за пабоішчам заставаўся толькі наш астравок, і гэта падказвала, што лепш не выпрабоўваць лёс, сядзець ціха, не варушыцца. Жэня ад сюрпрызаў такіх анямеў і застыў, як правадыр пралетарыяту на якой-небудзь з плошчаў калісьці велізарнай, а цяпер зніклай краіны.

— Слухай, мы што, у непрабіўным полі сядзім? І на самай справе забраніраваныя? — ачуўшыся ад наслання, спытаўся я ў сябра. — І што б гэта, ты думаеш, значыла?

Нічога ён не думаў. Ды й ці можна пра што-небудзь думаць у сітуацыі, калі стук сэрца ў галаве адгукаецца?

— Вас на дэсерт пакінулі, — пачуў я ззаду ціхі голас нашай Людачкі, і да мяне дайшло: “Нас аберагаюць, як тых адабраных на забой бараноў, адкормліваюць”...

“Між сабой разбірайцеся, а лохаў маіх не чапайце”, — мяркую, нешта такое сказаў той, у “адзідасе”, тутэйшым адмарозкам. Здаецца, і “пушка” тут была толькі ў яго, астатнія так, шушамець, хіба што парэзаць могуць. Праўда, рэжуць тут дык рэжуць. Але субардынацыя, скажу вам, — узорная. І гэта добра. Значыць, галоўнае — пад аховаю “адзідасніка” сысці ад адмарозкаў, а пасля і ад самога абаронцы, таксама, напэўна, аматара і калекцыянера розных купюраў... “Асабліва чужых”, — давязваў я ланцужок, бегаючы вачыма па зале.

А на авансцэне-арэне валтузілася чалавек шэсцьдзесят. Дзяўчаткі, быццам па камандзе, выстраіліся ўздоўж сцен, вокнаў, дзвярэй. Некаторыя паспелі закурыць. Шустрыя! З дзесятак гладыятараў ужо ляжала на падлозе, калі “адзідаснік”, высунуўшыся ў акно, даў адмашку мянтам, што стаялі на вуліцы, і тыя нарэшце заўважылі непарадак.

У залу ўбегла брыгада (дваццацьтрыццаць братоў-блізнюкоў) і рукамі, нагамі, дубінкамі амаль імгненна паклала на бетонную падлогу ўсіх, што заставаліся на нагах, наведвальнікаў. Убачыўшы, як двое мянтоў валакуць за ногі ўжо без адзнакаў жыцця Міная, я зразумеў, што неўзабаве ў гэтай зале застануцца толькі ганаровыя госці: мы і каманда “адзідасніка”. Нам, магчыма, улічваючы маральныя выдаткі, дазволяць не разлічвацца за вячэру, але заплаціць за ўратаваныя жыцці давядзецца. Больш дакладна, аддаць усё: не той выпадак, каб капейкі лічыць. Жэня, бачачы, што сталы, нажы і людзі па зале больш не лятаюць, крыху супакоіўся (сядзеў ён да “адзідасніка” спінаю) і падсунуў да сябе талерку з рыбай (адно слова — Жэня).

— Фільм жахаў, — сказаў не сваім голасам. — Таранціна адпачывае. Га-а?

Для мяне жыццё было даражэй, чым смажаны карп, і я, махнуўшы Людачцы рукою, хуценька пашыбаваў да яе ў бок кухні. Трэба было нешта рабіць, неяк дзейнічаць.

“Адзідаснік”, здаецца, заўважыў мае торганні, прыўстаў, але, прасачыўшы, куды я пайшоў, і скеміўшы, што Жэня застаўся ў яго ў заложніках, зноў апусціўся на крэсла. Так я й ведаў: пры мянтах засвечвацца, паказваць, што ў яго ёсць нейкі інтэрас да нас, ён не стане. У дадатак у яго былі і іншыя турботы. Мяркую, што фразу “вы бачылі забітага апошнім”, звернутую да сябе, ён не хацеў бы пачуць нават ад сяброў. Пасадзіць не пасадзяць, але грошай за паслугі папросяць.

— Людачка, толькі адно пытанне, — стаяў я ля ўвахода ў буфет. — Як нам адсюль уцячы, у сэнсе жывымі?

— Ніяк, — спакойна адказала Люда (у гэтую секунду яна мне падалася не вельмі сімпатычнай і нават не такой ужо й маладой), — ад Зуба яшчэ ніхто не ўцякаў. Прынамсі, тут, у нашым рэстаране. А ён жа аб’явіў вас сваёй уласнасцю. “Каб на новенькіх ніхто вачанятак не вылупліваў і зяпу не разяўляў”, — сказаў усім гадзіны дзве назад. (Ага, вось як яно было!) Таму ад вас, як ад агню, усе і шарахаюцца. Лепш піку атрымаць, чым з Зубам звязацца. І я, чаго добрага, магу дагаварыцца.

Трэба было нешта рабіць. Увесь трыццацігадовы жыццёвы вопыт мне падказваў, што бязвыхадных сітуацый не бывае. І, ужо нічым не рызыкуючы, я прапанаваў, як сказала б Людачка, на дэсерт:

— Ты бачыла калі-небудзь долары? Шмат долараў. Дапусцім, сто.

Добры быў час: за сотку адкупляліся!

Слова “долары”, такое ж рэдкае ў тутэйшым ужытку, як і самі абазначаныя ім грашовыя знакі, напалохала яе, але яно ж і памагло адолець страх, дадало Людзе рашучасці:

— Выйсці можна толькі праз кухню, але там жалезныя дзверы і яны замкнёныя. Ключ у дырэктара, а яго вечарам (цяпер ведаеце чаму!) ніколі не бывае.

— Добра, а ў кабінеце дырэктара дзверы браніраваныя?

— Не, — адказала Люда, скеміўшы, што я маю на ўвазе, — дзверы як дзверы.

— Тады — дзейнічаем!

Мой план заключаўся ў тым, каб пранікнуць спачатку ў логава дырэктара, пашнырыць там наконт залатога ключыка і пасля ўжо далей выпрабоўваць лёс.

Першая частка аперацыі прайшла як нельга лепей. Трэба сказаць, што і надалей Люда актыўна трымала наш бок: ажыццяўляла сувязь між мною і Жэнькам, адцягвала Зубаву ўвагу, а пад канец заявіла, што пра сябе патурбуецца сама, чым зняла з нас маральныя вярыгі.

Карацей кажучы, мы здабылі волю.

Вырваўшыся на вуліцу, пранесліся міма “Дома быту”, “Хімчысткі”, магазіна “Хлебны” (як я паспяваў назвы чытаць!). Ламанулі за стэнды, з якіх нас віталі ўдарнікі бескарыслівай працы, і апынуліся на пустэчы, а папраўдзе — на закладзенай з уральскім размахам будаўнічай пляцоўцы. Штохвіліны рызыкуючы грымнуцца ў яму ці напароцца на ражон з іржавай арматуры, мы не прыпынялі чэмпіёнскага забегу: лепш ужо жалязяка ў бок, чым допыт з катаваннямі, які быў для нас падрыхтаваны. І Бог злітаваўся над “спартсменамі”: дыстанцыю адолелі без асаблівых страт для здароўя ды ў дадатак яшчэ натрапілі на гружаны дошкамі “КаМАЗ”.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Спаўняецца сто

З дня нараджэння заслужанага артыста Беларусі Ільі Мурамцава 2 жніўня міне 100 гадоў. Ён быў з першага пакалення салістаў нашага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Пачынаў у Мінску ў 33-м, у 38-м ужо меў ганаровае званне. На пачатку вайны апынуўся ў Маскве, з год працаваў там у Вялікім тэатры, але потым зноў далучыўся да беларускай опернай трупы. Іграў у спектаклях, удзельнічаў у франтавых канцэртных брыгадах.

Дзяржаўны тэатр оперы і балета Беларусі І. Мурамцаў пакінуў у 1952 годзе, калі паехаў з Мінска ў Башкірыю. Там ён быў салістам оперы — да апошніх сваіх дзён (памёр артыст у 1968 г.).

Мінчукі сталага ўзросту памятаюць І. Мурамцава як адметнага артыста. Ён меў прыгожы бас і з асаблівым поспехам увасабляў характарныя ды камедыйныя партыі. Сярод іх — Галіцкі, Канчак, Дон Базіліё, Мефістофель... Мурамцаў спяваў у операх А. Багатырова і Я. Цікоцкага, П. Чайкоўскага і М. Рымскага-Корсакава, А. Барадзіна і С. Рахманінава, Ш. Гуно і Д. Расіні.

С. Б.

## Казка пра табакерку... і не толькі



Завяршаючы свой чарговы тэатральны сезон, Брэсцкі абласны тэатр лялек падрыхтаваў для юных гледачоў прыемны сюрпрыз: прэм'еру паводле п'есы І. Сідарука "Залатая табакерка". У аснове твора — вядомая беларуская народная казка. Аднак стваральнікі пастаноўкі значна пашырылі традыцыйны сюжэт, ператварыўшы яго ў няспынна-імклівую, захапляльную і пацешную дзею. Шмат прыгод чакаюць на шляху галоўных персанажаў спектакля: простага хлопца Янкі, які марыць пажыць у каралеўскім палацы, яго вернага памочніка Катка Мадэста, які няспынна апякуе свайго гаспадара ва ўсіх непрыемных сітуацыях, маленькай Мышкі, якая патаемна закаханая ў Янку... Маляўнічымі і каларытнымі атрымаліся і іншыя героі казкі: Кароль і Каралеўская Дачка, Рапушка, Слуга з табакеркі, Каралеўская Варта. А разыгрываюць іх з добрым натхненнем ды ўзнёслым запалам артысты тэатра Тамара Тэвасян, Юры Цесля, Руслана Сакалова і Святлана Шутак. Як заўсёды, сваё адметнае бачанне сцэнічнай прасторы і ўсяго, што на ёй адбываецца, выказаў у спектаклі рэжысёр-пастаноўшчык Зміцер Нуянзін, арыгінальныя лялькі і сцэнаграфію стварыў мастак Мікола Данько, досыць удалую ноту ўзяў кампазітар Анатоль Багданаў і да танцавальнага аздаблення спрычынілася сцэнограф Людміла Зяленіна. Застаецца дадаць, што свой новы тэатральны сезон ужо ў верасні берасцейскія лялечнікі адкрыюць таксама гэтым спектаклем.

І. Х.

*На здымку: сцэна з "Залатой табакеркі".*

## Роляў — не пералічыць!

11 жніўня спаўняецца 75 гадоў заслужанаму артысту Беларусі Віктару Гур'еву. Многія, безумоўна, добра памятаюць оперныя спектаклі з яго ўдзелам.

На сцэне нашага Вялікага акадэмічнага тэатра Віктар Гур'еў выступаў з 1960 года, адразу пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Яго лірыка-драматычны тэнар гучаў у операх Я. Цікоцкага і А. Туранкова, Ю. Семянякі і С. Картэса, Ц. Хрэннікава і В. Мурадэлі, А. Даргамыжскага і М. Мусаргскага, С. Танеева і П. Чайкоўскага, Д. Вердзі, Ж. Бізэ і Д. Пучыні...

Галоўныя героі, характарныя персанажы, эпізадычныя дзейныя асобы — творчая рознабаковасць дазваляла гэтаму артысту мяняць амплуа. І таму роляў у яго было, што называецца, не пералічыць: ад безыменнага Старшыны, абаронцы Брэсцкай крэпасці, да князя Шуйскага, ад Германа да Пінкертона, ад Атэла да Хазэ...

Я. КАРЛІМА

ТВОРЦА

# Фенаменальны Дрынеўскі

Яно й сапраўды так: Міхась Дрынеўскі ў беларускай музычнай культуры не толькі Асоба. Ён — З'ява! Да чаго б ні спрычыніўся, усё побач з ім, следам-разам з ім набывае адметнасць.

Нават юбілей у яго атрымаўся "з прыколам". На пачатку лютага ў друку з'явілася афіцыйнае віншаванне. Потым — цішыня. Ужо ўвесну філармонія зладкавала вялікі канцэрт Акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча, прымеркаваўшы імпрэзу да 60-годдзя мастацкага кіраўніка калектыву — Міхася Дрынеўскага. На фестывалі "Маладзечна-2001" выступленне хору таксама прысвячалася юбілею маэстра. Хаця, паводле самых аўтарытэтных — энцыклапедычных — крыніц, нарадзіўся народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, прафесар Міхась Дрынеўскі ў 1942 годзе. А юбілей — сёлета...

Але ж такой бяды! У жыцці творцы ўзрост — рэч не галоўная і досыць адносная. Ну, а ў гэтым выпадку блытаніна ў дакументах — вынік ваеннага часу.

Міхась Паўлавіч неяк выпадкова даведаўся, што сапраўдная дата яго нараджэння — 12 лютага 1941 года. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны бацька пайшоў на фронт, сям'я засталася ў палескай глыбінцы, ад немцаў мусіла тры гады хавацца ў лесе. Дачакаліся бацьку. Ладкавалі нялёгкае, але мірнае жыццё. Бацька музыку любіў і заахвочваў дзяцей да вясковага грання, але ўласна музычную прафесію лічыў справай несур'ёзнай. Мінулі гады — і Міхась Дрынеўскі аспрэчыў тое меркаванне сваімі творчымі поспехамі, вядомасцю.

Калектыў, які ён узначальвае, — неацэнны скарб, прыняты ў спадчыну ад "бацькі хору", Генадзя Іванавіча Цітовіча. Дрынеўскі — самаадданы захавальнік гэтага скарбу, хаця... Працаваць з народным хорам ён у пачатку сваёй музычнай кар'еры і не марыў, прыглядаўся да Р. Шырмы, меў на мэце завяршыць адукацыю хормайстра-акадэміста і ўжо ў гады студэнцтва кіраваў народнай харавой капэлай, меў шанц навучацца пасля ў аспірантуры пад кіраўніцтвам А. Свешнікава ў Маскве, але, але...

Угрунтаванасць у беларускі песенны фальклор і прафесійны акадэмічны досвед маэстра Дрынеўскага далі хору пад ягоным





ГОСЦІ

# Ферхан, Ферзан, фурор!

Яны толькі выйшлі з-за куліс — і ўжо расчулілі публіку. Думаеце, чым жа? А вы гляньце ўважлівей на фота. Тут не адна і тая ж дзяўчына ў розных ракурсах. Два здымкі — дзве дзяўчыны. І нібыта адно аблічча: яркае, зграбнае, адухоўленае, маладое, прыгожае! Хіба дзіўна, што з'яўленне на філарманічнай сцэне гэтых вельмі падобных між сабой сясцёр-блізнят выклікала авацыю? Хтосьці жартам заўважыў: "Ім нават можна нічога і не граць, бо ўсё і так у захапленні!" Але ж гледачы-слухачы былі настроеныя на сур'ёзнае мастацтва. І недарэмна.

Вядома, выступленне фартэпіяннага дуэта — гэта заўсёды больш ці менш эфектнае музычнае шоу. Але найперш — своеадметны, сур'ёзны і найскладаны жанр выканальніцтва. Не варта зараз разважаць пра яго спецыфіку. Дастаткова сказаць, што сёстры Ферхан і Ферзан Андэр, фартэпіянны дуэт з Турцыі, гэтую спецыфіку спасціглі, адчулі. Хаця навучацца ігры на інструменце пачалі толькі ў 10-гадовым узросце. Для музычных прафесій — позна. Тым не менш, праз чатыры гады яны атрымалі спецыяльны прыз журы на конкурсе Касаграндэ ў Італіі.

Ферхан і Ферзан Андэр набылі піяністычную адукацыю ў Анкары, затым скончылі Акадэмію музыкі ў Вене. Маюць узнагароды ўжо многіх міжнародных конкур-





саў, у тым ліку Першы прыз Міжнароднага конкурсу фартэпіянных дуэтаў у Гамбургу. Ім апладзіравалі ў вядомых канцэртных залах музычных сталіц Еўропы і Далёкага Усходу. Прынамсі, гастролі дуэта адбываліся ў лейпцыгскім "Гевандхаузе", у "Гастайгу" Мюнхена, у Штутгарце, Барселоне, Цюрыху, Вене, Токіо, на прэстыжных фестывальных пляцоўках у Райнгау, Зальцбургу і г. д.

Дзякуючы пасольству Рэспублікі Турцыя ў Беларусі, сёстры Андэр завіталі да нас. Падчас "Мінскай вясны-2001" яны ўзялі ўдзел у міжнародным дабрачынным гала-канцэрце, прысвечаным 15-годдзю чарно-

# Першы позірк на Мінск

Войцах Відлак, трыццацігадовы кракаўскі кампазітар, завітаў да нас падчас Міжнароднага музычнага фестывалю "Мінская вясна-2001". Гэта быў яго першы візіт на Беларусь. І хаця госць меў толькі пару дзён для знаёмства з нашай сталіцай, яны аказаліся багатымі на ўражанні. Галоўнае з іх, зразумела, — мінская прэм'ера ягонага твора для аргана "Sonata minore" ў выкананні маладой беларускай артысткі, лаўрэата міжнароднага конкурсу Кацярыны Кафанавай. А што яшчэ? Пра гэта мы і пагутарылі з Войцахам Відлакам, які, прынамсі, адзначыў:

**— З першых жа хвілінаў, як апынуўся на вашай зямлі, пакінуўшы вагон цягніка, я адчуў сапраўдную гасціннасць і ўвагу. Мяне сустрэў кампазітар Дзмітрый Лыбін, прадстаўнік Беларускага таварыства сучаснай музыкі, якое і ладкавала канцэрт з выкананнем майго твора, і запрасіла мяне ў Мінск. Такім чынам, я пазнаёміўся з беларускімі калегамі, а праз яго — з вашым цудоўным горадам.**

**Дайце веры, я кажу гэтак не з-за ветлівасці: Мінск мне напраўду вельмі спадабаўся. Удалося няспешна пашпацыраваць па яго цэнтральнай частцы — ад плошчы Незалежнасці да Політэхнічнай акадэміі, паглядзець праспект Машэрава, стары горад, у тым ліку дом з мемарыяльным знакам у гонар Станіслава Манюшкі, які тут жыў, наведаць дом-музей Ваньковіча і Вялікую філарманічную залу, дзе адбываецца супольны канцэрт беларускіх ды германскіх музыкантаў.**

**Я міжволі параўноўваю дзве сталіцы: Мінск і Варшаву. Мінск мне падабаецца больш: адчуваецца сістэма ў забудове, большая прадуманасць у архітэктуры; вельмі кранальныя "старалітвінскія" куткі. Адчуваецца таксама, што Мінск —**



кіраўніцтвам новую энергію для творчага ўзлёту. Народны і акадэмічны: такі цудоўны феномен! Мала таго: дзякуючы Дрынеўскаму, упершыню ў нязвыклай інтэрпрэтацыі загучала беларуская хрысціянская літургічная музыка. Упершыню народны хор спяваў і ў касцёле, і ў праваслаўнай царкве.

Зрэшты, усё гэта нашаму чытачу добра вядома. Як і тое, што не адным харам жыве фенаменальны чалавек Міхась Дрынеўскі. Выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі, узначальвае Беларускі саюз музычных дзеячаў, працуе ў складзе конкурсных журы. А зусім нядаўна атрымаў новае прызначэнне — на пасаду старшыні спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Сур'ёзны музыкант. "Важны" дзеяч. Жыццялюб, жартаўнік. Просты, руплівы, калартыны, дасціпны, таленавіты беларус...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: выступленне ў пастаўскай царкве; канцэрт на вольным паветры; народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі падчас адкрыцця Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік".*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*
*і з архіва рэдакцыі.*

быльскай трагедыі. А потым выступілі з яскравай сольнай праграмай у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Той, каму пашанцавала паслухаць гэты дуэт у абедзвюх вечаровых імпрэзах, узбагаціў свой эстэтычны досвед непаўторнымі разнастайнымі ўражаннямі. Тут і віртуознасць "Варыяцый на тэму Паганіні" В. Лютаслаўскага для двух фартэпіяна. І засяроджанасць Фа мінорнай фантазіі Ф. Шуберта для фартэпіяна ў чатыры рукі. І каларыт 2-й "Венгерскай рапсодыі" Ф. Ліста ў таксама "чатырохручным" гучанні. І эстрадны бляск "Малагенні" Э. Лекуоны ды "Скарамуша" Д. Міё, з карнавальнай кідкасцю ды артыстызмам увасобленых на двух раялях. І маляўнічы гукапіс "Вясны свяшчэннай" І. Стравінскага.

Дарэчы, у варыянце для двух фартэпіяна партытура гэтага знакамітага балета прагучала ў Мінску ўпершыню. Узрушыла ігра сясцёр Андэр, якія сродкамі свайго надзвычай выразнага, пластычнага, шматграннага піянізму перастварылі магічны сімфанізм "Вясны свяшчэннай", дасягнулі амаль аркестравай моцы, вытанчанасці тэмбраў і штрыхоў, дынамікі драматургічнага развіцця!

Паслухаўшы выступленне гасцей з Турцыі, мой калега сказаў: "Гэта не проста таленавіта. Гэта больш чым таленавіта..." З надзеяй на новы візіт цудоўнага дуэта магу толькі дадаць: Ферхан, Ферзан — фантастычны фартэпіянны феерверк!

**С. Б.**

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

# Цёплае прывітанне з Берліна

***Так сталася, што шасцідзесятыя ўгодкі пачатку другой Сусветнай вайны мне выпала правесці ў сценах будынка, дзе на чацвёртую ад таго чорнапамятнага дня вясну быў пакладзены канец гэтай найжахлівай з войнаў.***

***У прыгарадзе Берліна Карлсхорсце, у камяніцы, узведзенай калісь пад афіцэрскае казіно і дзівам ацалелай ад бамбёжак, на зыходзе красавіка 1945 года асталяваўся адзін з нашых армейскіх штабоў. Менавіта тут у ноч з 8 на 9 мая адбылася цырымонія падпісання вышэйшымі чынамі нямецкага генералітэту акта аб капітуляцыі нацысцкай Германіі. Пасляваенным часам у гэтым двухпавярховіку знаходзілася рэзідэнцыя савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі, потым будынак стаў музеем. У гэдээраўскія часы называўся Музеем капітуляцыі. Цяпер жа далікатна завецца музеем Карлсхорст і расказвае пра перажытае ў вайну людзьмі як у СССР, так і ў Германіі.***

***Зала, у якой праходзіла цырымонія падпісання капітуляцыі, па сёння захоўваецца ў выглядзе, што быў нададзены ёй у гістарычную майскую ноч 45-га. На прыладжаным да сцяны тэлевізійным маніторы цэлымі днямі, пакуль музей адчынены для наведвальнікаў, няспынна пракручваецца знятая тады кінахроніка.***

Дык вось тут, у музеі Карлсхорст, 22 чэрвеня адкрылася выстаўка, названая стваральнікамі "22 чэрвеня 1941: на зломе". На зломе, значыць, на павароце да гібелі нацызму. Пры ўсёй балючасці пачуцця, якое каляндарнай датай 22 чэрвеня абуджаецца на працягу ад Брэста да Уладзівастока ў сэрцах мільёнаў людзей, той дзень шасцідзесяцігадовай даўнасці быў паваротным для германскага фашызму. Як трапна зазначыў, выступаючы пры ўрачыстым адкрыцці выстаўкі, госць з Пецярбурга Данііл Гранін, у тым, што фашызм чакае непазбежны крах, не было ў нашай тадышняй вялізнай краіне сумнення нават у чэрвені сорак першага. Нягледзячы на жудаснасць тагачасных інфармацыйных ваенных зводак.

Змест выстаўкі — расказ пра дваццаць чатыры чалавечыя лёсы, у якія ўварвалася вайна. Каму абарваўшы ці зламаўшы жыццё, а каму прынёсшы гучную славу. Каго прывёўшы да глыбокага шматгадовага роздуму, да радыкальнай змены перакананняў, а каго зрабіўшы ваенным злачынцам. Дванаццаць лёсаў у сталінскім і паслясталінскім СССР, дванаццаць у гітлераўскай і паслягітлераўскай Германіі. У прадмове да каталога выстаўкі дырэктар музея доктар Петэр Ян слушна гаворыць, што "вялікая" гісторыя, тая, якая вывучаецца і аналізуецца грамадствам, складаецца з безлічы прыватных гісторый і лёсаў асобных людзей.

Колькі ў тых дваццаці чатырох аповедах фактаў з савецкага нашага мінулага, ад напаміну пра якія зноў і зноў горка! Вось, напрыклад, прымыкаюць адзін да аднаго стэнды з біяграфічным матэрыялам пра палкаводца Вялікай Айчыннай Ракасоўскага і пра генерала вермахта Гудэрыяна, які і сёння нямала кім у Германіі міфалагізуецца як "герой бліцкрыга". І калі ласка — парадокс. Заўтрашні стратэг, маршал-кумір Ракасоўскі са жніўня трыццаць сёмага па сакавік саракавога катуецца ў турме, а Гудэрыян, які зімой сорак першага будзе стаяць на чале германскіх армій пад Масквой, на пачатку дзесяцігоддзя неаднойчы прыязджае ў СССР на выпрабаванні новых танкаў.

Германія па сёння маральна, ды і матэрыяльна сплачвае за былдзячы стан люду, гвалтоўна адпраўленага з акупаваных тэрыторый у кляты рэйх на прымусовую працу. Ды семнаццацігадовай Ганне Каламіец з Палтаўшчыны пашанцавала трапіць у такую нямецкую сям'ю, якая паставілася да яе сардэчна, пярэчыла супраць таго, каб яна насіла абавязковую для рабоў мецяну са словам "Ост", праз многа гадоў адшукала Ганну, старую ўжо жанчыну, у роднай яе вёсцы. І адзін з колішніх гадаваных ёю хлопчыкаў з нямецкай сям'і, таксама ўжо немалады, прыехаў да яе ў госці.

У часіну ваеннага ліхалецця нямецкаму вайскоўцу, калі ён апынуўся ў расійскай глыбінцы палонным, не прыходзілася чакаць ад насельніцтва спагады. А вось Гельмуту Гофману запомнілася: калі ў савецкім палоне, працуючы ў каменяломні, ён раптам, знясілены, кепска сябе адчуў, руская работніца, што працавала па-суседску, паспачувала яму і, відно было, сама згаладалая, падзялілася з ім хлебам. Гэты выпадак, апісаны Гофманам ва ўспамінах, паслужыў яму, перад тым перакананаму гітлераўцу, штуршком для пераасэнсавання "вобраза ворага" і самога сябе.

Салдат-масквіч, месца і дату гібелі якога толькі праз паўстагоддзе выявіў ягоны ўнук, і салдат са Штэціна, які, аслеплены нацысцкай прапагандай, у кастрычніку сорак першага пісаў з Украіны бацькам, што "мы амаль не бралі палонных, усё знішчалася жорстка і без аглядкі", а праз паўтара месяца дваццацігадовым сканаў у шпіталі ад цяжкога ранення... Расійскі немец, што напоўніцу зазнаў высылку з Каўказа, дзе вінаробнічала каторае пакаленне яго роду, у богам забыты казахскі стэп, — і нямецкая яўрэйка, прывезеная з Кёльна на смерць у канцлагер Малы Трасцянец пад Мінскам... Усё сюжэты не для лёгкага жанру.

У адных дзейных асоб гэтых сюжэтаў шырокавядомыя імёны. Апроч ужо памянёных Ракасоўскага і Гудэрыяна, гэта пазбаўлены ў брэжнеўскую пару савецкага грамадзянства літаратуразнаўца Леў Копелеў, маскоўскі скульптар Вадзім Сідур, славуты генетык, герой рамана Граніна "Зубр" Мікалай Цімафееў-Рэсоўскі, знакаміты джазавы музыкант Эдзі Рознер, сын нямецкага пісьменніка-антыфашыста, у часе вайны савецкі афіцэр, пасля вайны кінарэжысёр, прэзідэнт Акадэміі мастацтваў ГДР Конрад Вольф. Прозвішчы іншых, каму прысвечаны асобныя стэнды, не з тых, што на слыху.

Я быў запрошаны на адкрыццё выстаўкі, бо ёсць на ёй стэнд, што расказвае пра маю жонку нябожчыцу Ганну Краснапёрку. Дзяўчом ёй выпала васемнаццаць месяцаў нявольніцтва ў мінскім гета. Пасля ўцёку адтуль было партызанства, былі па сканчэнні вайны універсітэт, тры дзесяткі гадоў журналісцкай працы. Але перажытае ў гетаўскай апраметнай працягвала балюча трывожыць памяць і ўрэшце вылілася ў кніжку "Пісьмы маёй памяці". Кніжка выклікала шырокі рэзананс, была перакладзена на некалькі моў, у тым ліку на нямецкую. І вось у тым, праз што аўтарка ў жыцці прайшла, стваральнікі выстаўкі таксама ўбачылі штрыхі задуманай імі панарамы.

У шматлюднасці музея надарыліся і ўзрушылі спатканні з напамінамі пра Беларусь. Вось стаю перад стэндам, што акрэсліве пакручастую жыццёвую дарогу Эдзі Рознера — у маладыя гады папулярнага берлінскага джазмэна, потым уцекача ад нацызму, потым арганізатара і кіраўніка цяпер ужо легендарнага Дзяржаўнага джаз-аркестра Беларускай ССР, потым вязня ГУЛАГа, потым зноў зіхатлівую зорку савецкай эстрады, потым, на вяртанні на схіле веку ў Берлін, скрушнага там у адзіноце і забытага. Дзве жанчыны пытаюцца, ці не з Мінска я. Пачуўшы адказ, старэйшая з усмешкай запявае: "Ані лыжкі, ані міскі..." Мне застаецца толькі падхапіць. Аказваецца, заспявала песню Марына Бойка-Пракоф'ева, былая танцоўшчыца, жонка Рознера, якая дзяліла з ім гулагаўскую нядолю. А малодшая з ёю — іхняя дачка Ірына Пракоф'ева-Рознер, урач, якая ўдзельнічала ў арганізацыі непадалёк ад Мінска аздараўленчага комплексу для дзяцей "Надзея XX стагоддзя". Абедзьве цяпер жыхаркі Германіі.

Каля другога стэнда стаю перад тэлекамерай, колькі слоў папрасілі сказаць журналісты. Заўважаю, паблізу спыняецца пажылы чалавек, ківае ў знак згоды з тым, што з гаворанага мною чуе. Разумее, значыць, па-нашаму. Падумалася, відаць, эмігрант з былых савецкіх. Падыходзіць. Гаворыць, што ведае, хто я, адкуль, і расказвае пра сябе. Яго завуць Герман Шаўэр. У часе вайны, трапіўшы ў палон, ён далучыўся да дзейнасці створанага пад Масквой антыфашысцкага камітэта "Свабодная Германія" і ў якасці прадстаўніка камітэта накіраваны быў да беларускіх партызанаў у Лагойскі раён. Патаварышаваў тут з рэдактарам падпольнай партызанскай газеты, у пасляваенным дзесяцігоддзі рэдактарам тамтэйшай раённай газеты Барысам Сасноўскім. Таварышуе, перапісваецца з ім і цяпер. Нядаўна атрымаў ад яго пісьмо, адпіставаў ужо адказ, але просіць і мяне перадаць свайму партызанскаму сябру сардэчнае прывітанне.

Я незнаёмы асабіста з Сасноўскім, адно шмат паважлівага пра яго чуў. Паабяцаў перадаць такое прывітанне праз калегаў літаратараў, ураджэнцаў Лагойшчыны. Ды можа здарыцца, радкі гэтыя трапяць вам на вочы, Барыс Уладзіміравіч. Тады, лічыце, я абышоўся без пасрэднікаў, паклон вам ад нямецкага пабраціма.

Дзіўлюся, запісваю на дыктафон Шаўэра, а да размовы далучаецца яшчэ чалавек, якому ёсць што ўспомніць пра ваенную Беларусь — Готфрыд Хамахер. Вясной і летам 1944-га ён быў упаўнаважаным камітэта "Свабодная Германія" ў арміі генерала Батава. Арміі, якая, Хамахеру помніцца, вызваляла Бабруйск, Асіповічы, Пухавічы...

Прыемна, калі ўспомненае з мінулага збліжае!

Быўшы ў Берліне шасцю тыднямі раней, я атрымаў у прэзент ад пісьменніка Паўля Коля яго кнігу — толькі што выдадзены таўшчэзны раман, падзеі якога адбываюцца ў Мінску пад нямецкай акупацыяй. Коль неаднойчы бываў у Беларусі, выпусціў раней дакументальнае даследаванне пра ўчыненае тут гітлераўцамі, прысвяціў гэтай тэме нямала работ на тэлебачанні, на радыё. У мяне ёсць магнітафонная касета з запісам падрыхтаванай ім вялікай радыёперадачы пра персону гітлераўскага гаўляйтэра Беларусі Кубэ, пра тое, як быў выканаы вынесены таму антыфашысцкім падполлем смяротны прысуд. Згадваюць пра гэта (з процілеглых, зразумела, пазіцый) удава Кубэ Аніта і выканаўца прысуду Алена Мазанік. У сюжэтнай канве рамана — тадышняе забойства Кубэ, Малы Трасцянец, гета. Сярод персанажаў — сапраўдныя ўдзельнікі падзей.

Назва рамана "Цёплае прывітанне з Мінска" — горкая. Дэпартаваных у Мінск на смерць нямецкіх яўрэяў, заняволеных тут у так званым зондэр-гета — спецыяльным гета для прывезеных з іншых краін — прымушалі дасылаць знаёмым у Германію пісьмы, быццам на месцы, куды яны трапілі, умовы для жыцця створаны нармальныя і нічога не пагражае.

Перафразую назву рамана, не ўкладваючы ў словы падтэксту. Такія факты, як яго з'яўленне, як выстаўка, што стала прадметам гэтага водгуку, — сапраўды цёплае, шчырае, прывітанне Беларусі з новай Германіі.

**Уладзімір МЕХАЎ**



**надзвычай зялёны горад, і гэта мне падабаецца. Мой фотаапарат не застаўся без справы...**

**З музычнай культурай Беларусі я амаль не знаёмы. Чуў пра кампазітараў Алега Соніна, Галіну Гарэлаву, ведаю Яўгена Паплаўскага, які неаднойчы бываў у нас у Кракаве і акурат дзякуючы якому мае ноты патрапілі ў Мінск. Новае знаёмства — Дзмітрый Лыбін, твор якога — "Калядная таката" для аргана — увайшоў у фестывальную праграму разам з маім. Зразумела, мы разам наведваліся і на рэпетыцыі Кацярыны Кафанавай. І першая ж рэпетыцыя не толькі прыемна мяне здзівіла, але і ўзрушыла: я і ўявіць сабе не мог, што ў Мінску ёсць такая выдатная артыстка! Яна дакладна разумее мастацкую задуму аўтара і ўвасабляе твор натхнёна і тэхнічна бездакорна...**

Калі аўтар задаволены інтэрпрэтацыяй свайго твора — гэта заўжды прыемна. Але ж Войцах Відлак — не толькі ўдзячны аўтар, ён яшчэ і асабліва патрабавальны, спатранены ў арганным выканальніцтве, музыкант. Рэч у тым, што Кракаўскую музычную акадэмію ён скончыў па двух класах: кампазіцыі ды аргана. Яго творчыя працы неаднаразова прэміяваліся на разматых конкурсах у Польшчы, ён удзельнічаў у прэстыжных міжнародных імпрэзах, а сваё кампазітарскае майстэрства ўдасканальваў на стажыроўцы ў Каралеўскай акадэміі музыкі Даніі (фундацыя дацкага ўрада). Як арганіст практыкуе ў касцёлах, суправаджаючы імшу, а таксама вядзе ў школе клас абіходкавага аргана.

Дык вось, як падкрэсліў пан Відлак, "Sonata minore" гучала на яго радзіме ў выкананні нават двух спанатраных прафесараў, але толькі праз 3 гады і тут, у Мінску, ён пачуў пераканальную трактоўку твора, прапанаваную маладой таленавітай выканаўцай Кацярынай Кафанавай. Спадабалася яму і якасць інструмента.

Дарэчы сказаць, у той вечар і маляўнічая "Калядная таката" Д. Лыбіна, і музыка І. С. Баха (у выкананні якой да арганісткі далучалася спявачка Алена Казанцава), і нават крыху "не з гэтай праграмы" П. Хіндэміт, і адухоўлены імклівы вобраз "Sonata minore" В. Відлака, — усё мела поспех у наведнікаў залы, што на Залатой Горцы.

**С. Б.**

# Шляхі і вяртанні

НАВЕЛЫ З НАТУРЫ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## Збуржынскі і чамаданчык

Першую спробу ўліцца ў шэрагі самага перадавога класа — пралетарыяту — я зрабіў акурат пасля заканчэння восьмага класа. Што адыграла галоўную ролю ў прыняцці такога лёсавызначальнага рашэння, далібог, сёння прыпомніць не магу. Але жаданне было такім моцным, што ашаломленыя бацькі не здолелі спыніць майго імпэту. На ўсе іх угаворы прадоўжыць вучобу ў школе, я адказваў толькі адно:

—Пайду ў вячэрнюю. І стаж для інстытута зараблю, і прафесію атрымаю.

Стаж, дарэчы, тады заразблялі амаль усе, хто хацеў паступіць, бо два гады працы на вытворчасці давалі перавагу перад іншымі абітурыентамі.

Мой галоўны сябра Саша па мянушцы Касіус, дзякуючы бацьку — дырэктару універсальнай базы, уладкаваўся ў майстэрню па рамонце халадзільнікаў, дзе хадзіў у белым халаце, а другі з нашай тройкі — дзядзька Том — стаў вучнем токара на ліцейна-механічным заводзе.

Не хацеў адставаць і я. Але на працу, ды яшчэ ў няпоўныя семнаццаць гадоў, уладкавацца было ў нашым невялічкім горадзе не так проста.

А паколькі ўсюды, куды я звяртаўся, былі толькі адмовы, мама з бацькам ціха спадзяваліся, што ўсё рассасецца само сабой, і я вярнуся на "кругі своя".

Ды, як кажуць, не на таго напалі!

У адзін прыгожы дзень, дакладней, раніцу, я ў гумовых ботах, старых штанах, у бацькавым сталінскім фрэнчы стаяў разам з мужыкамі ля саўгаснага клуба, дзе звычайна праходзіў нарад. Мужыкам было крыху няёмка, а нашы пітомніцкія бабы з непадробнай цікавасцю чакалі, як бухгалтараў сынок-выдатнік атрымае брыгадзіраў загад выкідваць гной з кароўніка, бо іншай работы, улічваючы маю кваліфікацыю, мне ніхто б не даверыў.

Брыгадзір разам з аграномкай Аляксандрай Аляксандраўнай, нашай суседкай, з мамінай сяброўкай прыехалі на бартавым "ЗІЛе".

Суровы Раманавіч прайшоў міма, нават не глянуўшы ў мой бок, а Аляксандра Аляксандраўна прыпынілася і дзелавіта запыталася:

—А ты што тут робіш? Мамы тваёй тут няма.

—Я на работу прыйшоў, — гучна і трохі пафасна вымавіў я.

—Божа мой! На якую работу? Ідзі дахаты спаць, а то маме ўсё раскажу.

—Нікуды я не пайду, — стаяў я на сваім. — Пасылайце на работу разам з усімі!

Аляксандраўна пайшла чырвонымі плямамі. Такой злоснай я яшчэ яе не бачыў.

—Добра, чакай! Будзе табе работа! — І яна шыбанула ў клуб.

Хвілін праз пятнаццаць пад'ехаў дырэктараў "УАЗік", за рулём якога, як звычайна, сядзеў дзядзька Саша Бялько, а замест дырэктара Міхаіла Іванавіча побач з ім сядзела... мама.

Строга, амаль не расціскаючы вуснаў, яна сказала:

—Не смяшы людзей. Сядай у машыну. Заўтра пойдзеш на работу.

Так я стаў вучнем слесара Полацкага аўтарамонтнага завода. Начальнікам аддзела кадраў там працаваў былы саўгасны галоўны інжынер, і ён, аказваецца, па просьбе мамы ўжо некалькі дзён шукаў, куды б прыстроіць упартага хлапца.

У настаўнікі мне далі самага лепшага слесара завода, заслужанага рацыяналізатара Станіслава Антонавіча Збуржынскага. Яго партрэт вісеў на Дошцы гонару перад прахадной.

Збуржынскі быў сапраўдны ас сваёй справы. Ён рамантаваў станкі, і, як чуйны доктар, мог беспамылкова паставіць дыягназ, а затым і вярнуць да жыцця любы самы складаны механізм.

Відаць, з'яўленне такога вучня, як я, ён успрыняў як асабістую абразу. Кволы, худы, кучаравы хлопчык з белымі, зусім не мазолістымі рукамі, не выклікаў ніякага даверу.

—Ты хоць веласіпед калі-небудзь разбіраў? — хмура пацікавіўся мэтр. І атрымаўшы адмоўны адказ, толькі махнуў рукой:

—Я і так ведаў. Не будзе з цябе слесара!

І я пачаў насіць за настаўнікам чамадан з інструментамі. Гэта быў мой адзіны абавязак. Мы ішлі праз такарны цэх, дзе выточвалі каленвалы для рухавікоў, у зборку, спыняліся каля станка, майстар жэстам загадваў мне падаць яму чамаданчык, адчыняў яго, даставаў неабходныя інструменты і паглыбляўся ў працу. Часам ён адрываўся, кідаў на мяне хмурны позірк і загадваў:

—Схадзі ў слясарную, прынясі мне ключ на шаснаццаць.

Але часцей за ўсё, я, адбавіўшы 2-3 гадзіны каля маэстра, падхопліваў з яго рук чамаданчык і мы вярталіся ў свой АГМ (аддзел галоўнага механіка, як называўся слясарны цэх).

Там я з зайздрасцю пазіраў на другіх вучняў, а іх, акрамя мяне, было яшчэ двое, якія нешта выраблялі ў цісках: драілі наждаком, білі зубілам, адным словам, нечаму вучыліся.

Бачачы мой сумны выгляд, начальнік цэха малады інжынер Валодзя Баркан пытаўся:

—Чаго такі хмурны? Можа, крыўдзіць хто?

А што я мог сказаць? Што чамаданчык нашу?

Так ішоў другі месяц. Набліжалася здача на разрад. А я ўсё насіў за Збуржынскім чамаданчык і чуў адну-адзіную параду:

—Купі веласіпед. Разбяры яго да вінціка, а потым паспрабуй сабраць. Тады нешта зразумееш.

Рашэнне саспела, і аднойчы я, мурзаты і прышыблены, пастукаўся ў дзверы начальніка аддзела кадраў і паклаў яму на стол заяву на звальненне.

Ён быў страшна здзіўлены. Пасадзіў мяне за стол, папярэдне загадаўшы памыць рукі, наліў чаю і ўсё пытаўся, ці не пакрыўдзіў мяне хто.

Але я маўчаў, схлусіўшы толькі, што знайшоў іншую працу: разам з сябруком у майстэрні бытавога абслугоўвання.

—Што ж, гэта работа чыстая, — ухваліў мой выбар начальнік аддзела кадраў. — Галоўнае, каб твая мама на мяне не крыўдавала. Добра мы з ёй у саўгасе працавалі.

Дамоў я вяртаўся з палёгкай. Не хацелася думаць пра чамаданчык і Збуржынскага, пра якога па іроніі лёсу я, раённы газетчык, потым пісаў нарыс.

Наперадзе мяне чакалі маміны слёзы, бацькаў суровы пагляд і наступная ступенька працоўнай біяграфіі — грузчык бракамерыльнага цэха завода шкловалакна, на якой я затрымаўся значна даўжэй.

## Валя

У яе быў адкрыты просты твар і вельмі ясная ўсмешка. Калі яна ўсміхалася, здаецца, усё навокал рабілася святлейшым. Звалі яе Валя, і яна была дзяўчынай майго сябра па спартыўнай школе Барыса, высокага, хударлявага хлопца з цэнтра, які яшчэ, акрамя футбола, займаўся боксам. Ён і пазнаёміў мяне з ёй, калі мы аднойчы вярталіся з трэніроўкі.

Аказалася, дарэчы, што нарадзіліся мы з Валяй у адзін год і адзін дзень - 14 студзеня, таму, відаць, адразу адчулі адно да аднаго нешта блізкае, хоць ні Барысу, ды і, напэўна, самім сабе ў гэтым не хацелі прызнацца.

Хутка я даведаўся, што Барыс з Валяй пабраліся шлюбам, і ён адразу пасля вяселля пайшоў у войска. А Валя засталася жыць у яго бацькоў. Неяк я выпадкова сустрэў яе на вуліцы — з вялізным жыватом, з поўнай авоськай у руках.

Я падхапіў у яе авоську, і мы пайшлі разам.

—Што піша Барыс? — запытаў я.

—Служыць у ракетных войсках. Недзе ў казахстанскім стэпе.

—А як табе жывецца са свякрухай?

—Ды мірыцца можна. Куды ж падзенешся, мая мама ў вёсцы ажно на Расоншчыне. Ды там без мяне трое ў хаце есці просяць.

—Слухай, калі што памагчы трэба, ты пазвані. Вось мой тэлефон.

Мы дайшлі да яе дома. Валя неяк тужліва паглядзела па баках, засунула запіску ў нагрудную кішэньку сукенкі, і пайшла ў пад'езд.

Пазваніла яна неяк месяцы праз тры.

—Ты ведаеш, у нас з Барысам дачушка, Алачка.

—Віншую. Барыс ужо ведае?

—Так. І тэлеграму прыслаў. Ты не хвалюйся, мне ад цябе нічога не трэба. Проста часам бывае пагаварыць няма з кім. Вось і пазваніла.

Мы сустракаліся некалькі разоў, гулялі па горадзе — яна з каляскай, я — побач. І калі знаёмыя сустракалі нас, то здзіўлена касіліся на каляску, а часам нехта з сустрэчных, па-змоўніцку падміргваў: "ах ты, маўляў, зух які!"

Потым мне стала не да яе: трэба было паступаць ва універсітэт, потым зацягнула вучоба, потым, як я даведаўся, Барыс вярнуўся з войска...

Дарэчы, як мне казалі, "добразычліўцы" распавялі яму пра нашы прагулкі, і ён страшна раззлаваўся. Але сумленне маё было чыстае, і я гатовы быў сустрэцца з ім у любы дзень.

А яшчэ праз год Барыс пазваніў сам. Гэта было якраз у дзень майго нараджэння.

—Ну што, імяніннікі, давайце разам дзень народзін адзначым.

Так я трапіў у госці да Валі з Барысам у іх невялікую аднапакаёвую кватэру, якую ёй далі як жонцы салдата. За Ірачкай у іх нарадзілася Лена, і гэта была ўжо сапраўдная сям'я.

Так час ад часу мы і сустракаліся. Барысу вельмі хацелася мець сына, і, нарэшце, калі ім было ўжо далёка за трыццаць, у сям'і паявіўся жаданы хлапчук Ілля. Шчаслівы бацька запрасіў мяне ў адведкі, і я шчыра радаваўся, бачачы поўную сямейную ідылію — выдатная чатырохпакаёвая кватэра, жаданы сын, клапатлівыя сціплыя дочкі, верная жонка...

Ды, як кажуць, ведаў бы дзе спатыкнешся... Захварэў Ілля... Качаўся на качэлях у двары, упаў, ударыўся галавой... Валя з Барысам тады пасівелі. Паездкі па інстытутах, клініках, складаная аперацыя... Здаецца, усё абышлося, але засталіся зморшчынкі на тварах, сівізна ў скронях. Абодва неяк раптам пастарэлі.

Аднойчы я пачуў, што Барыс з Валяй ад'язджаюць у Ізраіль. Не паверыў спачатку, бо ніколі, здаецца, Барыс не выказваў такога жадання. Працаваў ён намеснікам дырэктара прафтэхвучылішча, меў аўтарытэт. Валя была інжынерам на нафтаперапрацоўчым заводзе. Ды і што ёй, беларусцы, у тым Ізраілі было рабіць?

Але чуткі аказаліся праўдай. І вось Валя з Барысам запрасілі мяне на праводзіны.

—Ты разумееш, — гаварыў мне Барыс, — я ні на што не разлічваю. Але там ужо даўно жывуць бацькі, просяць прыехаць. Ды і за Іллю перажываю: хочацца, каб хлопец падлячыўся добра, адукацыю мару даць яму харошую.

—А Валя?

—А што Валя? Яна знаеш у мяне якая — куды я, туды і яна.

Я ўжо ведаў, што Валю Барысавы бацькі не надта шанавалі, у іх часам бывалі з ёй сутычкі, і дзівіўся, што яна гатова ехаць да іх жыць.

Тым не менш, былі праводзіны, на якіх я даведаўся, што Валя з Барысам бяруць з сабой толькі малодшага сына, а замужнія дочкі застаюцца ў Полацку.

Аднойчы ў маёй мінскай кватэры а восьмай раніцы раздаўся тэлефонны званок.

—Не пазнаеш? — пачуў я ціхі жаночы голас.

—Таня? — мне падалося, што тэлефануе жончына сястра з Полацка.

—Не, не Таня. Гэта Валя. Я ў Мінску праездам. З Тэль-Авіва. Вось тэлефаную ад мінскай сяброўкі. Вечарам цягнік на Полацк. Мама ў мяне год назад памерла. Еду на гадавіну.

Мы дамовіліся сустрэцца.

Калі яна выйшла з метро, я яе пазнаў адразу. Хоць і пастарэла, хоць і зморшчынак на твары і пад вачыма стала значна больш. Але такая ж прыгожая, з той жа яснай адкрытай усмешкай.

Мы сядзелі пад тэнтам у вулічным кафэ. Кава стыла, але я не звяртаў на гэта ўвагі. Я чуў ціхі роўны Валін голас, і бачыў яе жыццё ў далёкай гарачай краіне.

Аказваецца, бацькі, пажыўшы з імі некалькі год, вярнуліся назад, у Полацк, пакінуўшы ім даўгі за кватэру і пазбавіўшы іх дапамогі ад сваёй пенсіі.

Барыс увесь гэты час падрабляў на выпадковых малярных работах. Валя спачатку мыла падлогу ў офісе, потым даглядала нейкага багатага пенсіянера, потым уладкавалася рабочай на цяпліцу. Ілля ў Ізраілі аказаўся не яўрэем, а беларусам, таму на прэстыжную вучобу, улічваючы ў дадатак і сямейны бюджэт, разлічваць не даводзілася.

У армію, між тым, яго ўзялі, і Валя з Барысам засталіся адны ў пяціпакаёвай кватэры, куды дабіраліся толькі глыбокім вечарам пасля 10-12-гадзіннага рабочага дня.

—А нядаўна, — Валя сказала гэта роўным спакойным голасам, — у Барыса прызналі лейкемію. Ён трымаецца мужна. Сабраў мяне з Іллём і сказаў, што колькі Богам адпушчана, столькі і пражыве, і мяняць лад жыцця не збіраецца. Я яго падтрымліваю як магу.

Я не ведаў, што гаварыць. Я глядзеў на яе твар, на спрацаваныя сялянскія рукі, слухаў яе спакойны голас і маўчаў. Хацелася неяк суцешыць, але словы не знаходзіліся. Я толькі моўчкі паціснуў яе руку.

Валя паглядзела з удзячнасцю.

—Дарэчы, Барыс вельмі часта ўспамінае цябе, радуецца тваім поспехам. Ён так сумаваў па Радзіме першыя гады, што я нават за яго баялася.

—А ты?

—А што я? Ты ж ведаеш, куды іголка, туды і нітка! Маму, вось шкада, пахавалі без мяне. Еду цяпер на магілу.

Мы развіталіся, і я доўга глядзеў ёй услед. Толькі цяпер я зразумеў, за што яна мне была дарагая ўсе гэтыя гады.

Яна ішла роўнай спакойнай паходкай, з высока ўзнятай галавой, і здалёк яе нават можна было прыняць за дзяўчыну. І я жадаў ёй шчасця і спакою, і я хацеў, каб яшчэ калі-небудзь раздаўся тэлефонны званок, і я пачуў у трубцы:

— Гэта я, Валя!



Фота А. МАЦЮША.

## Альбом фатографа



**Імя Алега Яравенкі мінчукам нічога не гаворыць, хаця ён ужо шмат год працуе фатографам. Выстава, якая прайшла ў Доме дружбы стала для яго першай. На ёй А. Яравенка прадставіў свае фотапрацы апошніх год — нацюрморты і пейзажы. Там многа пазнавальных кадраў: нечаканыя ракурсы Троіцкага прадмесця і Верхняга горада, замалёўкі Свіслачы і мінскіх сабораў. Увогуле, выстава кладзецца ў канцэпцыю прыгожага ілюстраванага альбома ці нават календара. Дарэчы, сам А. Яравенка спадзяецца,**



**што неўзабаве такі каляндар з яго фотапрацамі пабачыць свет.**

**Н. Ш.**

*На здымках: мінскія мясціны вачыма Алега Яравенкі.*

## "Роднае слова", № 5

**Старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі Я. Лаўрэль разважае на актуальную тэму: "Чым заменім сачыненне, або Які від пісьмовай працы прапануем на ўступны экзамен?" "Да пытання аб назовах і саманазовах Беларусі і беларусаў у творчасці Францішка Багушэвіча" — артыкул В. Ляшук. Слова В. Рагойшы пра аднаго з найбольш вядомых сучасных пісьменнікаў — паэта, эсэіста, літаратуразнаўцу ("Зорка Алега Лойкі") у сувязі з яго 70-годдзем "абрамляецца" вялікімі падборкамі вершаў Алега Антонавіча "Вось мой адчай, бяда, плач і парыў..." і "Сэрцу адкрытая белая даль..."). Лёс і паэзія Н. Тарас, якой споўнілася 85 гадоў, у цэнтры ўвагі А. Андруковіча ("У кожнай песні доля свая..."). І як дапаўненне — вершы юбіляркі ў падборцы "Цягнецца сэрца да сэрца..."). Змешчаны артыкул В. Барысенкі "Вобразнае азначэнне ў паэзіі Васіля Віткі", В. Жураўлёва "Мастацкая функцыя побыту ў рамане Міхася Лынькова "На чырвоных лядах" (часопіс віншуе аўтара з 70-годдзем), М. Абабуркі "Сінкрэтычнае маўленне ў беларускай мастацкай літаратуры (а яму добрыя зычанні ў сувязі з 60-годдзем), І. Бубновіч "Візаваць, прэміяваць, нармаваць" (беларускія адпаведнікі да рускіх дзеясловаў з элементам "ір"), П. Міхайлава "Без дзяцей ціха, ды на старасці ліха" (назвы гадаванцаў у беларускіх гаворках), У. Содаля "Літаратурны музей у Кушлянах", Е. Лявонавай "Прызнаны найлепшымі (Нобелеўская прэмія, яе гісторыя і лаўрэаты), В. Наталевіч "Беларускае Купалле, радавы агонь і рэшткі салярнага культу", Я. Дэмух "Дзённік вандроўніка, альбо Гісторыя маленькай вёсачкі". У "Літаратурным ветразі" — вершы Ю. Цыбулькі-Тукай і І. Ляшкевіч. І. Курбека выступае з вершамі-прысвячэннямі калегам. Рубрыка "І песню родную люблю я..." знаёміць з песнямі В. Шыкаўца. Кнігу П. Васючэнкі "Сучасная беларуская драматургія" рэцэнзуе А. Карлюкевіч ("Пра талент і майстэрства драматурга"). Вядучы рубрыкі "Шматгалосае рэха" У. Мархель расказвае пра перастварэнні верша Ф. Цютчава "Весенняя гроза" ("Адна "гроза" і некалькі "навальніц"). Тут жа друкуецца тэкст арыгінала і пераклады на беларускую мову А. Бембеля, В. Зуёнка, П. Макарэвіча, Ю. Свіркі, І. Чыгрына, В. Віткі, Я. Міклашэўскага, самога У. Мархеля і муляра-цесляра РБУ-11 г. Мінска А. Баркоўскага.**

# Самы Ніжні Тагіл

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9)*

Лёгкія разрываліся ад даўно забытай нагрузкі, у вачах праплывалі белыя шары, і, не змаўляючыся, мы спыніліся. Трэба было перадыхнуць і заадно прыкінуць, як там з пагоняй і ці не нас чакае "КаМАЗ" з дошкамі.

— Добра беглі, — спрабаваў жартаваць Жэня, ды я толькі зубамі скрыгатнуў: мы маглі ўжо гэтак жа добра ляжаць.

Не трацячы часу, падняў з зямлі кавалак арматуры і, асмялеўшы, зазірнуў у кабіну: нікога. Агледзеў з падножкі грузавіка мясцовыя адметнасці, прыслухаўся: быццам ціха І ў гэты момант адбылося з'яўленне Антыхрыста народу: перада мною ўзнік з цемры не зусім цвярозы гаспадар аўто, а па сумяшчальніцтве раскрадальнік будматэрыялаў.

— Гэй, мужык, — крыкнуў я работніку інтэлектуальнай у нейкім сэнсе працы. — Калі мы зараз паедзем і паедзем вельмі хутка, ты атрымаеш вось гэта, — тыцнуў яму пад нос правую руку, адзін з пальцаў якой упрыгожваў масіўны залаты пярсцёнак, — і табе нейкі час не трэба будзе красці гэтыя няшчасныя дошчачкі.

— А ад каго шыецеся? — з неймаверным, проста наркатычным спакоем спытаў мужычок. Біты аказаўся хлапчына, не прасцячок, няйначай з крымінальным мінулым.

— Ды магазінчык з такімі вось бразготкамі грукнулі.

— А-а, ну тады святая справа, — вывеў былы гоп-стопнік.

Не змаўляючыся, мы ўскочылі ў кабіну.

Я апошні раз азірнуўся на будоўлю веку, якая ўратавала нас, і не без трывогі адзначыў, што яе крэсляць уздоўж і ўпоперак агеньчыкі-ліхтарыкі: "Не супакоіліся мальцы, шукаюць. І правільна, цяпер для іх гэта справа гонару. А то, глядзіш, адны ўцякуць — іншым захочацца. Гэтак і на бабах застанешся".

Для нас жа расклад быў іншы: мы атрымалі хвілін дваццаць-трыццаць форы. І вадзіла наш аказаўся на вышыні: "Едзем да мяне", — кінуў на маё маўклівае пытанне.

"Шукайце, шукайце", — наказваў я "ліхтарыкам" ужо больш спакойна, калі "КаМАЗ" па-дакарску рвануў з месца...

Камазнік жыў у прыватным доме на ўскраіне горада. Дом, па вызначэнні яго гаспадара, быў прыблатнёны — у тым сэнсе, што з тэлефонам, і мы не стрывалі, пазванілі забытаму, як аказалася, да часу мясцоваму кампаньёну. У прынцыпе, якому там кампаньёну, — проста апынуліся неяк разам у схільным да легкадумства горадзе Сочы, дзе ён і панаплёў нам аб скарбах, асабліва мэблевых, якія ледзь не задарма бяры ў тутэйшых супершопах з падвешанымі да столі ліпкімі стужкамі для знішчэння мух і іншага паскудства. Меркавалі абысціся без яго, але зараз розніцу давядзецца дзяліць на траіх (халява, на жаль, не прайшла). Зрэшты, усіх грошай не забярэш, а з жыццём, рызыкуючы, як сёння, развітацца можна ўмомант. Карацей пазванілі.

Заспаны кампаньён доўга не мог даўмецца, "каму там не спіцца", але як толькі сцяміў, што да чаго, прачнуўся імгненна ("Дысцыплінаваны і лёгкі на пад'ём, — падумалі мы. —Гэта добра". Правільна, дарэчы, падумалі).

Прадыктаваўшы трэцяму-не-лішняму адрас гоп-стопніка на пенсіі і распавёўшы сцісленька пра нашы незвычайныя прыгоды, мы пачулі голас надзеі: "Буду хвілін праз трыццаць-сорак. На белай "сямёрцы". Пастарайцеся нікуды не выходзіць".

"А кампаньён у курсе мясцовых звычаяў, — ласкава прайшліся мы па новым дружбаку. — І чаго ж ён, гад, у Сочах пра іх сціпла прамаўчаў?"

Камазнік, пачуўшы сапраўдную версію нашых уцёкаў, пярсцёнка не ўзяў ("Хай у мяне пакуль дзесяць пальцаў на руках застанецца"), а толькі папрасіў на пляшку і паставіў умову, каб чакалі мы "свайго хаўрусніка" на вуліцы, прычым на тым, — тыцнуў ён брудным пальцам у акно, — супрацьлеглым ад яго дома баку. "Вы сёння тут, заўтра там, а мне яшчэ пажыць хочацца. Так што вось вам Бог, а вось парог..."

Мы палічылі ягоныя довады пераканаўчымі і, узаемна задаволеныя, развіталіся.

Хвіліны здаваліся гадзінамі, але калі мінула іх дваццаць восем (па секундах лічылі), убачылі белую "сямёрку", пра якую гаварыў наш новы кампаньён. Пытання "сядаць-не сядаць" у нашай сітуацыі не ўзнікала, і мы ўскочылі ў машыну.

Ехалі наструнена. Жэнька сядзеў скасабочыўшыся, грудзі ўперад, а твар да задняга шкла павернуты: ці то пагоню адсочваў, ці то маршрут на ўсякі выпадак запамінаў.

Але хваляваліся мы дарэмна.

Кватэра новага члена "Клуба ахвочых і знаходлівых" была напакавана, як кажуць, пад завязку. Нас з Жэнькам гэта дужа абрадавала: "Хто б там што ні казаў, а чым багацейшы чалавек, тым меней шанцаў, што ён вас абрабуе".

Выдзеліўшы асобны пакой, нас запрасілі (пасля душа, вядома) "павячэраць чым Бог паслаў". "Ты глядзі, нават у гэтым ціхім горадзе Ільфа і Пятрова ведаюць", — шапнуў мне Жэнька, калі мы з бурчэннем у жыватах (яго рыба і мая катлета па-кіеўску засталіся Людачцы за прэзент, як, зрэшты, і родная сотачка) ішлі на кухню.

Расказаны Віктару ўжо ў поўным аб'ёме баявік "Прыгоды беларусаў у Ніжнім Тагіле" ў гаспадара дома, на наша абуранае здзіўленне, асаблівых пачуццяў і суперажыванняў не выклікаў. Добрасумленна выслухаўшы ўсе жахі да канца, ён толькі сонна спытаў:

— І што, зусім-зусім не стралялі? Та-ак, старэюць хлопцы, старэюць... От у наш час...

Толькі пад раніцу, стомленыя бурнымі падзеямі і напалеонаўскімі планамі, мы паваліліся на аграмаднае румынскае крэсла-ложак. Жэнькаў мозг, нават засынаючы, спрабаваў аналізаваць ход і вынікі перамоў:

— Прафесіянал — сам узяў у меру, а нас напаіў прыстойна. Цікава, ці шмат лішняга нагаварылі? Але, нямала на грудзі прынялі. Ды як не напіцца пасля такога працоўнага дня? Га-а? Нанава ж, можна сказаць, нарадзіліся.

"І ў кашулі, забыўся ён, ці што", — дадала мая затуманеная свядомасць.

— Праўду, бацька, кажаш, — было апошняе, што выціснуў я з сябе, адключаючыся.

Прачнуліся мы пад абед (калі меркаваць па пахах, што плылі з кухні), прынялі душ, пагаліліся і, адчуўшы сябе трошкі больш упэўнена, рушылі на пяшчотныя для вушэй гукі, якія падае мяса, калі яно смажыцца-сквірчыць на патэльні.

— Вы ўжо даруйце гасцям нязваным, доўга мы вас учора мучылі гаворкамі? — узяў Жэня на сябе ініцыятыву ў наладжванні кантакту з жонкай таварыша па бізнесу. — Хоць Саша, — валіў ён усё на мяне, — любіць пабалакаць. І пазабаўляцца трохі. Напрыклад, нядаўна ў незнаёмым горадзе пайшоў у рэстаран шыкоўны і нават жывы адтуль вярнуўся. І ўсё б добра, ды толькі дагэтуль не зразумеў, што вярнуўся зусім выпадкова... Не слухаецца старэйшых. А пад стол жа пешкі хадзіў, калі некаторыя...

— Ды хопіць табе, — абарваў я дэмагога. — Ты лепш успомні разумніка з графскімі замашкамі, аматара люкс-гасцініц.

— Усё нармальна, — падвяла вынікі размінкі гаспадыня кватэры, — ідзіце есці. Віктар хутка пад'едзе.

І сапраўды, праз дзесятак-другі хвілін у кватэры празвінеў званок, і проста з парога наш новы кампаньён, усміхаючыся, выпаліў:

— Сёння ваша чарга наліваць! Усё нашмат лепей, чым я меркаваў! Ну ды пра гэта пазней, спачатку перакусім, — скончыў ён, распранаючыся.

— Не, не, не! — захваляваліся мы з Жэнем, займаючы месцы па адзін бок барыкад. — Нам без інфармацыі яда ў горла не палезе. Ты ўжо не муч, не будзь катам.

— Капрызныя гэтыя беларусы, усё ім не так. Але тут я згодны, правільна. Спачатку справа, гэта значыць, крэслы ці самалёты, а ўсё астатняе (тут, не змоўчу, — ішоў намёк на маіх бедных дзяўчатак) потым. Добра, будзем лічыць, пераканалі. Дык вось, дазвольце зачытаць увесь спіс. — І Віктар пачаў пералічваць: — На каменны кар'ер — два чалавекі... Не разумеюць прыезджыя панове жартаў, — паглядзеўшы на нас, канстатаваў ірад. — Хоць, вядома, успомніў. Вы ж учора ГПА на залаты значок здавалі. — Але, улавіўшы строгі погляд жонкі (вясёленькі партнёр трапіўся, зрэшты, як і ўсе ў ціхім горадзе днём), прыступіў да справы: — Першае — дванаццаць крэслаў з...

— Віктар, ды перастань ты! Людзі за трыдзевяць зямель не жарцікі твае слухаць прыехалі! — прыкрыкнула ўжо на нашага мучыцеля жонка.

— Ды я не жартую. Дванаццаць крэслаў са сталовым гарнітурам. Вытворчасць — Югаславія. От ужо й сапраўды, чалавеку слова сказаць нельга...

— Дык і кажы гэтае слова, — зноў падтрымала нас новая саюзніца, — а не балбачы абы-што.

— Ну добра, добра, не наязджай, — спрабаваў адбіцца Віктар.

— Чытай, чытай, — хорам перайшлі мы ў атаку.

— Другое — дваццаць дзіцячых пакояў. Made in USA

Спіс быў настолькі доўгі (меў усё ж гад права дражніць дзікіх гусей), што, разявіўшы раты і слухаючы чарговае "мэйд ін...", мы неўзабаве перасталі лічыць, за колькі ходак зможам вывезці скарбы Тутанхамона, у сэнсе — заляжалы ў тутэйшых магазінах дэфіцыт.

— Кландайк нейкі, — падвёў Жэня вынік агучвання ўсяго спісу.

— Далей, — не супакойваўся наш новы партнёр. — У чыгуначны кантэйнер (фуру" — забыць — на дарогах аблавы з нашых мальцоў дзяжураць) улазіць...

Усё гэта, трошкі звыкшыся з дзівосамі, мы слухалі больш спакойна.

У рэшце рэшт (пасля зацятай спрэчкі паміж мною і Жэнем, у якой я выйграў "Армянскі Юбілейны" — цяпер на кожным рагу, а тады ўдзень з агнём не знойдзеш) першую ходку вырашана было зрабіць праверачнай, па многіх пазіцыях адразу не біць. Узяць для пачатку толькі дзіцячыя", а там відаць будзе.

— Тады — за справу. — Віктар праявіў задаткі кіраўніка, і мы пачалі збірацца.

Гадзіны праз паўтары белая сямёрка" пад'ехала да склада часоў Пятра Вялікага. Калі я ўбачыў аграмадную аблезлую гаспадарчую будыніну і побач з ёю старадаўні двухпавярховы асабняк з забітымі вокнамі, чамусьці адразу ж падумаў: "Акурат тут нас і пахаваюць. Разрэжуць на кавалкі-костачкі і раскідаюць па розных кутках Вішнёвага саду" (нягледзячы на рэстаўрацыйна-шкодніцкія работы, склад нагадваў памешчыцкую сядзібу, канфіскаваную і прыстасаваную да інтарэсаў працоўнага народа ў навальнічныя гады).

Але дарэмна гэтак думаў. Паявілася тоўстая загадчыца склада і замест расчлянення прапанавала нам гарбату, пернікі і іншую ўральскую слодыч. Спрабавала паднагрэць лохаў, спекульнуць на іх яшчэ і самацветамі. Але дападны Жэнька адказаў строга: "Самі з вусамі і выхад на каменьчыкі прамы ведаем" (ох і хлусіў!). Гаспадыня, на наша здзіўленне і радасць, не пакрыўдзілася і, не трацячы часу, прыступіла да справы:

— Хлопчыкі й праўда ўсе дзіцячыя забяруць? — перапытала з недаверам у Віктара. — Та-ак, за дзень двухмесячны план выканаю. І куды толькі можна сапхнуць два дзесяткі дзіцячых па такой вар'яцкай цане? Бываюць жа чокнутыя.

"Цікава, — прыкінуў я, — амерыканскія дзіцячыя пакоі па так, колькі ж гэта ў нармальных грашах? Ага, па сто трыццаць сімвалічных, сказаў бы, долараў нікому ў Ніжнім Тагіле не патрэбныя. Паўстае пытанне: і куды бандыты глядзяць? Золата пад нагамі валяецца, а яны па старой звычцы спрабуюць залезці ў чужыя кішэні. Эх, хлопцы, хлопцы! Развіццё штурхае ўперад, а не дэградацыя. Страцілі вы нюх, страцілі..."

Пагрузка заняла досыць шмат часу: Віктар сачыў, каб рабочыя насілі ўпакоўкі асцярожна (а значыць — паціху) і складвалі іх роўненька — адну да адной (золата, а не кампаньён!). Гадзіны праз чатыры пагрузка драўніны, як гаварылі нецярплівыя грузчыкі, была закончана, і, не чакаючы канца змены і не звяртаючы ўвагі на вокрыкі тоўстай загадчыцы, хлопцы пайшлі ўзяць пару-тройку пузыроў. Тут, само сабою, Віктар быў вінаваты, торкнуў, чорт, хлопцам чацвяртнога. Тыя ажно працверазелі. Па дзве белай на рыла?!", — перапытвалі здзіўлена. Так, можа здарыцца, што сёння "напрасно старушка ждет сына домой", — гледзячы на грузчыкаў, падумаў я. — Літр без закусі — гэта сур'ёзна... Хоць на Урале свае паняцці аб рэкордах..."

Але ўзніклі праблемы і ў нас.

Калі загрузілі дзіцячыя гарнітуры, выявілася, што ў кантэйнеры застаецца вольнае месца. Прыкінуўшы па сітуацыі, Віктар агучыў дзіўную для сферы бізнесу прапанову:

— На тыя грошы, што належаць мне, возьмем яшчэ адну дэфіцытную па ўсім Саюзе пазіцыю — індыйскія ручнікі — і заткнём дзіркі. Нельга скрынку няпоўнай адпраўляць. Гарнітурчыкі сюды-туды пакоўзаюцца, і пад канец падарожжа замест іх атрымаем высакаякасныя дровы... Наконт грошай — думаю так: адным заездам вы сытыя не будзеце, прыедзеце яшчэ, тады і разбяромся.

Такая высакароднасць у той вясёлы час была рэдкасцю (цяпер ні пра што такое наогул гаварыць не даводзіцца), і адмаўляцца ад яе было б нечуваным глупствам.

Пакінуўшы Жэню ахоўваць тавар, мы з Віктарам пракаціліся да бліжэйшага прызаводскага магазінчыка. Зайшоўшы праз загадчыцу проста на склад, забралі ўвесь наяўны лазне-пральны асартымент і ў дадатак, на ўсякі пажарны, прыхапілі яшчэ дзесятак кітайскіх падушак.

Вярнуўшыся да галоўнай пагрузачнай пляцоўкі, мы заспелі Жэню ў стане лёгкага афекту. Аказваецца, замест запланаваных паўгадзіны нас не было ўсе дзве. Як жа, аднак, у працы час ляціць! Бедны Жэнька ледзь не памёр ад розных благіх думак. Ды й напарніца, здаецца, спрабавала свой шанц не ўпусціць. Цікава, адбіў зямляк атаку ці ўсё-такі спазнаў мімалётнае шчасце?

У той далёкі ўжо час чыгуначныя кантэйнеры, што каталіся па краіне туды-сюды, яшчэ не адсочваліся бандытамі, і да грузавой чыгуначнай станцыі мы даехалі без праблем.

Нейкі час быў затрачаны на афармленне розных паперак і ўручэнне лёгкіх прэзентаў прадстаўнікам ніжэйшага бюракратычнага звяна. Неўзабаве, я сказаў бы, нарэшце-такі, мы вызваліліся ад грузу, які вісеў на нашых карках ужо больш за дванаццаць гадзін.

Рукі былі развязаны, але чамусьці тут жа захацелася адчуць іх звязанымі, і я ўспомніў пра дзяўчатак. Наўздзіў, і рыбак Жэнька падтрымаў маю ініцыятыву. Аднак беспрэцэдэнтная па нахабнасці прапанова кампаньёна Віктара: "Я ведаю адзін класны рэстаранчык..." — нас адразу астудзіла. Гэта як распалены метал у ваду акунуць (пра што, дарэчы, яшчэ будзе).

— Не-не, час дадому, дружа. Стаміліся качаваць, — амаль хорам адклікнуліся мы.

"От малайчына, — падумаў я пра Віктара, — ведаў, як ратаваць хлопцаў ад рэпартажу з пятлёй на шыі".

...Да адпраўлення рэйса "Свярдлоўск — Масква" заставалася пяць хвілін. Жэнька глядзеў у ілюмінатар (як больш пацярпеламу — ён так лічыў — гэтае месца дасталося яму) і вальяжна (расслабіўся, змей, ужо трошкі) гаварыў:

— Цікавае ўсё-такі ў нас жыццё, Санёк. Многія жывуць сабе — хлеб жуюць ды й добра. А мы не проста жывём, а радуемся, што жывём, правільней — што жывымі засталіся. Э-э, а што гэта ты, хлопец, прыціх, быццам нябожчык? — злёгку штурхануў мяне Жэнька. — Сэрцам чую — чарговую авантуру плануеш. Ты, гэта, канчай жыццём маім адзіным распараджацца. Мысліцель-камікадзе...

Але я думаў пра іншае: Ці даляціць да месца прызначэння наш стары, сто разоў заслужаны паветраны лайнер? І наогул, каму гэта прыйшло ў галаву даваць самалётам назву не самых якасных цыгарэт?"

## II

— Лена? — крыкнуў я, як толькі на другім канцы паднялі трубку.

— Я слухаю.

— На Заходнім фронце без перамен", — пачаў я з пароля. — Гэта Саша. Ведаю, што зараз Віктар наўрад ці дома, але ўсё роўна званю. Добрымі навінамі заўсёды прыемна падзяліцца. Наш груз дайшоў цэлы і непашкоджаны. І ўжо рэалізаваны. Уяўляеш, мэблю грузілі аптавіку адразу ў машыну. У яго аж вочы разбегліся ад халявы несусветнай. Гэтак ён сказаў, калі ягоная фура была запоўнена. Наогул, усё о'кэй. Віктараву пайку, як дамовіліся, адклалі, так што хай не хвалюецца. Лен, ты мяне слухаеш?

— Слухаю...

— А чаму голас у гаспадыні такі журботны? Можа, галубка чаго не дачула? Усё добра, кажу! — ужо крычаў я ў трубку.

— Не, — адказалі на тым канцы дроту, — не ўсё добра.

— Што значыць — не ўсё добра? І што значыць "не"?

— Не, значыць, Віктара няма, — аглушыла мяне Лена.

Я адразу не ўсвядоміў сэнсу гэтых слоў, але адчуў: здарылася нешта кепскае, жахлівае, непапраўнае.

— Лена, ты супакойся, калі ласка, а то я не зразумеў. Віктар кудысьці з'ехаў?

— Але, з'ехаў. Туды, адкуль не вяртаюцца. Забілі Віктара. У пад'ездзе чакалі. Без Зуба не абышлося.

І на тым канцы дроту паклалі трубку.

Нейкі час я сядзеў, як ачумелы. Перазваньваць Лене не рашыўся і, ратуючыся ад жаху, што апанаваў мяне, аўтаматычна набраў Жэньку.

— Прыходзь, ёсць пытанні, — абарваў ягонае "а-а" і ўдакладніў: — Сур'ёзныя.

Жэнька, напэўна, здорава гнаў сваю "шасцёрку", бо прыімчаўся хвілін праз пятнаццаць.

— Чаго заторгаўся? — замест "дабрыдзень" пачаў ён з парога. — Мянты выклікалі? Не? Званілі? Правільна! Не крадзі!

— Супакойся, канчай юродстваваць. Я пазваніў Лене. Павіншаваць хацеў, а там... Бяда. Віктара забілі. Яна гаворыць, Зуб, "адзідаснік".

Усмешка сышла з Жэнькавых вуснаў.

— Та-а-ак, — сказаў ён, сядаючы на тумбачку трумо ў вітальні. — Ты, гэта, Саша, не пажартаваў? — спрабаваў ён адсунуць ад сябе страшную навіну. — Та-а-ак... — паўтарыў і замоўк.

— Тут, пакуль ты віражы па горадзе выпісваў, я сёе-тое прыдумаў. Далучышся — добра. Не — сам спраўлюся. А вырашыў і зразумеў я вось што: мне цяпер не заснуць спакойна, пакуль спакойна спіць Зуб. Папраўдзе, я толькі тады і засну, калі ён на вечны спачын адыдзе. Карацей кажучы, грошы ёсць, здароўе — таксама, так што нечаканы доўг, мяркую, мы аддаць здолеем. Я правільна кажу "мы"?

Жэнька паглядзеў на мяне і, нервуючыся, сказаў:

— Ты лічыш, што я хачу на ўсё жыццё даўжніком застацца? Забілі як з-за цябе, гэтак і з-за мяне! Не ўжо, выбачай, жыць з каменем на шыі — гэта не па мне.

— Добра, добра, я ведаў, дружа, што ты не падвядзеш. Шчыра кажучы, шанц аднаму грукнуць Зуба, мяркую, у мяне хоць і маленькі, але быў, а вось шанцаў застацца пры гэтым жывым, адчуваю, не было.

— Ну, артыст, без сябра хацеў змыцца, — пачаў прыходзіць да памяці Жэнька. — Ляцім хоць калі? Ці ў цябе, як заўсёды, свае адметныя задумкі ёсць?

— Ніякіх палётаў! Прозвішчы свяціць не будзем. Паедзем сціпла, цягніком і маім любімым плацкартам. Выйдзем, так бы мовіць, у сэнсе — увойдзем, у народ. Калі ў праваднiцы ў вагоне дзесяць пасажыраў — гэта адно, а калі да паўсотні і пяцёра зайцоў — іншае... Паспрабуй там запомні кожнага.

Праз некалькі гадзін мы выйшлі з дому і пазванілі Лене з галоўпаштамта: лішні раз кватэрны тэлефон засвечваць не варта было.

У далёкім Ніжнім Тагіле трубку ніхто не падымаў. Не падняла яе Лена і за пятнаццаць хвілін да адпраўлення цягніка, калі я званіў ёй з вакзальнага перагаворнага пункта.

Двое шукальнікаў прыгод, а больш правільна — праблем на сваю галаву, як і калісьці, таксама днём сышлі на станцыі цікавага, як яны гаварылі цяпер, горада. У цягніку іх моцна прымарыла, і зараз абодвум каштавала немалых высілкаў заставацца пільнымі, адсочваць сітуацыю.

Крочачы разам з масамі да аўтобуса (таксі тут, як ужо ведаем, толькі асабліва шустрых дэбютантаў-самазабойцаў возіць), яны ўбачылі непадалёк знаёмага жартаўніка. Той актыўна размахваў рукамі і штосьці гаварыў-тлумачыў чарговаму кліенту-смяротніку наконт люкса і гэтак далей.

Па ўсім, ён пераканаў новага госця горада, бо той махнуў рукой і сеў у машыну, якая павязе яго ў апошні шляхдарожку, гэта значыць у госці да Зуба.

Кемны (гэтак Жэнька цяпер зваў таксіста-залатазубіка) завёў катафалк, мігнуў фарамі, і двое новых знаёмых паехалі — у адной машыне, але ў супрацьлеглых кірунках.

— Ты пабач, — прыпыніўшыся, павярнуўся да мяне Жэнька, — а жартаўнік, па сумяшчальніцтве, яшчэ і сігнальшчык. Святлом знакі падае. Мінулым разам праваронілі...

— Наводчык, — канстатаваў я. — А ты думаў, у госці да "адзідасніка" мы проста так патрапілі? Не, дружа, выпадковасці і недарэчнасці могуць быць толькі ў сумленных людзей, а ў Зуба ўсё паводле плана. Адпрацавана. Далёка, адчуваю, спартсмен пойдзе. Мянты — ягоныя. Сарокі-таксісты — ягоныя. Рэстаран-маліна — ягоны. Зброя ёсць. Поўны камплект для хроснага бацькі-пачаткоўца. Але тут я на месцы Зуба памятаў бы і іншае: хросных час ад часу адстрэльваюць...

На плошчы перад аўтавакзалам стаяла сем-восем "Ікарусаў", апошні раз мытых гадоў дзесяць назад — якраз перад адпраўкай з Венгрыі ў Саюз непарушны рэспублік свабодных. Мы падыходзілі да аўтобусаў, і пара было прыкінуць, у які сядаць. Жэня вырашыў лёс не выпрабоўваць і "як даехаць да Алтайскай" спытаў у касіркі. Пенсійнага ўзросту, але яшчэ напарфумленая жанчына ўбачыла, напэўна, у Жэньку штосьці ад свайго крэўнага сына і дарогу "да сястры" растлумачыла вельмі даходліва. Ехаць па мясцовых мерках было зусім нядоўга — хвілін дваццаць.

Неўзабаве мы знайшлі свой аўтобус, але дружна прамінулі яго і запыніліся ля суседняга. Пачынаў дзейнічаць сціплы план пад "шпіёнскай" назваю — антыперахват. "Увага і яшчэ раз увага", — казалі мы перад ад'ездам. Асцярожнасць плюс розум і мінімалізацыя рызыкі — зарука поспеху. Зрэшты, хто не рызыкуе, той есць гуляш у заводскай сталоўцы за трыццаць сем капеек і мае шанц атруціцца не меншы, чым мы патрапіць у лапы да Зубавых падручных.

Да перапоўненага аўтобуса набліжаўся кіроўца, мы зразумелі: пара — і ўскочылі ў пярэднія дзверы, калі яны ўжо зачыняліся. Азірнуўшыся, я пабачыў, што спроб зрабіць тое самае нікім не прадпрымалася. "Нічога, — сказаў сабе, — перастрахавацца ніколі не шкодзіць, асабліва зараз. Ці тыя, што павінны былі нас сустрэць, ужо селі? — пачаў вышукваць воўчыя позіркі. Агледзеўся: — Не, здаецца, такіх няма".

Ехаць давялося стоячы. Нядоўгія дваццаць хвілін абярнуліся добрымі пяцідзесяццю. Але скончыліся і яны. Трохметровым скачком нам удалося пакінуць агульнадаступны сродак перамяшчэння і не трапіць у лужыну, сярод якой ён спыніўся. Зрэшты, у хуткім часе мы пераканаліся, што лужына разлілася на ўсю Алтайскую вуліцу.

— Нічога, — падбадзёрваў мяне напарнік, — затое сабакі след не возьмуць.

Прызямліўшыся ўвогуле ўдала (у гразь амаль не запэцкаліся), мы агледзелі навакольныя дамы: амаль усе "панелькі" былі новыя і аднолькавыя (як мы ў першы прыезд гэтага не заўважылі — забіць мала), і само сабою, "з лёгкай парай", так сказаць, блізняты як на падбор, прытым інкогніта — без нумароў.

— І добра, што дамы не распісаны, — культурны, значыць, народ жыве, не тое што тыя французы, напрыклад: так і прагнуць вывесці на сцяне які-небудзь пасквіль, — бадзёра выпаліў Жэнька. Адвёўшы душу, ужо больш спакойна абгрунтаваў: — Правільна, кажу, што лічбачак не відаць, язык на тое і дадзены, каб да Кіева давесці.

Але вось тут разумнік занадта разгаварыўся. Абарыгены, якія разам з намі вываліліся з аўтобуса, умомант растварыліся, а новыя вылазіць чамусьці не спяшаліся. Ну ды неяк разбяромся...

Разбірацца давялося гадзін са дзве. Нарэшце мы ўсё ж пазванілі ў дзверы кватэры, гаспадыня якой амаль тры дні не адказвала на званкі з розных кропак адной шостай часткі нашай планеты. Не адказала яна і цяпер. Што ж, працуем далей згодна з планам. Едзем да самай шустрай і, можа быць, пакуль адзінай у горадзе ўладальніцы вельмі дэфіцытнай купюры з партрэтам дзядзькі Франкліна. Балазе, адрасок у нас быў.

Пра свой візіт мы, само сабою, Людачку не папярэдзілі: раптам красуня захоча пашукаць шчасця на другім беразе. І таму, адчыніўшы дзверы, гаспадыня кватэры ледзь не выпала ў асадак. "Гэта ж трэба, бегункі, аказваецца, зусім ашалелі, — думала, напэўна, яе светлая галованька, — без запрашэння на пагібель вярнуліся. Слаўныя ўсё ж хлопчыкі, адчайныя..."

— Прывітанне самаму дарагому і любімаму ў дзівосным горадзе мар чалавеку! — грымнуў Жэнька. Малайцом, аднак жа паказаў сябе.

— А-а, хлопчыкі! Жывыя! Я так і ведала, што вы тады ўцяклі, надта ж ужо Зуб шыпеў, вярнуўшыся. Як заведзены гойсаў па зале. Перажываў страшэнна. Глядзець было шкада.

— Люда, ты ўжо выбачай, але неяк няёмка на парозе пра салідных таварышаў гаварыць, — перапыніў красатулюафіцыянтачку Жэнька.

— Ой, і праўда, праходзьце, распранайцеся, — ачомалася нарэшце Люда. — Зараз гарбату пастаўлю. Ці ў вас каве аддаюць перавагу? І гэты негрыцянскі напой у калекцыі ёсць.

— Люда, — зноў наструніў гаспадыню смяльчак Жэнька. — Гарбату-каву пасля будзем піць. І не толькі гарбату, напэўна. Цяпер жа хацелася б іншым заняцца: сёетое табе распавесці. Увесці цябе ў курс сякіх-такіх планаў. І галоўнае, каб ты ўсё запомніла, не памылілася пасля, бо мы з гэтай хвіліны пераходзім у стан мінёраў на аб'екце.

Пра планы Людзе было расказана падрабязна і дакладна. Каб усё правільна зразумела і не паднесла нам сюрпрыза. План смелай дзяўчыне спадабаўся, асабліва апошняя яго частка — разліковая: Людачка магла стаць уладальніцай дзесяці Франклінаў, а гэта ўжо штосьці нават для чалавека са свабоднага свету, а ў тутэйшым балоце на такія грошы можна было і кватэрку купіць...

Гадзіны праз паўтары-дзве з кабінета дырэктара люкс-рэстарана мы спакойненька назіралі, як мянты-чарнасоценцы, не набліжаючыся да параднага, прыкурвалі адну цыгарэту ад другой. Заўважылі, што рукі ў хлопцаў свярбяць і свярбяць ужо даўно. Яны ўсё часцей пазіралі на вокны рэстарана і на свайго галоўнага. А галоўны — на Зуба.

Пачуліся стрэлы. Галоўны мент імгненна павярнуўся да "адзідасніка", але Зуб паказваць зубы не спяшаўся. Малайчына, хлопча, так трымаць! Адмыслова мянтоў выдрэсіраваў. Талент! Дураў, а не Зуб!

Але тут быў, мабыць, пададзены божы — для мянтоў — знак, і "брыгада хуткай дапамогі" рынулася ратаваць тых, што патаналі ў крыві. Як і мінулым разам, усё было скончана хвілін за дзесяць-пятнаццаць. Удзельнікаў халяўнага банкету пагрузілі ў знаёмую закратаваную турмуаўтобус. Падумалася: "У іх, напэўна, і свае рэкардсмены ёсць. Цікава, які рэкорд наведання-катання ў каталажцы з кратамі?"

Люда, як і дамовіліся, пастукала трыдва-тры. Жэнька да дзвярэй пайшоў, але адчыняць не стаў, аўтаматам спытаў:

— Хто?

— Я гэта, Люда, не бойцеся.

Жэнька прыняў выгляд самца на распеве і, адчыніўшы фанерку-заслонку, ганарыста прамовіў:

— Прашу!

"Фраер!" — канстатаваў я.

"Дело было к вечеру", але працяг вершыка складваўся іншы — прынамсі, гэтак мы зразумелі словы завербаванай намі чужой сярод сваіх Людачкі. Уляцеўшы ў кабінет, яна спехам выклала:

— Дзень на дзень не выпадае, але сёння, здаецца, ён наш. Зуб падчапіў тут аднаго з заезджых. Ванька-таксіст, Зубаў пабрацімчык, яго прывёз. Спікуля ўжо апрацавалі і вось-вось павязуць да Зуба на фазэнду. Параспытаюць пры свечках: што ды як, дзе і колькі. Я аднойчы прысутнічала пры такой гаворцы. Больш не хачу. А цяпер на развітанне скажу галоўнае: Зуб, калі вязе каго-небудзь да сябе, бярэ толькі двух гарылаў, так што, хоць і невялікі, але шанц, другога ў бліжэйшы час не прадбачыцца. Карацей, думайце самі, — ужо не гаварыла, а спявала афіцыянтачка-хаўрусніца. — Рашайце самі (якое сапрана прападае!)

— Што рашаць? Лёс усё за нас размеркаваў, так што — па конях! — Жэнька відавочна браў ініцыятыву на сябе. Што ж, іншы б спрачаўся.

Яшчэ італьянская, "ад сваёй мамы", Людмілінага бацькі "капейка" па-паляўнічаму ўчэпіста ўзяла след новай "васьмёркі" "адзідасніка". Гонка на адлегласці доўжылася не больш за паўгадзіны, прайшла наўздзіў спакойна і скончылася паблізу непрыкметнага дамка з мансардамі. Хлопцы праводзілі госця ў дом, ні разу не азірнуўшыся. Ды й навошта? Яны былі вельмі далёкія ад рэальнасці: прыкідвалі, колькі каму перападзе пасля боса.

Падмывала зазірнуць на агеньчык і нас, але пасля невялікай перапалкі калегіяльна-мужна вырашылі заставацца на месцы. Для нас яшчэ не надышоў той самы вечар.

А ў падвальчыку-спартзальчыку дамка з мансардамі ішла чарговая серыя фільма жахаў — "месца сустрэчы вызначылася акурат апоўдні" (сцэнарый яго ўявіць няцяжка).

Зуб глядзеў на прывязанага да батарэі няўдачлівага аматара падарожжаў і ціха, але ўцямна, натхнёна (не дарэмна — як пасля высветлілася — тры курсы Шчукінскага адолеў) гаварыў:

— Ох і малайчына ж ты, спікульчык наш ненаглядны, любімы, залаты, цудоўненькі! Разумненькі ты наш і багаценькі Бураціна! І што ж цябе, чубка такога кучаравага, занесла ў нашы мясціны таежныя? Няўжо гэтак капустачкі захацелася? І навошта галоўка разумная падштурхнула на дарожку слізкую? Ну, што ж, паможам пакутнічку, пазбавім цябе ад хваробы грашовай, астудзім галоўку гарачую. Сідар, акуні, зрабі ласку, нашага друга ў вадзічку. Акуратненька мачні, без гвалту. Як ты ўмееш...

Сідур-памідор (гэта я па фэйсе ягоным праязджаюся) адчапіў бедачыну ад батарэі, за чупрыну павалок асвяжацца да бочкі з вадой, што стаяла непадалёку. Пасля трэцяга нырца госць датумкаў, што ў гэтым падвальчыку, зусім не вінным, у чацвер квіткоў на жыццё не выдаюць і абарыгены могуць дажартавацца з ім да самага што ні ёсць скону. Хлопец вырашыў, што час ратаваць цела, а не грошы, але сівая брудная карга ўжо прыкмеціла яго на тым, не гэтым беразе.

Праз гадзіну Зуб высветліў не толькі код ячэйкі ў камеры захоўвання, дзе ляжала сумачка з пасагам, але й той факт, што пульс у гастралёра больш не намацваецца. "Шкада", — хацеў быў сказаць па дабраце сваёй душэўнай, але, улавіўшы позірк звар'яцелых у перадсмяротным ціку вачэй, прамаўчаў.

Нервы ў Жэнькі на паверку аказаліся слабейшыя за мае, і неўтаймоўнай Людачцы ўсё часцей даводзілася забаўляць сябра-праведніка апошнімі мясцовымі ньюсамі.

Я ўжо і сам быў досыць узвінчаны, калі нарэшце запаветная рулетачка-брамка расчынілася і бравая група амаральнага ўздзеяння, гучна выказваючыся на роднай чынгісханскай, пайшла да машыны.

Завялася "васьмёрачка", бы той гадзіннічак, што зараз цікаў пад яе бензабакам. Люда тонка заўважыла і нашу ўвагу звярнула на тое, што ў тутэйшых краях, па зімовай звычцы, новыя машыны і ўлетку трохі прagraюць. Шамацела на месцы ўжо хвіліну і гэтая. На такі якраз час Жэнька, дэбютант-падрыўнік, і навёў у пякельнай машыне будзільнічак.

Выбух атрымаўся такой сілы (прыгадаліся словы ўмельца-піратэхніка: "За гэтую штучку спрачацца аб цане не варта. Яна канкрэтна праблемы вырашае") і аглушыў і асляпіў нас так, што ў першае імгненне здалося, быццам падарвалася акурат наша бедная "капеечка". І толькі пабачыўшы, як цела "адзідасніка" разам з прыліплымі да яго заднімі дзверцамі ляціць-вяртаецца да брамкі (Во лёс! А толькі ж што героем быў...), у нас адкрылася другое дыханне.

Паволі, ледзь шоргаючы шынамі, шэрая "капеечка" пачыкільгала ў бок чыгуначнага вакзала. Да адпраўлення цягніка "Ніжні Тагіл — Масква" заставалася больш як дзве гадзіны, і спяшацца не было куды...

— Саша? — пачуў я жаночы голас у трубцы і, пазнаўшы яго, падскочыў ад радасці:

— Лена, гэта ты, прапаўшая грамата?

— Я, хто ж яшчэ. Але ты, галоўнае, не хвалюйся і не сварыся. Зараз усё растлумачу. Толькі не крычы, дай слова сказаць. Пасля таго, як ты зноў пазваніў, я зусім змучылася. Увесь час прыгадвала тую ноч. Вы сядзелі, спрачаліся, жартавалі. Як Віктар быў рады, што вы аб'явіліся! Якія планы складаў! Тая ноч бясконца пракручвалася перад вачыма. І я пацiху вар'яцела. Баялася, што дзеці адны застануцца. І калі зрабілася зусім няўсцерп, сабрала Любку, Уладзіка і паехала да мамы. Там мы прабылі два тыдні. Мама ёсць мама. Хадзіла за мною, супакойвала, настаўляла. І адчай паступова прайшоў. А сёння раніцаю мы вярнуліся дадому. Заходзім, і амаль адразу ж — званок. Падбягаю, бяру трубку. Уся калачуся, Віктара ўспомніла. Ледзь выціснула з сябе "алё". Чую голас: "Гэта следчы Дангулаў. Мы вырашылі, што неабходна яшчэ раз сустрэцца з вамі. Тры дні назад невядомыя падарвалі машыну вельмі паважанага ў горадзе чалавека. Магчыма, тыя ж бандыты, якія забілі вашага мужа". Ты ўяўляеш, Саша? Паважанага чалавека! Га-а? Як табе? Цікава толькі, хто ж гэтую гніду прыкончыў? Помнік такім бандытам ставіць трэба! Саша, ты хоць чуеш мяне?

— Чую-чую, — супакоіў я Лену, — чую: помнік бандытам. А сам сабе падумаў: "Вось прыбярэш з дарогі такую погань, і адразу ўвекавечыць цябе гатовы. Давядзецца, відаць, усё ж мяняць прафесію..."

МЕРКАВАННЕ

# Што такое “тайдзяпа”, або Як мы змагаемся за чысціню нашай мовы?

Слова “тайдзяпа” мы пакуль што ні ў энцыклапедыях, ні нават у самых экзатычных слоўніках не знойдзем. А з’яўляецца яно па ўсіх параметрах і паказчыках эквівалентам такой камбінацыі з чатырох літар, як НКУС. Камусьці ўяўляецца, што выкарыстанне гэтай літарнай камбінацыі — паказчык клапатлівых адносін да нашай роднай мовы, бо кожная літара тут беспамылкова і адэкватна перакладзена з рускай. У сваім спалучэнні літары НКВД у арыгінале ўтвараюць назву той “фірмы”, якая пакінула крывавы след у шматпакутнай гісторыі Краіны Саветаў, у памяці народаў. Назву гэтую на чужыя мовы не перакладаюць, а перадаюць так, як яна гучыць у арыгінале. Само па сабе спалучэнне літар НКУС звычайнаму беларусу з вуліцы або з сельскай мясцовасці нічога не гаворыць. А вось яго рускі арыгінал не можа не адгукацца трывожным, балючым рэхам.

У свой час у Еўропе існавала такая ж самая фірма пад назвай “гестапа”. Нашы моўныя заканадаўцы і аўтары запусцілі ва ўжытак і ўсеагульнае карыстанне тую чужую назву, не паклапаціўшыся аб перакладзе яе на беларускую мову. А ўтворана яна ад слоў “Geheime Staats Polizei” — “Тайная дзяржаўная паліцыя”. Пачатак гэтых слоў у беларускім варыянце і павінен утварыць назву “тайдзяпа”. Ну дык што: можа, перахрысцім “гестапа” ў “тайдзяпа”, як гэта зрабілі з НКВД? І тады ўжо будзе на ўсе сто працэнтаў па-беларуску?

Кожная мова мае свае законы, уласцівасці, нормы. Але колькі разоў здараецца, што яны парушаюцца ці то з прычыны нядбальства нейкіх аўтараў, няўважлівасці, а то і ў выніку некампетэнтнасці або і звычайнага нежадання лічыцца з тымі ці іншымі нормамі і традыцыямі. А яшчэ сустракаюцца прыклады неўпарадкаванасці нейкіх правіл. Возьмем хоць бы такі. Афіцыйна чамусьці пішуць у нас Рэч Паспалітая. Так называлася Польшча яшчэ ў XV стагоддзі, а потым аб’яднаная польска-літоўска-беларуская дзяржава пасля Люблінскай уніі 1569 года, а таксама Польшча пасля 1918 года. Ды і сённяшняя Польшча — гэта таксама Рэчпаспалітая. Праўда, нейкія невукі запусцілі ў шырокі ўжытак выдумку, быццам Рэчпаспалітая ўтварылася толькі пасля Люблінскай уніі і існавала да падзелаў яе ў канцы XVIII стагоддзя. І ўсё.

Сама па сабе назва Рэчпаспалітая прыйшла да нас з польскай мовы, дзе яна пішацца ў адно слова. Гэта — пераклад лацінскіх слоў “res publica”, якія так добра абжыліся і ў рускай і ў беларускай мовах — прытым у злітным напісанні: “рэспубліка”. І неяк ніхто ад гэтай нормы не пакутуе. Дык чаму мы назву дзяржавы “Рэчпаспалітая” павінны абавязкова дзяліць і парушаць усе нашы традыцыі?

А яшчэ ж некаторыя аўтары ў назве “Вялікае Княства Літоўскае” слова “княства” пішуць з малой літары. Чаму ў назве нашай колішняй дзяржавы дапускаецца малая літара?

Даводзілася мне бываць у розных мясцінах Беларусі, і ўсюды можна было пачуць нейкія свае, мясцовыя асаблівасці мовы. Так, напрыклад, каля Расонаў я чуў, як слова “семяна” ўжывалася ў якасці назоўніка адзіночнага ліку: “семяно”, “семяны”, “з семяною”. Аднак нідзе — ні на Беласточчыне, ні на Наваградчыне, ні на Полаччыне, ні ў іншых месцах я не чуў слоў тыпу “найдобры”, “найсмачны”, “найпрыгожы”. Але вось пачаў сустракаць іх у паэтычных творах. І адразу атрымліваецца такое ўражанне, быццам да мёду нехта дадае прыправу з дзёгцю. Вядома, па-руску можна гаварыць і пісаць “предобрый”, “премилый”, “премудрый”, “презабавный”. Тое ж самае мы назіраем і ў польскай мове. Але ў нашай мове спрабуюць карыстацца такімі формамі людзі, якія як быццам у штодзённым жыцці думаюць не па-руску і не папольску. Вось якія дзівы дзіўныя здараюцца.

Неяк аднойчы я звярнуўся да газетнага работніка з пытаннем: “Як гэта вы карыстаецеся формулай “прыносім прабачэнне” ў тых выпадках, калі вы самі вінаватыя і павінны былі б прасіць прабачэння? Прабачэнне — гэта дараванне віны. Але калі я правініўся, то абавязаны не прабачаць, не прыносіць прабачэнне, а прасіць, каб мне прабачылі і даравалі віну. Аднак жа ёсць у нас людзі, якія ў практыцы карыстаюцца рускім аналагічным выразам “приношу извинения” і па гэтым узоры ляпаюць па-беларуску “прыношу прабачэнне”. Той газетны чыноўнік, пра якога я сказаў вышэй, строгім голасам запатрабаваў, каб я не лез не ў свае справы, а на наступны дзень газета зноў “прыносіла прабачэнне”.

Здараецца і так, што, мабыць, на рускую мову арыентуюцца нашы заканадаўцы-лінгвісты. У “Хроніцы літоўскай і жамойцкай” расказваецца пра фінал бітвы на Ашмене ў 1321 годзе: “...Тых немцаў, што ўцякалі, літва аж да Ашмены ракі гнала, б’ючы, забіваючы, колючы, страляючы, топячы і хапаючы так, што на кільканаццаць міль па дарогах і палях трупаў нямецкіх поўна было”. Слова “кільканаццаць” сустракаецца ў летапісах і сёння жыве ў дыялектах, але ў слоўнікі і ў літаратурны ўжытак яго не пускаюць. Ці не таму, што яго няма ў рускай мове? Прытым яно не замяняецца ніякім іншым словам. І калі даводзіцца назваць прыблізную лічбу, большую за 10 і меншую за 20, то выкручвайся, як хочаш. Продкам нашым пашанцавала, бо іх ніхто не абмяжоўваў, і яны мелі права браць патрэбнае слова з жывой мовы.

Не раз мне даводзілася сустракаць у друку катэгарычнае сцвярджэнне, што хтосьці давёў справу да канца і паставіў усе кропкі над “і”. А колькі гэтых “усіх” кропак можна паставіць? Праўда, на братняй нам Украіне можна гаварыць і пра дзве кропкі. Але калі гэтых кропак будзе нават дзве, то ніхто не скажа пра іх “усе”. Ды і не ўкраінскую мову такія аўтары маюць на ўвазе, не на яе арыентуюцца. Дык на якую?

Яшчэ 11 ліпеня 1988 г. Максім Танк у сваіх дзённіках пісаў: “Не ведаю, чаму ўдзельнікаў вайны ў Афганістане называюць у нас “інтэрнацыяналістамі”?” У тую пару ўсім тлумачылі, што савецкія салдаты выконвалі там інтэрнацыянальны доўг, таму яны і заслужылі такое ганаровае званне. Тады яшчэ можна было нешта такое сцвярджаць. Але, колькі розуму трэба мець сёння, каб лічыць, што нашы салдаты і сапраўды выконвалі там інтэрнацыянальны доўг? А назва тая ніяк не выходзіць з ужытку.

Здараецца, што камусьці надта захочацца пафарсіць, і ён робіць гэта, не баючыся выставіць на паказ нейкае глупства. Неяк трапіў мне на вочы зборнік з лацінскай назвай “Viqilia tertia”. Я ўзіраўся і вачам сваім не верыў. Аўтар замест літары “г” (выбуховай) напісаў “к”. Для яго, аказваецца, тут усё роўна. А павінна ж быць “Tertia vigilia”. Назву зборніка ён, мабыць, пазычыў у В. Брусава. Але чамусьці не даў рады правільна перапісаць.

Мы з дзяцінства навучыліся свята верыць усім прыказкам і прымаўкам. А я, грэшны, пакаюся, што ёсць такія прыказкі, якім я не давяраю. Нядаўна пры нагодзе адзін знаёмы аўтарытэтна нагадаў мне прыказку: “Пад ляжачы камень вада не цячэ”. А я шчыра прызнаюся, што і да гэтага часу не ведаю, як камень павінен рухацца, каб пад яго вада цякла. А яшчэ каму ці для чаго яна пад каменем патрэбная?

Мы часта чуем пра тое, што воран ворану вока не клюе. Можна падумаць, што калі хтосьці камусьці “вока клюе”, то адзін з іх з’яўляецца воранам, а другі галубчыкам. І калі мы возьмем такую пару, як Сталін і Троцкі, то каго палічым воранам, а каго — голубам? Або згадаем яшчэ Сталіна і Гітлера, і дзе мы тут знойдзем галубчыка?

Здавалася б, найменш недаверу павінна была б выклікаць прыказка: “Як кот наплакаў”. Калісьці і я ўспрымаў яе, як і ўсе, пакуль не здарылася са мною адна гісторыя. Некалькі гадоў таму назад, калі памерла мая суседка па доме і па дачы Леакадзія Вацлаваўна, я быў на дачы. І неяк пад вечар пачуў за сцяною страшэнна роспачны, жахлівы чалавечы голас. Можна было падумаць, што кагосьці рэжуць. Нешта схапіўшы ў рукі, я адчыніў дзверы з веранды, каб ратаваць чалавека ў бядзе, і аслупянеў: перада мною стаяла кошка Леакадзіі Вацлаваўны і крычала дзікім, немым чалавечым голасам. Я вярнуўся назад, нешта ўзяў, каб пакарміць кошку. Ад дачы да нашага дома каля трыццаці кіламетраў. Для мяне і сёння ўся гэта гісторыя застаецца вялікай, невырашальнай загадкай.

Я зусім не збіраюся аспрэчваць глыбінны сэнс народнай мудрасці і невычэрпнае багацце народнага вопыту, увасобленага ў прыказках і прымаўках. Але здараецца, што нават карыстаючыся імі можна спатыкнуцца.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

ПАРОДЫІ

Мікола ШАБОВІЧ

## Балада пра рогі, або Няверная жонка-2

З прыцемкаў берага-мола,
Быццам адна з камет,
Ты падаеш голая,
Пудзіш цэлы сусвет.

...Вусны твае цалуе
Вогненны Арыён...

Б’юцца голыя ногі,
Плынь адбірае цябе.
Месяца вострыя рогі
Рэжуцца на ілбе.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

***Ці начытаўшыся Лоркі,***
***Ці ўспомніўшы Лёнеў Парыж,***
***Нібы няверная жонка,***
***Ты голай у ноч бяжыш.***

***Не, каб спытаць дазволу,***
***Даць дапісаць радкі.***
***З прыцемкаў берага-мола***
***Кідаешся ў плынь ракі.***

***Я за табой цікую,***
***Нібы які шпіён.***
***Бачу: цябе цалуе***
***Вогненны Арыён.***

***Грудзі твае і ногі***
***Песцяць аж дзве рукі.***
***У мяне праразаюцца рогі***
***На лбе, як маладзікі...***

***Вось ужо цэлы тыдзень***
***Хаваюся ад людзей.***
***Што ж нарабіў ты, злыдзень,***
***Вогненны ліхадзей?***

Нічыпар ШЭРАНЬКІ

## Пахмельныя адведзіны

Па дымку, што з коміна плыве,
Бачу: цётка тут яшчэ жыве.

**Мікола МАЛЯЎКА**

***А ўздыхала, а журылася як,***
***Бы ў апошні раз на стол стаўляла гляк.***
***Аж глядзі ты — ўецца з коміна дымок,***
***Цётчын твар ля бровара ўзмок.***
***Зазірне дзесятак гультаёў —***
***Уміг налье ім чаркі да краёў.***
***І дзядзькі, забыўшыся на ўзрост,***
***Прапануюць за Маляўку тост:***
***— Каб умеў і дальш радкі вязаць***
***І дымок дзе ўецца падказаць!***

## Далёкі скачок

На лыжах я б ляцеў над Парыжам,
Як вароны над Менскам ляцяць.

**Віктар ШНІП**

***Крануўшы ўяваю альпійскі схіл,***
***Даю радкам узрушлівы разгон.***
***Мой творчы ўзлёт сягнуў за небасхіл,***
***Над сонным Менскам спудзіўшы варон.***

***Бліскочуць рыфмы, быццам снег з-пад лыж,***
***І студзяць шал чароды шэрых хмар:***
***О Божухна, ды пада мной Парыж!***
***Над брамаю б’е чырванню ліхтар!***

***Паэты! Кіньце эратычны ўсхліп***
***Цадзіць чарнільна змучаным пяром,***
***Бо другарадна ўсё: найпершым Шніп***
***Нястомным быў пад гэтым ліхтаром.***



*А мы мантажнікі-вышотнікі...* Фота Я. КОКТЫША


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2506
Нумар падпісаны ў друк 26.7.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4215

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12